КАНТАКТЫ:
А/с 82, 220030, Менск-30, БЕЛАРУСЬ
тэл. (017) 225 51 10
факс (017) 206 59 09
ngo@user.unibel.by
www.ngo.unibel.by

Наклад 299 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.





## тэма



## меркаваньне



## асамблея



## лікбез



## biblio



## інфарматар



## рэгіён



## de facto



## зробім лепш!



## край



## дыскусія



## кансультацыя

# стоп-сыгнал для грамадзянскай адукацыі



Сьвятлана Крупнік,
**экспэрт Агенцтва гуманітарных тэхналёгіяў, кандыдат пэдагагічных навук**

**Калі мне прапанавалі падумаць пра лёс грамадзянскай адукацыі ў Беларусі і напісаць на гэты конт артыкул, я была зьбітая з панталыку. Таму што першапачаткова працавала, прадумвала і праектавала сыстэму адукацыі Беларусі ўвогуле. І, вядома ж, з улікам існых рэаліяў, па факце, адукацыя ў Беларусі большай часткай зьяўляецца дзяржаўнай. Разважаючы пра рэформу беларускай адукацыі, я не сумнявалася, што прыярытэты ў рэфармаваньні трэба аддаваць дзяржаўнай сыстэме адукацыі, што роля грамадзянскай адукацыі ў працэсах рэфармаваньня агульнай сыстэмы беларускай адукацыі вельмі вялікая. Я б нават сказала, што праблема грамадзянскай адукацыі зьяўляецца першачарговай, таму што толькі на фоне забесьпячэньня грамадзянска-прававой граматнасьці можна вырашаць праблемы рэфармаваньня, дэмакратызацыі, гуманітарызацыі і г.д.**

Яшчэ з 1990-х гадоў мая дзейнасьць і кар'ера ў адукацыі разгортваліся ня толькі ў дзяржаўнай сыстэме, але і ў недзяржаўным грамадзкім сэктары. Спачатку ў межах Агенцтва гуманітарных тэхналёгіяў і Фонду Сораса, а пасьля — у якасьці незалежнага экспэрта і аналітыка адукацыйных сыстэмаў. З 2000 г. удзел у недзяржаўным сэктары быў прыпынены, цяпер ён мае эпізадычны характар. Я хутчэй стала займаць аддаленую, незалежную пазыцыю, добра разумеючы ўсю абсурднасьць свайго становішча. У чым абсурднасьць? Немагчыманазіраць і дасьледаваць сыстэму грамадзянскай адукацыі ў якасьці “незалежнага” экспэрта, ніяк ня ўключанага ў працэсы станаўленьня грамадзянскай супольнасьці. Незалежнасьць экспэрта — гэта свайго роду ілюзія і перастрахоўка ад памылак.

Я лічу, што самы лепшы спосаб трансьляцыі ідэі грамадзянскай супольнасьці — гэта самому быць самавызначаным, быць грамадзянінам, будаваць гэтае грамадзтва і ўвесь час даказваць права вучыць гэтаму. “Па дзеяньнях вашых судзіць буду”. Але абсурднасьць становішча зусім не адмяняе права рэфлексаваць і самавызначацца па-новаму. А сапраўды, ці існуе грамадзянская адукацыя ў Беларусі? Што гэта такое ў сытуацыі 2003 году? Што засталося ад мінулай грамадзянскай адукацыі? Ці магчымае разьвіцьцё? І як, у якіх формах можна найбольш эфэктыўна ажыцьцяўляць грамадзянскую адукацыю сёньня ў Беларусі?

* * *

Спачатку ўдакладнім, што такое грамадзянская адукацыя. Грамадзянская адукацыя — *трансьляцыя* **ідэі** адкрытай грамадзянскай супольнасьці і *рэалізацыя* гэтай ідэі ў канкрэтных гістарычных умовах канкрэтнай краіны.

З гэтага вынікае, што асноўная праблематызацыя грамадзянскай адукацыі можа ісьці як у кірунку абмеркаваньня ўласна самой ідэі, так і ў кірунку абмеркаваньня мэтадаў яе трансьляцыі і рэалізацыі. Я б не хацела абмяркоўваць саму ідэю. За апошнія дзесяць гадоў яна стала

## *Калі думаеш — дзейнічай, калі дзейнічаеш — думай*

больш-менш зразумелай і засвоенай, хаця тут даволі шмат спрэчных момантаў. Калі мне давodзілася супрацоўнічаць з Фондам Сораса, самае дзіўнае, з чым давялося сутыкнуцца — людзі, якія працуюць у самім Фондзе і па яго грантах, нават не задаваліся пытаньнем, чаму і навошта Сорасу патрэбна інвэставаць сродкі ў Беларусь. Нібыта так і трэба, прымаўся сам факт, што нехта абавязаны інвэставаць бедную Беларусь. А а зь якой радасьці?

Прасьцей простага адказаць, што ён спэкулянт і мае нейкую матэрыяльную зацікаўленасьць. Але не судзі па сабе. Дж.Сорас, як мне вядома, вучань вялікага філёзафа К.Попэра, які напісаў “Адкрытае грамадзтва і яго ворагі”. Сорас сапраўды ня толькі пісаў пра адкрытае грамадзтва, але спрабаваў і спрабуе рэаліза-

ваць ідэю. І кіруе ім ня столькі матэрыяльная зацікаўленасьць, колькі сама *ідэя*. І як беларусам можна карыстацца грантамі, не разумеючы сутнасьці ідэі і робячы нешта сваё местачковае? Калі б Беларускі Фонд Сораса не закрыў Лукашэнка, яго закрыў бы сам Сорас у выпадку неразуменьня беларусамі сэнсу яго дзейнасьняў.

У гуманітарным сьвеце існуюць элемэнтарныя правілы прыстойнасьці захаваньня аўтарскай уласнасьці і спасылак. Зразумела, што ідэя грамадзянскай адукацыі выдуманая і прапісаная не беларусамі. Яна распрацаваная вядучымі заходнімі філёзафамі — К.Попэрам, Ф.Хайкам, Дж.Сорасам і інш. Беларусы, як і іншыя эўрапейскія народы, могуць толькі карэктна ўзяць яе з культуры і прымяніць да сваіх гістарычных умоваў. Праблема з таго і складаецца, што ўзяць культурна ня можам, ня кажучы ўжо пра прымяненьне. Пачынаем будаваць свой "ровар", і, вядома ж, тут не абыходзіцца без рэдукцыяў і інтэрпрэтацыяў — усё-такі ў эпоху постмадэрнізму жывём.

Прымяняльна да Беларусі варта казаць ня столькі пра глыбіню самой ідэі грамадзянскай супольнасьці, колькі пра элемэнтарныя гуманітарныя сэнсы. Нядаўна чытаю на адным зь беларускіх сайтаў, што мэтай грамадзянскай адукацыі зьяўляецца фармаваньне такіх якасьцяў асобы, якія дазваляюць умацаваць пазыцыі дзяржавы. На самой справе — дакладна наадварот. Мэтай і сэнсам станаўленьня грамадзянскай супольнасьці зьяўляецца ўзьнікненьне разнастайнасьці суб'ектаў грамадзянскай супольнасьці, а для гэтага неабходна культываваць паняткі "грамадзянін", "грамадзтва", "дзяржава", "краіна", "палітычная сыстэма". І інтарэсы грамадзяніна ў грамадзтве лічацца прыярытэтнымі і першачарговымі ў адносінах да інтарэсаў дзяржавы.

Мне даводзіцца працаваць з дастаткова разнастайным кантынгентам дарослых людзей, з пэдагагічнымі работнікамі ўсіх узроўняў кіраваньня. І трэба канстатаваць, што незалежна ад пасады і статусу большасьць не перагледзелі элемэнтарных ісьцінаў. Міт "дзяржава — гэта мы" настолькі моцна сядзіць у масавай сьвядомасьці, што бессэнсоўнай робіцца размова пра рынак, пра дэмакратыю і рэформы. На фоне закладзенай у сьвядомасьці савецкага народу міталёгіі лягічна ўпісваюцца і не выклікаюць непаразуменьняў фразы "толькі ў моцнай дзяржаве можна пабудаваць грамадзянскую супольнасьць". Заўважце, гэтыя фразы ў розных кантэкстах усё часьцей сталі гучаць на БТ — пры тым, што зусім нядаўна гэта лічылася забароненай тэмай.

У спадчыну ад часоў СССР нам засталася маса мітаў, ідэалягемаў і навамоваў. Бязь іх расфармленьня, як кажуць мэтадолягі, новая ідэя ня ляжа на сьвядомасьць людзей. Таму спачатку трэба ажыцьцявіць крытыку, напоўніць словы сэнсам, і толькі потым паглыбляцца ў складанасьць ідэі грамадзянскай супольнасьці. На жаль, беларусы не прайшлі гэтага этапу пазбаўленьня старых ідэалягемаў, таму зараз трэба фактычна пачынаць усё спачатку, ва ўмовах нашмат больш складаных, чым пачатак 1990-х. І гэта праца ня столькі адукацыі, колькі асьветы і гуманітарнага лікбезу. Калі ў 1990-я мы на хвалі абнаўленьня і натхненьня дзейнічалі хутчэй інтуітыўна, то сёньня многія ідэі, у тым ліку і ідэя грамадзянскай супольнасьці, дыскрэдытаваныя, апаганеныя, размытыя, і мы ня можам дзейнічаць старымі мэтадамі. Як у гэтых умовах узнаўляць працу асьветы, для мяне зьяўляецца вялікай праблемай.

* * *

"Пачні зь сябе!" — першае, што прыходзіць да галавы. І сапраўды, абмеркаваньне праблемаў грамадзянскай адукацыі так ці інакш зводзіцца да абмеркаваньня суб'ектаў грамадзянскай супольнасьці, якія толькі пачынаюць фармавацца, і суб'ектаў, якія ажыцьцяўляюць уласна саму грамадзянскую асьвету. Звычайна пытаньні суб'ектнасьці паступова зводзяцца да асобасных аспэктаў ці канкрэтных уласных імёнаў. Але асоба не заўсёды суб'ект. Суб'ектам патрэбна яшчэ стаць. *Адсутнасьць суб'екта дзейнасьці — другая і найбольш важная праблема грамадзянскай адукацыі ў Беларусі*.

На фоне адсутнасьці суб'екта, які прымае на сябе місію станаўленьня грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, гэтую задачу бяруцца рашаць тыя, каму па сутнасьці гэтым займацца нельга. Нядаўна ў беларускіх навінах па ОНТ былі афіцыйна працытаваныя словы Лукашэнкі: ён зьяўляецца гарантам станаўленьня грамадзянскай супольнасьці ў краіне. Гэта ня ёсьць недахопам ці "недамысьленасьцю" кіраўніка дзяржавы. Наадварот, гэта сьведчыць пра тое, што іншага суб'екта проста няма. І ніхто да 2003 г. так і ня змог абвясьціць сябе такім. Але сьвятое месца пустым не бывае. Асноўны прынцып грамадзянскай супольнасьці — публічнасьць. Калі вы суб'ект, то павінны быць бачныя ўсім грамадзянам, а не маленькай замкнёнай суполцы людзей. Я прынцыпова абвастраю дадзеную праблему: гэта зусім не азначае, што ў нас нічога не існуе. Я проста спрабую перавесьці стрэлкі зь некага на сябе. Праблема не ў навакольлі і ня ў нашым народзе, а ў нас, спадарства, у тых, хто прэтэндуе на асаблівы статус суб'екта грамадзянскай супольнасьці.

Хто такі суб'ект грамадзянскай супольнасьці? Першае — гэта той, хто дакладна сябе бачыць і ідэнтыфікуе з канкрэтнай ідэяй, адрознай ад іншай. Ідэнтыфікуе з канкрэтным сацыяльным слоем, групай, краінай і г.д. Дакладна разумее сваю адрознасьць і гатовы публічна прадэкляраваць свае інтарэсы як адрозныя ад інтарэсаў іншых суб'ектаў. Трэба добра разумець, што ва ўмовах Беларусі дзяржава прытрымліваецца далёка не дэмакратычных і не грамадзянскіх ідэяў, спрабуе працягнуць культ аўтарытарызму і жорсткай цэнтралізацыі дзяржавы. Ідэя грамадзянскай супольнасьці кардынальна супярэчыць гэтаму, яна несумяшчальная зь ідэяй таталітарызму і аўтарытарызму. Таму, каб абвясьціць сябе суб'ектам грамадзянскай супольнасьці, трэба мець сьмеласьць і мужнасьць разатаясаміць сябе зь іншымі суб'ектамі і іх ідэямі, а не ствараць бачнасьць таго, што канфлікту няма.

Тут жа можна ўзьняць і пытаньне права — хто мае права казаць пра грамадзянскую супольнасьць. Традыцыйны адказ — усе маюць права на сваё меркаваньне. Дазвольце не пагадзіцца. Многія могуць мець усё, але выказваць гэта ў форме правамерных сьцьверджаньняў — не. Дэмакратыя і грамадзянская супольнасьць —

гэта ня ўсёдазволенасьць, а парадак і мэханізм (працэдура) абароны ад глупства і непрафэсіяналізму. Але спачатку мэханізм трэба пабудаваць.

У Беларусі зарэгістравана шмат арганізацыяў і рухаў, якія прэтэндуюць на статус суб'екта. Але, калегі, трэба дакладна разумець, што рэгістрацыя арганізацыі не дае вам права называцца суб'ектам. З фармальнага юрыдычнага пункту гледжаньня — напэўна. Ды і то, па якім праве? Па праве, якое ласкава даў вам верхаводзячы суб'ект, г.зн. дзяржава. Тэндэнцыя зрошчваньня зь дзяржавай, адаптыўнасьць і беспрынцыпнасьць — хваробы грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі, якая толькі пачынае фармавацца.

* * *

Шматлікія арганізацыі, нягледзячы на складанасьць сытуацыі, працягваюць дзейнічаць, функцыянаваць і верыць у ідэалы грамадзянскай супольнасьці і дэмакратыі. Калісьці ліквідаваны Фонд Сораса зараз існуе ў розных кшталту асацыяцыях. Напрыклад, Асацыяцыя "Абнаўленьне гуманітарнай адукацыі". Прычым працэс ліквідацыі Фонду зь відавочнасьцю выявіў, хто ёсьць хто. Хто быў у Фондзе толькі на матэрыяльных падставах, а хто гатовы працягваць справу нават ва ўмовах дэфіцыту рэсурсаў. Вядома ж, адсутнасьць рэсурсаў дадае карэктывы ў дзейнасьць, але рэсурсам зьяўляюцца ня толькі грошы, але і мэты, людзі, іх каштоўнасьці і кваліфікацыя. Сытуацыя Фонду аказалася дастаткова тыповай практычна для ўсіх арганізацыяў недзяржаўнага сэктару. Працэс рэарганізацыі перажыў IREX. Туды прыйшлі новыя людзі. Аднак дзейнасьць IREX усё больш і больш становіцца фармалізаванай нават ва ўмовах адноснай рэсурснай забясьпечанасьці. І справа не ў грашах, а ў мысьленьні і сьвядомасьці людзей. Аналягічны працэс перажыў Свабодны прафсаюз. Да 1999 году ў Беларусі дзейнічала каля 1500 НДА. Большасьць зь іх у той ці іншай форме займаюцца адукацыяй. Некаторыя ладзяць сэмінары і навучальныя праграмы для сваіх сябраў, іншыя аказваюць адукацыйныя паслугі ў шырокіх маштабах. Узьніклі нефармальныя ўнівэрсытэты, якія нагадваюць "лятучыя ўнівэрсытэты" ў Польшчы часоў ваеннага стану (Народны ўнівэрсытэт і Беларускі калегіюм, праграмы Цэнтру сацыяльных інавацыяў, "Пасту") з сыстэматызаванымі навучальнымі праграмамі, прыцягненьнем высокакваліфікаваных выкладчыкаў, прафэсараў, дактароў і кандыдатаў навук. Праводзіцца шмат заняткаў па ліквідацыі кампутарнай, прававой, эканамічнай і юрыдычнай бязграматнасьці, засваеньні інтэрнэту, фандрэйзынгу, бізнэс-плянаваньня.

Праз структуры нефармальнай адукацыі ў НДА праходзяць тысячы людзей, дакладная колькасьць якіх ўліку не паддаецца, таксама як і якасьць паслугаў, што яны атрымліваюць. У малых гарадах часта даводзіцца сутыкацца з тым, што толькі актывісты мясцовых НДА маюць навыкі працы з кампутарам і з сучасным праграмным забесьпячэньнем, умеюць карыстацца сучаснымі сродкамі сувязі. Актывісты НДА (і зрэдку свабодных прафсаюзаў) нават у вялікіх (больш як 100 тысячаў па беларускіх мерках) гарадах аказваюцца адзінымі, хто можа даць мясцовым жыхарам юрыдычную ці эканамічную кансультацыю.

Вялікім рэзэрвам нефармальнай адукацыі застаюцца канфэсійныя структуры. На працягу 90-х гадоў назіраўся рэзкі прырост канфэсійных абшчынаў. Працягваюць сваю дзейнасьць маладзевыя і жаночыя арганізацыі, якія за апошнія 10 гадоў ужо набылі дастаткова вялікую практыку асьветніцкай дзейнасьці і выжываньня ва ўмовах Беларусі.

Акрамя таго, у Беларусі існуе прыстойны дасьледчы корпус, які адсочвае натуральныя працэсы станаўленьня грамадзянскай супольнасьці ў краіне (НІСЭПД, лябараторыя "Новак" і інш.)

Аднак час выпрабоўвае нас на трываласьць, і кожны раз падае новыя задачы і новыя ўмовы — выстойваюць толькі тыя, хто зьяўляецца носьбітам ідэі. А хто сказаў, што будзе лёгка? Час ілюзіяў і мараў прайшоў. Час, калі можна было на хвалі моды забясьпечыць сабе імя, таксама мінуў. Надыйшоў час СТОП. На што ён мусіць быць выкарыстаны? У першую чаргу на пераасэнсаваньне і прадумваньне новых мэтадаў і спосабаў правядзеньня грамадзянскай адукацыі.

Многія НДА яшчэ негатовыя грызьці граніт навукі


IREX/ProMedia

Дарэчы, варта ўзьняць яшчэ адну важную праблему грамадзянскай асьветы — *праблему мэтаду*. Маецца на ўвазе не праблема мэтодыкаў выкладаньня, а праблема мэтадаў мысьленьня, узаемадзеяньня суб’ектаў грамадзянскай адукацыі і спосабаў дзейнасьці.

Трэба добра разумець, што ідэя грамадзянскай супольнасьці можа быць рэалізаваная толькі праз адпаведныя схемы дзеяньня. Вы можаце быць носьбітам гэтай ідэі і сьвята ў яе верыць, аднак дзейнічаць па старых схемах, і такім чынам перакрэсьліваць саму ідэю. На пэрыяд 2003 году праблема мэтаду і выбару адэкватных спосабаў дзейнасьці ў грамадзянскай адукацыі зьяўляецца, верагодна, першаснай у адносінах да праблемы трансьляцыі самой ідэі. Суб’ект грамадзянскай адукацыі — гэта той, хто ўступае ў рознага кшталту адносіны зь іншымі суб’ектамі і навучаецца жыць у полікультурнай сытуацыі, уступае ў перамовы, лябіюе свае інтарэсы і такім чынам уплывае на жыцьцё ўсёй грамадзянскай супольнасьці. Таму на сёньняшні дзень выстаўляюцца самыя простыя патрабаваньні да кваліфікацыі людзей, якія ажыцьцяўляюць ліквідацыю грамадзянскай бязграматнасьці.

Першае — гэта ўменьне слухаць і чуць іншых, прымаць крытыку і крытыкаваць. Другое — уменьне ўступаць у дзелавую камунікацыю, уменьне праектаваць і праграмаваць сваю дзейнасьць пакрокава і лягічна, а таксама рэфлексійна ацэньваць вынікі сваёй і чужой дзейнасьці. На жаль, да 2003 году сфармавалася тэндэнцыя да замкнёнасьці, г.зн. закрытасьці дзейнасьці той ці іншай арганізацыі. Так, паміж арганізацыямі можа і павінна быць канкурэнцыя, у кожнай арганізацыі могуць быць свае статуты і нормы дзейнасьці. Аднак асноўны прынцып грамадзянскай супольнасьці — гэта яе адкрытасьць і дыскусійнасьць. І тут, на жаль, самы вялікі прабел у нашай кваліфікацыі. Калі праводзіць абагулены мэтадалягічны аналіз камунікацыі ў супольнасьці НДА, то гэта ў асноўным навучальны рэжым у аднабаковым парадку, ці поўны разброд і выслухоўваньне суб’ектыўных меркаваньняў, а не супольная і канструктыўная калектыўная праца. Тыповы прыклад вядзеньня такой камунікацыі (не датычна тэматыкі) — гэта форумы ў інтэрнэце.

Закрытасьць НДА так ці інакш прывяляла да негалоснага разьмеркаваньня сфэраў уплыву, што ў далейшым можа прывесьці да застою і стагнацыі самой дзейнасьці грамадзянскай адукацыі. Назавіце мне хаця б адно новае імя, якое ўвайшло ў сыстэму грамадзянскай адукацыі за апошнія два-тры гады і стала вядомым. Адкрытасьць грамадзянскай адукацыі прадугледжвае пастаяннае ўключэньне ў працу НДА новых асобаў, раскрутку новых імёнаў, фармаваньне нестандартнага іміджу і г.д.

Існуе яшчэ адна тонкасьць у выбары мэтаду дзейнасьці ў беларускай рэальнасьці. Справа ў тым, што прымяняльна да заходнеэўрапейскіх умоваў ужо сфармаваная норма і дакладныя крытэрыі схемаў дзейнасьці ў галіне станаўленьня грамадзянскай супольнасьці і грамадзянскай адукацыі. Усё-ткі эўрапейцы будуюць грамадзянскую супольнасьць даволі доўгі час. Многія рэчы там не патрабуюць свайго перасэнсаваньня і рэфлексіі, а робяцца ўжо аўтаматычна. Нашыя НДА сапраўды стараюцца ісьці ўсьлед за гэтымі нормамі па патрабаваньні грантадаўцаў. Аднак у беларускай рэальнасьці яны аказваюцца неэфэктыўнымі з-за спэцыфікі сытуацыі. Грантадаўца гэтай спэцыфікі можа і ня ведаць. Гэта можам ведаць толькі мы, тыя, хто жыве непасрэдна ў гэтай сытуацыі. Таму неабходна ўвесь час праводзіць карэктыроўку мэтаў і задачаў дзейнасьці. Гэта нашае права, і ніхто акрамя нас гэтага зрабіць ня можа. І ў нас рэзка павышаецца патрабаваньне на прыпыненьне дзейнасьці і правядзеньне рэфлексіі. Больш думаем, менш робім. Але калі робім, то дакладна і ў “дзясятку”.

Дарэчы, адзначым спэцыфіку зьместу грамадзянскай адукацыі, ці адказ на пытаньне “чаму вучыць”. У тэорыі сучаснай пэдагогікі дакладна адрозьніваюцца пяць базавых працэсаў — навучаньне, выхаваньне, падрыхтоўка, адукацыя і забесьпячэньне граматнасьці. Вынікі гэтых працэсаў розныя па сваім зьмесьце. Калі вынікам навучаньня зьяўляецца прысвоенае званьне, то вынікам адукацыі — спосаб мысьленьня, рэфлексіі, разуменьня і г.д. Працэсы грамадзянскай адукацыі не павінны разгортвацца праз форму навучаньня, хутчэй, грамадзянская адукацыя ёсьць працэсам падрыхтоўкі да граматнасьці. Вынікам гэтых працэсаў зьяўляюцца ня веды, а здольнасьць і ўменьне дзейнічаць. Існуючая на сёньняшні дзень разнастайная літаратура і вынікі дасьледаваньняў па грамадзянскай адукацыі зьяўляюцца толькі навучальным матэрыялам, а не яго зьместам. На адным і тым жа матэрыяле можна разгарнуць розныя схемы і працэсы адукацыі.

Гэта вельмі прынцыповае пытаньне. Чалавек можа ведаць нормы грамадзянскай супольнасьці ў ідэале, але абсалютна ня ў стане гэта прымяніць. А як можна навучыць дзейнасьці, як толькі не ў працэсе самой дзейнасьці? Таму ўсе суб’екты, якія займаюцца грамадзянскай адукацыяй, павінны мець яшчэ адну пазаадукацыйную дзейнасьць (інфраструктуру), у якой і можна навучаць здольнасьцям.

Ня мы выбіраем час, а час выбірае нас. І толькі той становіцца сучасным, хто выбірае культурныя ідэі і дзейнічае па-сучаснаму. Быць сучасным — гэта ў першую чаргу думаць і выбіраць мэтад дзеяньня, які адпавядае канкрэтнаму месцу і часу. “Калі думаеш — дзейнічай, калі дзейнічаеш — думай” — з гэтага і складаецца сутнасьць культурнай палітыкі і грамадзянскай адукацыі ў Беларусі.

# грамадзянская адукацыя для прафанаў

Рыгор Мінянкоў,
**кандыдат філязофскіх навук**

**Шырокае распаўсюджаньне ў сьвеце грамадзянскай адукацыі (ГА) пачынаецца прыкладна з 1960-х гг. — эпохі радыкальных зьменаў, станаўленьня інфармацыйнай цывілізацыі.**

### НАВОШТА ГЭТАЯ ГА

Калі агульна, то мэта ГА — навучаньне таму, што абазначаецца ёмістым *грамадзянскасьць*. Як некалі заўважыў Алексіс дэ Токвіль, сярод дэмакратычных нацыяў кожнае новае пакаленьне — гэта новы народ: дэмакратыю трэба ня толькі захоўваць, яе штораз трэба заваёўваць наноў.

Адрозьненьні ГА ў кожнай краіне пачынаюцца ад вызначэньня мэтаў і зьместу, на якія вялікі ўплыў аказваюць культурныя асаблівасьці канкрэтнага грамадзтва. Зразумела, што праца па ГА ня можаісьці спантанна — патрэбныя адпаведныя намаганьні, але зараз па ўсім сьвеце шукаюць актуальныя формы такой адукацыі. Усё большую ролю ў гэтым пачынаюць граць менавіта НДА.

### ШТО ГЭТА ТАКОЕ

У аснове ўсёй дзейнасьці ляжыць наступная ідэя: *ГА ў дэмакратыі — падрыхтоўка людзей да рэалізацыі імі сваёй сацыяльнай адказнасьці з ланцугом падтрымкі і ўмацаваньня самакіраваньня як асновы ўдзелу ў справах канкрэтнай супольнасьці, дзяржавы, нацыі, сьвету наагул.*

У выніку працэсу ГА **павінна быць:** сьцьверджаньне сувэрэннасьці і чалавечай годнасьці кожнага індывіда; асабістая, палітычная і эканамічная адказнасьць чалавека; удзел у грамадзянскіх справах нефармальным і эфэктыўным спосабам; садзейнічаньне пасьпяховаму функцыянаваньню канстытуцыйнай дэмакратыі. Для гэтага грамадзянін **павінен засвоіць:** базысныя веды пра будову і функцыянаваньне грамадзтва; практычныя навыкі і ўменьні (навыкі крытычнага мысленьня, камунікацыі, ініцыятывы, уменьні вырашаць канфлікты і г.д.); ключавыя каштоўнасьці дэмакратычнага грамадзтва ў кантэксьце нацыянальнай культуры. **У выніку фармуюцца** навыкі грамадзянскага ўдзелу ў спалучэньні зь інтэлектуальнымі, якія чалавек выяўляе ў любой, самай звычайнай сытуацыі (у транспарце, краме і г.д.), а ня толькі падчас, скажам, палітычных дэбатаў.



### БАЗАВЫЯ ПАНЯТКІ

Базавымі для ГА зьяўляюцца паняткі *грамадзянскае жыцьцё, прыватнае жыцьцё, грамадзянская супольнасьць, канстытуцыя, грамадзянскасьць, грамадзянскі ўдзел, лібэралізм* і г.д. Пры гэтым ГА накіраваная ня столькі на "навуковыя факты", колькі на ўстаноўкі, практыку, паўсядзённы досьвед.

Іншымі словамі, *сацыяльна* неадукаваны чалавек не валодае неабходнымі падставамі для паўнакроўнага адказнага ўдзелу: *ён зьяўляецца не грамадзянінам, а падданым.*

Важная задача ГА — фармаваньне ў грамадзянаў *навыкаў публічнай размовы*, г.зн. сумеснага абмеркаваньня тых ці іншых канкрэтных праблемаў. У гэтым — неагляднае поле для працы НДА, якія павінны рабіць акцэнты на актыўным, а не пасіўным навучаньні.

У публічным абмеркаваньні асаблівае значэньне мае ня столькі маўленьне, колькі *навыкі*

*слухаць*, дакладней, навыкі *чуць* суразмоўцу.

Вынікам ГА, такім чынам, павінна стаць спачувальнасьць, майстэрства дыскусіі і прыняцьця рашэньняў, здольнасьць да разуменьня, павагі да адрозьненьняў паміж людзьмі, уменьне вырашаць канфлікты, навыкі спакойнага і эфэктыўнага аналізу ў кантэксьце шматлікасьці пэрспэктываў разьвіцьця ўсялякай сацыяльнай сытуацыі. У гэтым сэнсе ГА выступае як навучаньне стратэгіям вырашэньня паўсядзённых міжасобасных і міжгрупавых канфліктаў.

### ПРА ШТО ТРЭБА ПАМЯТАЦЬ

Пра сацыяльна-культурны кантэкст: ня толькі пра некаторыя спэцыфічныя і гістарычныя асаблівасьці канкрэтнай культуры, але і складанейшыя працэсы, зьвязаныя зь перакрыжаваньнем глябальнага і нацыянальнага. На глябальным сацыяльным полі ўзаемадзейнічаюць самыя розныя індывіды і супольнасьці, і ўсе яны спрабуюць знайсьці сваю ідэнтычнасьць у сучасным сьвеце (гэта называецца *глябалізацыяй зьнізу)*. Відавочна, што гэтыя абставіны ставяць перад ГА шмат складаных праблемаў, сярод якіх асаблівая ўвага ў большасьці краінаў зьвяртаецца на наступныя: *мультыкультурнасьць, ідэнтычнасьць, сацыяльныя рызыкі.*

Зараз, калі межы празрыстыя, інтэграцыя інтэнсіфікуецца, побач апынаюцца і жывуць людзі самых розных поглядаў, культураў, рэлігіяў, звычаяў, моваў. Як забясьпечыць ім мірнае суіснаваньне і супрацу, гарантуючы разнастайнасьць і здымаючы цалкам натуральныя канфлікты? У тым ліку праз **мультыкультурнасьць,** якая займае ўсё большае месца ў ГА. Неабходны пошук прымальных стратэгіяў міжкультурнага навучаньня і камунікацыі, якія выходзілі б з прынцыпу *адзінства ў адрозьненьні:* прыняцьце разнастайнасьці культураў пры выяўленьні таго, што ў аснове зьяўляецца для іх агульным. Пры гэтым ключавой праблемай аказваецца фармаваньне талерантнасьці як альтэрнатывы гвалту, у чым, уласна, і заключаецца фундамэнтальная місія ГА. Праўда, пры гэтым узьнікае сур'ёзная праблема *межаў* талерантнасьці, але іх усталяваньне ў духу дэмакратычнай супольнасьці — мабыць, адна з прыярытэтных задачаў НДА ў справе разьвіцьця ГА.

Тут мы падыходзім да другой вельмі актуальнай для сучаснай ГА праблемы — праблемы **ідэнтычнасьці.** Яна асабліва востра паўстала ў посткамуністычных грамадзтвах, дзе галоўным становіцца фармаваньне новых ідэнтычнасьцяў. Па вялікім рахунку, менавіта з гэтым

# ВУЧЫЦЦА, ВУЧЫЦЦА І ВУЧЫЦЦА

## грамадзянскай адукацыі ў замежнікаў

### АМЭРЫКА

У ЗША ГА арганізаваная так, каб заўжды адчуваўся акцэнт на ўласнай краіне, перш за ўсё ў пляне наладжваньня міжкультурнага дыялёгу паміж рознымі сацыяльнымі і нацыянальнымі групамі.

Гэтыя падыходы адлюстраваныя ў адной з найбольш фундамэнтальных мадэляў ГА, прапанаванай Цэнтрам ГА (г. Калабасас, Каліфорнія), і выкладзеныя ў кнізе *Civitas: A Framework for Civic Education*. Кожная тэма ў ёй уключае тры падыходы да праблемы, якая разглядаецца: канцэптуальны, гістарычны, сучасны. Усе тэмы разьмеркаваныя па трох разьдзелах: грамадзянскія каштоўнасьці; грамадзянскі ўдзел; грамадзянскія веды і навыкі. Пры выкладаньні матэрыялу шырока выкарыстоўваюцца канкрэтныя факты жыцьця амэрыканцаў.

### ЭЎРОПА

Асаблівасьць эўрапейскіх падыходаў — у акцэнце на параўнальным аналізе, адпаведна, на цікавасьці да вывучэньня і разуменьня сацыяльна-культурных і палітыка-прававаых асаблівасьцяў іншых краінаў. Асабліва важна — адмова ад фармаваньня "вобразу ворага" і ўзмацненьне акцэнту на навыках талерантнасьці. У гэтым кірунку рухаюцца праграмы ГА, якія распрацоўваюцца пад патранажам Рады Эўропы.

Курс, падрыхтаваны Фондам грамадзянскай адукацыі **Вялікабрытаніі**, уключае: правы чалавека, правы дзяцей, сучасныя падзеі, сацыяльныя нормы, справядлівыя адносіны, моладзь і злачыннасьць, вырак суду і інш. Мадэль будуецца так, каб яе можна было адаптаваць да розных канкрэтных умоваў арганізацыі ГА.

Навучальны плян ГА ў **Швэцыі** ўключае наступныя тэмы: швэдзкая і замежныя канстытуцыі, працоўныя адносіны, сацыяльнае забесьпячэньне, злачыннасьць, рынак і эканоміка, сямейнае права і сямейная эканоміка,

зьвязаныя цяжкасьці пераўтварэньня, усплёск гвалту, нянавісьці, нацыянальнай варожасьці.

Пытаньне аб ідэнтычнасьці — гэта пытаньне аб адпаведнасьці суб'екта (асобы, групы) узорнай крыніцы нормаў. Пры гэтым ідэнтычнасьць — гэта не ўласьцівасьць, а адносіны, прадукт прынцыпова адкрытага працэсу, у які людзі ўцягнутыя падчас сацыяльнай адаптацыі і вынік якога ніколі не бывае "канчатковым". Яна фармуецца праз прызнаньне/непрызнаньне/адмову ў прызнаньні нас іншымі.

На самой справе ідэнтычнасьць — заўсёды праект. Няма ўзорных носьбітаў ідэнтычнасьці, на якіх усе павінны раўняцца. Быць беларусам, рускім і г.д. — значыць, увесь час праектаваць сябе такім. Ідэнтычнасьць можа зьмяніцца і да вызначанай ступені заўсёды мяняецца. Відавочна, што сэнс сучаснай ГА — наданьне індывідам навыкаў знаходжаньня ўласнай ідэнтычнасьці без уціску ідэнтычнасьці іншых. Шлях да гэтага — фармаваньне грамадзянскай ідэнтычнасьці, ці, па словах сучаснага нямецкага філёзафа Юргена Хабэрмаса, *канстытуцыйнага патрыятызму*, які павінен станавіцца асновай гарманічнага спалучэньня розных ідэнтычнасьцяў.

**У ЯКАСЬЦІ РЭЗЮМЭ**

Расейскі філёзаф Іван Ільлін у кнізе *"О сущности правосознания"* сфармуляваў тры аксіёмы прававой сьвядомасьці — падмурку дэмакратычнага грамадзтва: закон духоўнай годнасьці, закон аўтаноміі, закон узаемнага прызнаньня.

Толькі пры наяўнасьці сьцьверджаньня і павагі сваёй духоўнай годнасьці можна паважаць і сьцьвярджаць такую ж безумоўную годнасьць іншага чалавека, безь любой зьнявагі і падаўленьня чужой волі. Духоўная годнасьць — аснова сьцьверджаньня аўтаноміі асобы. Аўтаномія як духоўная самадзейнасьць асобы пераадольвае рабскую сьвядомасьць і арыентаваная на разьвіцьцё палітычнай свабоды.

Згодна з трэцяй аксіёмай, духоўна прызнаць іншага чалавека — значыць, бачыць у ім безумоўную годнасьць, што вядзе да ўзаемнай павагі і даверу ў грамадзтве, сьцьверджаньня яго прававой і палітычнай культуры. Можна сказаць, што сьцьверджаньне кожным з нас у паўсядзённым жыцьці сфармуляваных Ільліным законаў і ёсьць асноўнай задачай грамадзянскай адукацыі.

эміграцыя і меншасьці, мас-мэдыі і інш. Прыкладна такі ж плян у **Галяндыі** і шэрагу іншых заходнеэўрапейскіх краінаў.

Вельмі арыгінальная праграма Практычнай філязофіі, распрацаваная ў **ФРГ** і арыентаваная на сьвецкае навучаньне. Дадзеная мадэль уключае тры галіны, якія перакрыжоўваюцца: "сустрэчы" рэлігіяў, сьветапоглядаў і культураў; крытычнае асэнсаваньне існуючых у грамадзтве каштоўнасных уяўленьняў; каштоўнасна арыентаваная кампэтэнтнасьць рашэньняў і дзеяньняў асобы. Праграма накіраваная на тое, каб дапамагчы навучэнцам знаходзіць уласныя адказы на пытаньні пра сэнс чалавечага існаваньня, рабіць правільны выбар у сыстэме канкуруючых каштоўнасных уяўленьняў, адказна вызначаць асабістыя пэрспэктывы ў кантэксьце негвалтоўнага ўзаемадзеяньня зь іншымі людзьмі.

Адзначым таксама мадэль, распрацаваную ў **Расеі** Маскоўскай школай правоў чалавека. ГА разумеецца тут як комплексны кірунак, які спалучае элемэнты палітычнай, прававой і маральнай адукацыі. Мэта праграмы — падрыхтоўка да жыцьця ў прававой дэмакратычнай дзяржаве, грамадзянскай супольнасьці на аснове фармаваньня ўстойлівых уяўленьняў пра сьвет, грамадзтва, дзяржаву, асноўныя сацыяльныя сувязі і адносіны.



# першае АГА беларускага "трэцяга сэктару"

Уладзімер Роўда,
**выканаўчы дырэктар Інфармацыйна-аналітычнага цэнтру НДА, сябра АГА**

**У большасьці пераходных краінаў урады надаюць надзвычай пільную ўвагу працэсам сацыялізацыі і рэсацыялізацыі, якія павінны пераадольваць небясьпечны разрыў паміж дэмакратычнымі палітычнымі інстытутамі грамадзтва і недэмакратычнай палітычнай культурай грамадзянаў. Галоўную ролю ў сацыялізацыі і рэсацыялізацыі адыгрывае грамадзянская адукацыя.**

Грамадзянская адукацыя ў шырокім сэнсе слова — сыстэма навучаньня грамадзянаў, накіраваная на тое, каб падрыхтаваць іх да жыцьця і дзейнасьці ва ўмовах дэмакратычнай палітычнай сыстэмы і рынкавай эканомікі. Задачамі грамадзянскай адукацыі зьяўляецца перадача ведаў пра грамадзтва, дапамога ў фармаваньні самастойнай грамадзянскай пазыцыі, садзейнічаньне разьвіцьцю ўменьняў адказнага ўдзелу ў палітыцы.

### Што адбываецца з грамадзянскай адукацыяй у Беларусі?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, неабходна спачатку адказаць на іншае: ці зьяўляецца Беларусь дэмакратычнай краінай і ці зацікаўлены беларускі ўрад у фармаваньні дэмакратычнай палітычнай культуры сваіх грамадзянаў? На жаль, адказ адмоўны.

З 1994 г. Беларусь адмовілася ад дэмакратыі як мэты свайго разьвіцьця. Нягледзячы на тое, што ў дзеючай Канстытуцыі Рэспубліка Беларусь называецца дэмакратычнай і прававой дзяржавай, на практыцы яна — аўтарытарная, якая відавочна не адносіцца да г.зв. пераходных краінаў. Гэта — апошняя дыктатура ва Ўсходняй Эўропе. Менавіта таму ўрад ня толькі не спрыяе грамадзянскай адукацыі, але робіць усё магчымае, каб праз сыстэму дзяржаўных навучальных установаў, СМІ і іншыя структуры рэпрадукаваць, пашыраць і паглыбляць антыдэмакратычныя ўяўленьні ў грамадзкай сьвядомасьці, спрыяючы яго дэпалітызацыі, фармаваньню падданіцкіх пачуцьцяў і палітычнай апатыі ў насельніцтва.

З гэтай галоўнай асаблівасьцю сытуацыі, у якой апынулася грамадзянская адукацыя ў нашай краіне, зьвязаныя і іншыя:

1. У Беларусі навучаньне насельніцтва дэмакратычным прынцыпам і нормам ажыцьцяўляецца энтузіястамі зь няўрадавых арганізацыяў, палітычных партыяў і недзяржаўных прафсаюзаў;

2. Перад грамадзянскай адукацыяй у нашай краіне стаіць значна больш задачаў, чым у іншых краінах. Адукацыйным НДА даводзіцца фармаваць у слухачоў нацыянальную ідэнтычнасьць, садзейнічаць далучэньню да беларускай мовы, культуры і ведаў па гісторыі краіны, выхоўваць патрыятызм. Рэспубліка Беларусь у гэтым сэнсе ўнікальная краіна: актывісты НДА выконваюць працу, якую ня робяць дзяржаўныя чыноўнікі;

3. Праграмы грамадзянскай адукацыі ў нашай краіне рэалізуюцца пры адсутнасьці ўнутраных крыніцаў фінансаваньня ці іх вялікай абмежаванасьці. Роля дзяржавы адзначалася вышэй, а што да прыватнага бізнэсу, то ён вельмі слабы і ў значнай ступені залежны ад дзяржавы. Асноўныя крыніцы фінансаваньня адукацыйных праектаў — гэта сродкі міжнародных донарскіх арганізацыяў. Гэты факт мае як плюсы, так і мінусы.

### Місія грамадзянскай адукацыі

Яна ў сёньняшняй Беларусі разглядаецца зь дзьвюх супрацьлеглых пазыцыяў. З аднаго боку, некаторыя палітыкі ўскладаюць на такую адукацыю вялікія надзеі, спадзеючыся толькі праз яе зьмяніць мэнталітэт насельніцтва, якое потым прагаласуе за прадстаўнікоў дэмпартыяў. Зь іншага — заклікае НДА і донараў да поўнай дэпалітызацыі грамадзянскай адукацыі.

Падаецца, ісьціна недзе пасярэдзіне. Памылкай будзе ставіць толькі на грамадзянскую адукацыю як адзіны шлях да перамогі дэмакратыі. Партыі і НДА ня могуць канкураваць зь дзяржавай у галіне сацыялізацыі і рэсацыялізацыі.

Але ня меншая памылка — імкнуцца да дэпалітызацыі дзейнасьці адукацыйных праграмаў (палітыка тут разумеецца ў шырокім сэнсе слова), да ператварэньня грамадзянскай адукацыі ў вузкаэлітарны "міжсабойчык", адарваны ад патрэбаў насельніцтва. Арганізацыі, што займаюцца грамадзянскай адукацыяй, могуць пашырыць сфэру сваёй дзейнасьці, працуючы з найбольш актыўнымі і патэнцыйна дэмакратычна арыентаванымі групамі грамадзтва, і такім чынам аказваць дапамогу дэмпартыям, рухам і кааліцыям у іх намаганьнях прыйсьці да ўлады. Зь іншага боку, партыі павінны разумець, што іх стратэгічная задача — не сэмінары і трэнінгі для аднадумцаў, а штодзённая праца з насельніцтвам і, у рэшце рэшт, перамога. Пасьпяхова вырашыўшы палітычную, а не асьветніцкую задачу, можна пачаць шырокамаштабную рэсацыялізацыю беларускага грамадзтва з дапамогай і НДА, і дэмакратычнай дзяржавы.

### АСАЦЫЯЦЫЯ ГРАМАДЗЯНСКАЙ АДУКАЦЫІ

Нягледзячы на цяжкія часы для НДА, што займаюцца грамадзянскай адукацыяй, можна назваць шэраг фактараў, якія дазваляюць пасьпяхова шукаць адказы на зьнешнія і ўнутраныя выклікі: досьвед, высокакваліфікаваныя спэцыялісты, каапэрацыя паміж НДА дадзенай сфэры.

Прыклад эфэктыўнага супрацоўніцтва адукацыйных НДА — гэта *Асацыяцыя грамадзянскай адукацыі (АГА)*. Яна ўзьнікла ў студзені 2000 г. як вынік пагадненьня паміж менскімі і рэгіянальнымі адукацыйнымі НДА: Фонд “Адкрытае грамадзтва” (Менск), “ВІТ” (Горадня), Жаночы незалежны дэмакратычны рух (Менск), Інфармацыйна-аналітычны цэнтар НДА (Менск), Цэнтар “Пост” (Менск), “Супольнасьць” (Менск), Фонд імя Льва Сапегі (Менск), Цэнтар сацыяльных інавацыяў (Менск), “Чазенія” (Заслаўе), “Экадом”(Менск).

Гэтыя арганізацыі рэгулярна ажыцьцяўляюць інфармацыйны абмен, абмен трэнэрскімі камандамі, навучальна-мэтадычнай літаратурай, займаюцца распрацоўкай і рэалізацыяй сумесных адукацыйных праграмаў. Сябры АГА ладзяць рэгулярныя сустрэчы, дзе абмяркоўваюць пляны сумеснай дзейнасьці, новыя мэтодыкі навучаньня, досьвед працы арганізацыяў, праграмы супрацоўніцтва зь міжнароднымі партнэрамі. У 2002 г. была падпісаная Дамова аб супрацоўніцтве паміж арганізацыямі-сябрамі АГА.

Кожная з гэтых арганізацыяў спэцыялізуецца ў сваёй галіне грамадзянскай адукацыі і аказвае паслугі спэцыфічным адрасным групам — у гэтым і палягае перавага АГА, сябры якой дапаўняюць адзін аднаго. Так, “Адкрытае грамадзтва” і ІАЦ НДА займаюцца палітычнай адукацыяй; ЖНДР спэцыялізуецца на гендэрнай праблематыцы; ЦСІ, “Пост” і “Чазенія” прадастаўляюць веды ў галіне мэтодыкаў адукацыі і грамадзкага мэнэджмэнту; “ВІТ” вядомы сваімі прававымі школамі; Фонд імя Льва Сапегі — сэмінарамі па мясцовым самакіраваньні, “Супольнасьць” — культурна-асьветніцкімі мерапрыемствамі, а “Экадом” — правядзеньнем трэнінгаў па экалягічнай тэматыцы.

Калі раней асноўны акцэнт рабіўся на працы зь сябрамі і актывістамі НДА, то зараз усё часьцей і часьцей у сэмінарах і трэнінгах бяруць удзел незаангажаваныя ў НДА і партыі грамадзяне. ЦСІ аказвае адукацыйныя паслугі беспрацоўным, “Чазенія” і “Пост” ладзяць трэнінгі для падлеткаў, “ВІТ” шчыльна працуе са студэнтамі. “Адкрытае грамадзтва”, ІАЦ НДА і “Супольнасьць” дапамагаюць павысіць кваліфікацыю настаўнікаў.

Беларускія НДА прызвычаіліся канкураваць: надта абмежаваная рэсурсная база. Аднак АГА можа быць выключэньнем.

У 1999-2001 гг. ІАЦ НДА і Фондам “Адкрытае грамадзтва” сумесна са швэдзкім “Формум Сюд” быў рэалізаваны адукацыйны праект, скіраваны на ўмацаваньне рэгіянальных НДА Беларусі. Ад пачатку партнэры дамовіліся пра неабходнасьць выкарыстаньня патэнцыялу шэрагу беларускіх адукацыйных НДА: было вырашана запрашаць ня трэнэраў з арганізацыяў, як звычайна, а самі арганізацыі. У адпаведна створаную Раду праекту, якая дзейнічала па прынцыпе “адна арганізацыя — адзін голас”, увайшлі прадстаўнікі ўсіх НДА, што былі задзейнічаныя ў яго выкананьні.

Рада атрымала вялікія паўнамоцтвы: ад вызначэньня тэматыкі сэмінараў да разгляду фінансавых справаздачаў адміністратараў. Гэта дазволіла істотна павысіць якасьць адукацыі, стварыла спрыяльныя ўмовы для аказаньня паслугаў у галіне мэнэджмэнту прадстаўнікам больш як 200 арганізацыяў з усёй Беларусі. Больш за 1000 чалавек з рэгіёнаў сталі бэнэфіцыярыямі праекту.



Праект стаў першай праграмай АГА. У гэтым годзе Асацыяцыя пачала рэалізацыю другога такога праекту, скіраванага на правядзеньне 80 адукацыйных гурткоў для 800 удзельнікаў; рыхтуецца беларуска-дацкая праграма ў галіне Community Development.



# КАН'ЮНКТУРШЧЫКІ ад адукацыі

Галіна Верамейчык

**Для звычайных камэрцыйных кампаніяў кан'юнктура рынку (патрэбы кліентаў, памер попыту, наяўнасьць канкурэнтных тавараў і г.д.) — абавязковы складнік дзейнасьці, які дапамагае адпаведным чынам фармаваць кошты тавараў, паслугаў і павышаць прыбытковасьць. НДА ў сваёй дзейнасьці на атрыманьне прыбытку не арыентуюцца і ў большасьці выпадкаў плату за свае паслугі з кліентаў не бяруць. Што насамрэч не здымае праблему кан'юнктурнасьці сярод НДА, якія займаюцца адукацыйнай дзейнасьцю.**

Зрэшты, гаворка трошкі пра іншае — пра кан'юнктурны падыход, то бок арыентацыю на адначасныя патрабаваньні зьнешніх абставінаў, рынку, грамадзка-палітычных настрояў і г.д. І гэта ўжо ня толькі эканамічная катэгорыя. Абвінавачаньне ў кан'юнктурнасьці азначае адмаўленьне альбо адхіленьне ад пастаўленых мэтаў і задачаў, страту арганізацыйных (альбо асабістых) каштоўнасьцяў і прынцыпаў, арыентацыю на вокамгненную карысьць.

Час ад часу абвінавачаньне ў кан'юнктурнасьці гучыць таксама ў бок беларускіх арганізацыяў грамадзянскай адукацыі. Ці мае яно падставы? Паспрабуем разгледзець больш падрабязна некаторыя з аргумэнтаў.

Зьмест грамадзянскай адукацыі ў большай ступені арыентаваны на запатрабаваньні фундатараў, чым на патрэбы кліентаў.

З аднаго боку, гэта адпавядае рэчаіснасьці. Хаця б таму, што амаль ніводная арганізацыя не займаецца вызначэньнем патрэбаў кліентаў і пры гэтым даволі скрупулёзна вывучае прыярытэты фундацыяў. Гэта, зразумела, адлюстроўваецца на тэматыцы сэмінараў, канфэрэнцыяў, круглых сталоў і праектаў арганізацыяў. Напрыклад, побач з такімі тэмамі, як правы чалавека, асновы дэмакратыі, пабудова грамадзянскай супольнасьці і г.д. апошнім часам зьявілася новая — разьвіцьцё лякальнай супольнасьці. І як тут не ўзгадаць, што гэтая тэма і сфэра дзейнасьці актыўна прапагандуюцца, дыскутуюцца і фінансава падтрымліваюцца САР і Сусьветным Банкам.

Але дзеля справядлівасьці ўспомнім, што тэма разьвіцьця лякальнай супольнасьці ўжо ўздымалася да таго, як была прадэкляраваная вышэйзгаданымі спонсарамі ў якасьці бягучага прыярытэту. Напрыклад, у праекце Цэнтру сацыяльных інавацыяў па падрыхтоўцы кансультантаў у сфэры разьвіцьця мясцовай супольнасьці альбо ў межах агульнанацыянальнай кампаніі "Зробім лепш!". Апошняя хоць і была ў першую чаргу скіраваная на перакананьне грамадзтва ў карыснасьці і руплівасьці "трэцяга сэктару", адначасова прадэкляравала разьвіцьцё мясцовай супольнасьці ў якасьці аднаго з прыярытэтаў дзейнасьці НДА.

Дык можа, гэта спонсары адрэагавалі на зьмены кан'юнктуры ў "трэцім сэктары" і настрою ў грамадзтве?

Зь іншага боку, пагаджаючыся з тым, што ў грамадзянскай адукацыі шмат якія з тэмаў узьнікаюць "з падачы" спонсараў, адзначым, што звычайна апошнія не рэглямэнтуюць зьмест адукацыйнай дзейнасьці вельмі падрабязна, а толькі вызначаюць галоўны тэматычны кірунак. А што будзе ўкладзена ў гэты кірунак, як будзе пабудаваная праграма, на якіх прыкладах і каштоўнасьцях — амаль заўсёды вызначаецца самой арганізацыяй. І калі гэты тэматычны кірунак укладаецца ў агульныя прыярытэты арганізацыі, а дэталі дазваляюць вырашыць тактычныя задачы, гаворка будзе ісьці пра супадзеньне цікавасьцяў спонсара і НДА. Да таго ж, мы часта назіраем і адчуваем, што шмат якія праграмы, пабудаваныя такім чынам, знаходзяць свайго кліента, зацікаўленага, актыўнага і ўдзячнага. Значыць, інтарэсы кліента ўлічваюцца? Альбо яго інтарэсы вельмі падобныя да нашых?

І тут акурат трэба прыгадаць наступны аргумэнт.

Праграмы і мерапрыемствы грамадзянскай адукацыі скіраваныя на вузкі сэгмэнт грамадзтва, на тыя сацыяльныя групы, якія і так ужо перакананыя ў неабходнасьці дэмакратычнага разьвіцьця — на прадстаўнікоў НДА, незалежных прафсаюзаў, палітычных партыяў і рухаў — г.зн. на сам "трэці сэктар".

Цяжка спрачацца. Бутэлька з цэтлікам "трэці сэктар" ужо шмат год шчыльна закрытая — прадукт пераварвае сам сябе. Але зноў-ткі, як упартая аптымістка паспрабую высунуць контраргумэнты. Ці апраўданыя?

Звычайна першай адраснай групай у дзейнасьці, скіраванай на дасягненьне зьменаў у грамадзтве, выступаюць асобы і групы, што больш падрыхтаваныя да ўспрыняцьця інавацыяў і гатовыя рэалізаваць і дэманстраваць іх у сваёй паўсядзённай дзейнасьці. І з гэтага пункту гледжаньня такі выбар мэтавых групаў падаецца нармальным. Іншая справа, што пры гэтым мы не зважаем на яшчэ адзін вельмі значны крытэрый адбору будучых "апалягетаў" — гэта павінны быць людзі значныя, паважаныя, уплывовыя ў розных групах соцыюму. Людзі, здольныя стаць на грэбні другой хвалі дэмакратызацыі. Здольныя ня проста выстаяць, але арганізаваць і накіраваць гэтую хвалю. І калі такіх асобаў сярод актывістаў "трэцяга сэктару"

ня надта шмат (як тут не ўзгадаць кпіны Шалкевіча “бываюць людзі першага гатунку, другога гатунку і трэцясэктарныя”), то трэба выйсьці з бутэлькі ў іншыя сфэры.

І нарэшце, **адсутнасьць агульнай праграмы і плянамернасьці ў дасягненьні мэтаў грамадзянскай адукацыі. Мерапрыемствы не зьвязаныя адно з адным ні па зьмесьце, ні па форме, ні па ўзроўні.**

Так, агульнай праграмы няма. З плянамернасьцю і бесьперапыннасьцю дзейнасьці таксама цяжкавата. Грамадзянская адукацыя ў Беларусі робіць свае першыя крокі. І робіць іх і без падтрымкі дзяржавы, і бяз масавай зацікаўленасьці і запатрабаваньня ў грамадзтве. Да таго ж, практыка грамадзянскай адукацыі і навука аб ёй (ня ўпэўненая, што ў нас ёсьць свая) існуюць пакуль што часьцей за ўсё побач, а ня разам. Навукоўцы робяць вытрымкі з дасьледаваньняў, пішуць і друкуюць артыкулы ў спэцыялізаваных навуковых часопісах. А тым часам апантаныя энжэошнікі спрабуюць ладзіць адукацыю. І кожны робіць тое, што яму найбольш блізкае і баліць, так, як яму гэта падабаецца. А можа, сёньня толькі так і трэба? Уявіце сабе: калі такая праграма будзе створаная навукоўцамі і, крый Божа, будзе падпісаная і падтрыманая ў Міністэрстве адукацыі, то хутчэй за ўсё мы будзем вымушаныя ладзіць свае мерапрыемствы ў адпаведнасьці зь ёй. А якая гэта можа быць праграма ў сёньняшніх умовах… Нават ня хочацца думаць.

Зразумела, гэта гіпэртрафавана прадстаўлены нэгатыўны варыянт. Відавочна, што нам патрэбная агульная праграма і скаардынаванасьць дзеяньняў. Эфэктыўнасьць грамадзянскай адукацыі толькі выйграе ад плянамернасьці і бесьперапыннасьці. Але ніхто ня зробіць гэтага для нас і дзеля нас — ні фундатары, ні дзяржава, ні іншыя грамадзкія сілы. Толькі самастойна і толькі разам, праз прадстаўленьне і адстойваньне сваіх інтарэсаў, праз пастаноўку і дасягненьне палітычных мэтаў (напрыклад, праз улік нашых інтарэсаў і правоў, якія даюць нам магчымасьці для нефармальнай адукацыі) мы выйдзем на больш эфэктыўны ўзровень дзейнасьці.



# “трэнэр” — гэта гучыць пытаньне: як?

Улад Вялічка

**Эфэктыўнасьць адукацыйнай дзейнасьці, якая супольна арганізуецца намаганьнямі “трэцяга сэктару”, па розных прычынах пакідае жадаць лепшага. На жаль, гэтая праблема існуе практычна пэрманэнтна, нягледзячы на вялікую колькасьць укладаемых часавых, фінансавых і чалавечых рэсурсаў.**

**Напэўна, дастатковую колькасьць падставаў для такога стану справаў можна знайсьці ў галіне зьнешняй сытуацыі, але тут хацелася б абстрагавацца ад відавочнага і агульнавядомага. Лепей сканцэнтравацца на аналізе адной з галоўных унутраных праблемаў — якасьці трэнэрскай працы і павышэньня кваліфікацыі трэнэраў беларускіх НДА.**

### ШТО МЫ МАЕМ?

Сёньня нефармальная адукацыя дарослых у Беларусі ўсё яшчэ знаходзіцца на этапе станаўленьня. Яе разьвіцьцём займаюцца розныя структуры (НДА, адукацыйныя, сацыяльна-пэдагагічныя ўстановы і інш.). Да гэтага часу намаганьні НДА, у прыватнасьці, былі сканцэнтраваныя вакол стварэньня розных адукацыйных структураў (групы трэнэраў, народны ўнівэрсытэт, народныя школы, курсы для дарослых і г.д.), здольных запоўніць існуючую нішу і задаволіць попыт людзей на атрыманьне дадатковых ведаў, уменьняў, навыкаў, установак. Адпаведна, НДА падрыхтавалі значную колькасьць спэцыялістаў, якія забясьпечвалі адукацыйны працэс у зноў створаных структурах, праектах, установах.

З 1996 па 1999 гады падрыхтоўка трэнэраў для беларускага “трэцяга сэктару” мела масавы характар: з аднаго боку, быў высокі попыт на спэцыялістаў такога кшталту, а зь іншага — існавала такая пазыцыя шэрагу спонсараў, калі яны лічылі падрыхтоўку новых трэнэраў прыярытэтным накірункам дзейнасьці. Вядома ж, многія беларускія трэнэры, якія сёньня актыўна працуюць у НДА, тады атрымалі неацэнную школу.

Але: у выніку канвэернай падрыхтоўкі стандарты трэнэрскай працы былі значна зьніжаныя, многія з тых, хто прайшоў навучаньне, вельмі хутка пакінулі “трэці сэктар”, а само слова “трэнэр” пачалі браць у іранічнае двукосьсе. Стала зразумела, што трэба вырашаць пытаньне аб якасьці адукацыйных паслугаў, якія прапануюцца. У асяродку адукацыйных НДА існуе вялікая колькасьць трэнэраў, выкладчыкаў, кіраўнікоў курсаў, кружкоў і г.д., якія атрымалі нядрэнную першасную падрыхтоўку, але сёньня ім патрэбная дапамога ў павышэньні кваліфікацыі і авалоданьні сучаснымі канцэпцыямі, формамі і мэтадамі нефармальнай адукацыі.

### ТРАЦІЦЬ ЧАС НА РЭГУЛЯРНАЕ ПАВЫШЭНЬНЕ КВАЛІФІКАЦЫІ?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, карысна зірнуць на альтэрнатывы ў арганізацыях іншых сфэраў і галінаў, якія наўпростава не зьвязаныя з “трэцім сэктарам”, але ня менш заклапочаныя сыстэмнасьцю і эфэктыўнасьцю павышэньня кваліфікацыі сваіх спэцыялістаў, супрацоўнікаў, сябраў і г.д.

Буйныя і сярэднія бізнэс-кампаніі незалежна ад віду і накірунку камэрцыйнай дзейнасьці ўкладаюць значныя фінансавыя рэсурсы ў падрыхтоўку і перападрыхтоўку сваіх супрацоўнікаў. Многія арганізацыі трымаюць буйны штат, адказны за навучаньне і разьвіцьцё пэрсаналу, які забясьпечвае першасную трэнінгавую падтрымку, распрацоўвае і ажыцьцяўляе праграмы, займаецца выбарам трэнінгаў для іншых падразьдзяленьняў і г.д.

Дадзенае навучаньне зьвязанае як непасрэдна з навыкамі вядзеньня бізнэсу, так і з уменьнем ажыцьцяўляць мэнэджмэнт сваёй і супольнай дзейнасьці, і часьцей за ўсё пабudаванае на сыстэме кароткачасовых інтэнсіўных інтэрактыўных бізнэс-трэнінгаў. Для вызначэньня эфэктыўнасьці зробленых выдаткаў выкарыстоўваецца галоўны і ўнівэрсальны крытэрый — пасьпяховасьць арганізацыі на рынку, што выражаецца ў розных эканамічных паказьніках: доля на рынку, рост курсу акцыяў, аб’ём прыбытку і г.д.

Большасьць супрацоўнікаў такой кампаніі рэгулярна павышае ўласную кваліфікацыю тым ці іншым чынам на працягу ўсяго часу працы, незалежна ад узросту ці пасады ў кампаніі. У Англіі ў 1983 г. 45% працуючага насельніцтва прайшлі так званы off-the-job training — навучаньне па-за працоўным месцам, у 1998 г. — 55%. За гэтыя ж пятнаццаць гадоў колькасьць тых, хто прайшоў навучаньне на працоўным месцы (on-the-job training) павялічылася з 40% да 52%.

### ЯК МОЖНА АРГАНІЗАВАЦЬ ПАВЫШЭНЬНЕ КВАЛІФІКАЦЫІ ДЛЯ ТРЭНЭРАЎ НДА?

Гэта працаёмкі і дарагі працэс — тыя ж спонсары ня вельмі ахвотна падтрымліваюць такую ідэю. Паспрабуй ім даказаць неабходнасьць укласьці значныя грошы ў перападрыхтоўку добра адукаваных, забясьпечаных працай людзей. У ідэале рашэньне падобнай задачы павінна легчы на плечы саміх трэнэраў ці іх арганізацыяў і саюзаў.

Даволі часта адукацыйныя НДА сустракаюцца і абменьваюцца досьведам, праводзяць мэтадычныя дні, езьдзяць на стажыроўкі да калегаў з суседніх краінаў, супольна ладзяць пад-

рыхтоўку новых трэнэраў. Усё гэта, безумоўна, добра, але эпізадычна, такія дзеяньні не дазваляюць якасна павысіць прафэсійны ўзровень.

Не прэтэндуючы на лідэрства, манаполію ці ўнікальнасьць у дадзенай сфэры, хацелася б прывесьці прыклад праекту “Школа трэнэраў” (2001-2003 гг.), ініцыяванага Адукацыйным цэнтрам “Пост” у супрацы зь яго швэдзкім партнэрам Studieförbundet Vuxenskolan (г. Стакгольм).

Асноўная мэтавая група праекту“Школа трэнэраў” — трэнэры (прыкладна 25-30 чалавек, у сярэднім узросьце ад 25 да 40 гадоў) беларускіх НДА, якія ў сфэры нефармальнай адукацыі працуюць ня менш за два гады, рэгулярна практыкуюць у якасьці трэнэраў і маюць высокі ўзровень матывацыі прафразьвіцьця.

Асаблівасьць дадзенага праекту ў тым, што праца вядзецца з адной стабільнай групай спэцыялістаў цягам усяго праекту. Яны маюць магчымасьць плянамерна і грунтоўна аналізаваць уласную практыку, выяўляць уласныя “болевыя кропкі”, знаёміцца з досьведам калегаў і “аўтарытэтаў” сьвету адукацыі, вызначаць тыя зьмены, якія неабходна ўнесьці ў сваю дзейнасьць, каб зрабіць яе больш эфэктыўнай.

Адну з ключавых роляў у праекце грае цыкль школаў-сэмінараў, прысьвечаных канкрэтным праблемам практыкі трэнэра. Праблемы выбраныя адпаведныя, то бок такія, якія “не даюць спаць”. Для іх рашэньня трэба выйсьці за межы звыклай практыкі, паспрабаваць шукаць адказы ў галіне ідэальнай прасторы, а потым вярнуцца да аналізу ўласнай дзейнасьці з новых пазыцыяў. Напрыклад, такімі праблемнымі тэмамі на сёньня ёсьць “Фэномэн трэнэрства ў Беларусі”, “Атмасфэра даверу і адкрытасьці: якія яе адукацыйныя функцыі ў сэмінары?”, “Што прымаць за вынік дыскусіі і як яго вымяраць?”, “Што прымаць за вынік сэмінару і як яго вымяраць?”, “Практыка інтэрактыўнага сэмінару” і г.д.

Пасьля кожнай школы-сэмінару ладзяцца тры сэмінары, якія праводзяць удзельнікі праекту, дзе яны працуюць у зьмяшаных трэнэрскіх камандах па тры чалавекі. Такім чынам, пасьля кожнай школы-сэмінару дзевяць удзельнікаў “Школы трэнэраў” атрымліваюць магчымасьць практыкі па аспэктах, якія аналізуюцца падчас школаў-сэмінараў. Астатнія калегі могуць атрымаць такую практыку непасрэдна ў дзейнасьці сваіх грамадзкіх арганізацыяў і потым папрацаваць з атрыманым досьведам на наступных школах-сэмінарах.

Досьвед паказаў: магчымасьць апрабацыі ў канкрэтнай практыцы пры ўзаемадзеяньні з калегамі вызначаных высноваў, ідэяў, тэорыяў, гіпотэз робіць неацэнны ўнёсак у працэс дасягненьня новага ўзроўню кваліфікацыі ўдзельнікаў праекту.

Мэта завяршальнага этапу праекту (студзень-красавік 2003 г.) — сыстэматызацыя і прэзэнтацыя досьведу, атрыманага ўдзельнікамі падчас рэалізацыі праекту, а таксама распаўсюджаньне гэтага досьведу сярод іншых спэцыялістаў сфэры.

### ШТО З ГЭТАГА БУДЗЕ?

“Школа трэнэраў” — прыклад рэалізацыі адной з магчымых мадэляў сыстэмы павышэньня кваліфікацыі спэцыялістаў сфэры адукацыі. “Школа” — спроба зрабіць чарговы крок у рашэньні праблемы ўласнага росту і самаўдасканаленьня. Разам з тым апісаны прэцэдэнт валодае шэрагам вартасьцяў, якія забясьпечваюць эфэктыўнасьць дадзенай сыстэмы, а менавіта:

— прынцып добраахвотнасьці дазваляе зрабіць працэс павышэньня кваліфікацыі не фармальным, а рэальным;

— рух заснаваны на працы ўдзельнікаў зь іх уласным досьведам і яго наступным абменам, інтэрпрэтацыяй, аналізам;

— большасьць крокаў праекту першапачаткова будуецца “ад удзельніка” — яго інтарэсы, запыты, выбар спосабаў руху прыярытэтныя;

— разумнае спалучэньне “тэарэтычнага” і “практычнага” ў праекце;

— “фактар посьпеху” — гэта магчымасьць трэнэраў працаваць над сабой праз удзел у адукацыйных падзеях ва ўмовах рэальнага супрацоўніцтва (узаемадзеяньня) са сваімі калегамі.

І адно з самых важных: апісаны прыклад можа быць выкарыстаны таксама і ў іншай практыцы.





Многія спэцыялісты лічаць, што да ўдзелу ў сэмінарах трэба прыцягваць паспалітых людзей з вуліцы

IREX/ProMedia

дарэчы

## ...ПА-АМЭРЫКАНСКУ

Амэрыканскае таварыства трэнінгу і разьвіцьця ў сваіх дасьледаваньнях высьветліла, якія асноўныя ўменьні і навыкі патрабуе працадаўца ад сваіх работнікаў:

— уменьне і гатоўнасьць навучацца новаму;

— базавая адукацыя, граматнасьць (уменьне чытаць, пісаць, лічыць, працаваць на кампутары);

— камунікатыўныя навыкі: умець слухаць і гаварыць;

— творчае мысьленьне/уменьне вырашаць праблемы;

— арыентацыя на дасягненьне мэты/павышэньне ўласнай каштоўнасьці як работніка, імкненьне зрабіць кар’еру;

— уменьне будаваць міжасобасныя адносіны/тэхніка вядзеньня перамоваў/навыкі працы ў камандзе;

— арганізацыйныя навыкі/уменьне браць на сябе функцыі лідэра і кіраваць людзьмі.

Наўрад ці гэтыя пункты — адкрыцьцё для беларускіх трэнэраў, якія імкнуцца разьвіваць у сваіх удзельнікаў тое ж самае. Але ці адпавядаюць самі трэнэры адзначаным вышэй крытэрыям і ці могуць быць узорам?

# пытаньне кадраў: трэнэры

**Бадай што самай заўважнай — і ў прамым, і ў пераносным сэнсе — фігурай грамадзянскай адукацыі ёсьць трэнэр: чалавек, які знаёміць прысутных на сэмінары між сабой, вядзе сустрэчу, вешае ватманы і нешта на іх крэмзае, які... Хаця якраз тут могуць узьнікнуць праблемы: часам складаецца ўражаньне, што чалавек, які назваўся трэнэрам, прэтэндуе хіба што на ролю "блазна па найме" — яго паводзіны, манэра вядзеньня навучаньня, нарэшце, тыя "веды", якімі ён "адарыў" прысутных, прымушаюць нас зьбянтэжана ўсьміхацца і праклінаць сваю недальнабачнасьць — "вось жа як ведаў, куды пайсьці ў выходны дзень — на сэмінар".**

У чым праблема? Гэта мы і вырашылі высьветліць, зьвярнуўшыся да сябраў розных НДА і да трэнэраў з наступнымі пытаньнямі:

1. Хто такі ў Вашым разуменьні трэнэр?
2. Хто і ў якой ступені нясе адказнасьць за вынікі навучаньня — трэнэр ці кліенты-ўдзельнікі навучаньня?
3. Кліенты на ўзровень трэнэра ці трэнэр на ўзровень удзельнікаў-кліентаў павінны арыентавацца падчас навучаньня?

**Уладзімер Роўда,**
**Інфармацыйна-аналітычны цэнтар НДА, выканаўчы дырэктар**

1. Ня буду даваць вызначэньне панятку "трэнэр". Мне падаецца, што найлепшым (найбольш эфэктыўным) трэнэрам у нашай краіне пакуль што застаецца прэзыдэнт Нацыянальнага алімпійскага камітэту.

2. Зь першага адказу выходзіць, што за вынікі "навучаньня", у шырокім сэнсе гэтага слова, нясуць адказнасьць удзельнікі, якія ўсё яшчэ вераць у чароўныя якасьці "галоўнага трэнэра".

3. У нас, на жаль, многія прыстасоўваюцца да ўзроўню "галоўнага трэнэра".

**Юлія Іванова,**
**трэнэр Гомельскай асацыяцыі дзяцей і моладзі, сябра Рады арганізацыі**

1. Трэнэр — гэта асоба, якая ўцягнутая ў адукацыйны праект і якая як праваднік вядзе сваю групу да пэўнай мэты, што заключаецца ў атрыманьні новых ведаў і досьведу. Так званая роля трэнэра дастаткова складаная і супярэчлівая. Трэнэр закліканы выконваць самыя разнастайныя функцыі: лектара, пасярэдніка, каардынатара, "разраджальніка" абстаноўкі. Прычым кожны дадае да працы трэнэра (і, верагодна, больш, чым у якую іншую працу) свае асабістыя веды, прафэсійны і жыцьцёвы досьвед, рысы характару, тэмпэрамэнт і г.д.

2. Мне падаецца, нельга ўскладаць адказнасьць у поўнай меры на нейкі адзін бок — трэнэра альбо ўдзельнікаў трэнінгу. Для пасьпяховага і выніковага трэнінгу неабходная ўзаемная зацікаўленасьць бакоў, жаданьне працаваць. Гэта значыць, што трэнэру трэба падрыхтаваць цікавую і зьместоўную праграму навучаньня, а ўдзельнікам трэнінгу праяўляць ініцыятыўнасьць у працэсе атрыманьня і выпрацоўкі новых ведаў. Натуральна, трэнэр як чалавек, што валодае спэцыяльнымі навыкамі ў галіне грамадзянскай адукацыі, са свайго боку павінен стымуляваць інтарэс удзельнікаў, весьці іх да чаканых вынікаў.

3. Трэнэр мусіць арыентавацца на ўзровень удзельнікаў. Варта адразу вызначыць, для якой мэтавай групы плянуецца трэнінг: ці гэта будуць лідэры НДА, ці актывісты, мультыплікатары, ці шараговыя сябры арганізацыі. Зыходзячы з гэтага рыхтуецца праграма, вызначаецца зьмест, мэтады інтэрактыўнага навучаньня. Аднак здараецца, што на трэнінгу прысутнічаюць прадстаўнікі НДА, узровень ведаў і досьведу якіх істотна адрозьніваецца. У гэтым выпадку трэнэру неабходна "сарыентавацца на мясцовасьці" і знайсьці падыход да кожнай групы.

**Сьвятлана Зянькевіч,**
**трэнэр САР**

1. Трэнэр — гэта чалавек, які дапамагае людзям, групам і арганізацыям вучыцца зьмяняцца: хутчэй дасягаць сваіх мэтаў і лепш вырашаць арганізацыйныя задачы, пастаўленыя ўмовамі навакольля; дапамагае ўдасканальвацца ў ведах, здольнасьцях, часам праз падачу канкрэтнага зьместу, часам — праз досьвед, але часьцей — сумяшчаючы і тое, і другое.

2. Я бы падзяліла адказнасьць паміж абодвума бакамі: за вынікі (outputs) адказнасьць нясе трэнэр, а за наступствы (outcomes) і вынікі (results) нясуць адказнасьць удзельнікі і/ці арганізацыя-замоўца. Так, напрыклад, трэнінг па стратэгічным плянаваньні. Якасьць інфармацыі, што перадаецца, павінен забясьпечыць трэнэр, ён жа навучае ўдзельнікаў тэхналёгіям, неабходным для правядзеньня стратэгічнага плянаваньня ў арганізацыі — гэта будзе вынікам трэнінгу. Але ці перадасьць удзельнік атрыманы досьвед арганізацыі, якая накіравала яго на трэнінг, адказвае ён сам — гэта можна назваць наступствамі трэнінгу. Ці распрацуе арганізацыя стратэгічны плян, адказвае і ўдзельнік трэнінгу, і арганізацыя. Распрацаваны стратэгічны плян — вынік трэнінгу.

3. Пры падрыхтоўцы трэнінгу трэнэр безумоўна ўлічвае ўзровень удзельнікаў, але іх нізкі ўзровень — яшчэ не нагода апускаць плянку вынікаў навучаньня, што плянуюцца. Удзельнікі ж у першую чаргу павінны арыентавацца на свае патрэбы і тую карысьць, якую яны хочуць прынесьці сваёй арганізацыі, узяўшы ўдзел у трэнінгу. Галоўнае, каб паслуга, што прадастаўляецца, была якаснай.

**Таіса Бандарэнка,**
**старшыня ГА "Цэнтар "Свабода слова на карысьць дэмакратыі"**

1. Прафэсійны трэнэр, на маю думку, — гэта асоба шматгранная і кампэтэнтная ў розных галінах ведаў. Па-першае, ён мусіць дасканала валодаць прадметам або тэматыкай, якую выкладае. Па-другое, неабходныя пэўныя арганізатарскія здольнасьці, каб зрабіць з удзельнікаў матываваную каманду, якая будзе мэтанакіравана працаваць на працягу ўсяго часу трэнінгу. Па-трэцяе, сапраўднаму трэнэру ў пэўным сэнсе патрэбныя веды па псыхалёгіі і фізіялёгіі чалавека. Гэта вельмі важна, таму што час заняткаў звычайна вельмі абмежаваны, а ўдзельнікі мусяць засвоіць вялікі аб'ём матэрыялаў.

Акрамя таго, каб трымаць іх увагу, неабходна своечасова мяняць мэтады і віды дзейнасьці падчас навучаньня. Ён мусіць, нарэшце, аддаваць перавагу пазытыўнаму падыходу, каб усяліць веру ў сябе і накіраваць удзельнікаў на дасягненьне сваей мэты "кароткім шляхам". Па-чацьвертае, без чаго нельга сёньня абыйсьціся трэнэру — гэта мастацтва камунікацыі. Акрамя валоданьня словам, ён мусіць ведаць мову жэстаў. Па-пятае (але далёка не апошняе па значнасьці), трэнэр павінен быць адкрытым і добразычлівым да ўдзельнікаў. Гэта будзе стымуляваць прагных да навучаньня камунікаваць і "выкарыстоўваць" трэнэра як падчас перапынкаў, так і пасьля заняткаў.

Прафэсійны трэнэр імкнецца ладзіць сваю працу "сам-насам" і арыентуецца на асобу (трэнэр-удзельнік), а ня "сам на ўсіх" (трэнэр-група). Мэта трэнінгу хутчэй дасягаецца, а чаканьні ўдзельнікаў спраўджваюцца. Каб не падалося, што намаляваны ідэальны партрэт, магу толькі дадаць, што я мела і маю шчасьце з такімі працаваць. Вядома ж, варта зазначыць, што і сярод замежнікаў, і сярод сваіх такіх пакуль адзінкі.

2. Адказ на гэтае пытаньне ня можа быць адназначным. Калі браць у разьлік удзельнікаў, прагных да ведаў, матываваных і дакладна ўяўляючых зьмест праграмы, дык за посьпех трэнінгу і вынікі адказвае, на маю думку, усе ж у поўнай ступені трэнэр. Ведаю, што праблемы з кліентамі ёсьць і так званыя "выпадковыя" ўдзельнікі сустракаюцца, але я не перакладала б усю віну толькі на саміх удзельнікаў. Адбор удзельнікаў ёсьць прэрагатывай арганізатараў, яго трэба адпаведна наладзіць і ў пэўнай ступені несьці за гэта адказнасьць. Магу пагадзіцца, што нават пільны адбор і анкетаваньне не спрацуе, калі кліенты ня будуць цікавіцца зьместам сэмінару (а гэта дакладна іх адказнасьць). Калі ўдзельнікі не падрыхтаваныя да працы, іх папярэднія чаканьні наўрад ці будуць супадаць з рэальным ходам падзеяў, і тады ў лепшым выпадку наступае расчараваньне. Але чаму так атрымліваецца? Прычыны, на маю думку, хаваюцца глыбей. Прыйшоў час мяняць стаўленьне да адукацыйных праграмаў, і ў першую чаргу з боку кіраўнікоў арганізацыяў. Яны адказныя за працу і разьвіцьцё арганізацыі, а таму мусяць быць зацікаўленыя ў прафэсійным росьце і кваліфікацыі сваіх супрацоўнікаў. Да гэтага часу ініцыятыва ўдзелу зыходзіць звычайна "зьнізу", ад саміх удзельнікаў (што ўвогуле добра). Але яна павінна падтрымлівацца і абавязкова кантралявацца "зьверху", кіраўнікамі, якія будуць разам з удзельнікамі падзяляць і адказнасьць.



Кожны лідэр павінен ведаць, якія веды атрымае яго супрацоўнік і ці будуць яны карысныя. Ён мусіць настроіць актывіста на напружаную працу і атрыманьне пэўнага досьведу (дзеля гэтага ўдзельнік часова вызваляецца ад працы). Яго трэба праінструктаваць (на што зьвярнуць увагу ў першую чаргу, прывезьці раздатачныя матэрыялы, каб імі маглі карыстацца іншыя і г.д.). У рэшце рэшт, акрамя звычайнай справаздачы, на чарговай сустрэчы сяброў арганізацыі можна падзяліцца з калегамі ўсім, пра што даведаўся падчас трэнінгу. У такім выпадку можна было б сказаць, што і час, і грошы не былі змарнаваныя. Але грошы найчасьцей не свае, а час у нас грашыма вымяраецца далёка не заўсёды.

У гэтага мэдаля ёсьць і адваротны бок, які, на маю думку, уяўляе сабой яшчэ большую небясьпеку. Усё больш зьяўляецца маладых і матываваных кліентаў. Яны з жаданьнем і хутка вучацца, імкнуцца прымяняць веды на практыцы. Але ў іх арганізацыях гэта не знаходзіць падтрымкі. Больш за тое, іх прымушаюць прытрымлівацца старога стылю працы. У выніку адбываецца канфлікт, і яны мусяць шукаць іншае месца працы. А тут ужо ўся адказнасьць ляжыць на іх недальнабачных кіраўніках.

3. Ня ведаю, як удзельнікі могуць арыентавацца на ўзровень трэнэра — гэта ад іх не залежыць. Нават калі яны папросяць яго рэзюмэ ў арганізатараў (што заўсёды варта рабіць), аб узроўні часам цяжка меркаваць (прафэсійны НДАшнік, рэдактар ці журналіст — не заўсёды добры трэнэр). Для ўдзельніка больш важна ведаць зьмест трэнінгу, вырашыць, што для яго найважней, і ў гэтым рэчышчы паспрабаваць выцягнуць з трэнэра ўсё да кроплі. Дасьведчанаму ж трэнэру дастаткова двух-трох пытаньняў, каб вызначыць узровень удзельнікаў. Гэта важны момант. Для іх увогуле няважна, што ўзровень удзельнікаў розьніцца. Наадварот,

пры індывідуальным падыходзе, які я ўзгадвала вышэй, яны ладзяць працу такім чынам, што слабейшыя вучацца ад больш моцных. Апошнія ж нярэдка атрымліваюць задавальненьне ад таго, што могуць падзяліцца ўласным досьведам. Акрамя таго, яны атрымліваюць і пачатковыя трэнэрскія навыкі. У адной з нашых праграмаў, напрыклад, былыя ўдзельнікі сёньня працуюць асыстэнтамі трэнэраў. Пры дэфіцыце іх на сёньняшні дзень такі падыход падаецца вельмі эфэктыўным і прадуктыўным.

**Вольга Харламава,**
**сябра Рады ГА АРР "Варута"**

1. Трэнэр для грамадзкай арганізацыі — гэта асоба, якая мае досьвед практычнай працы ў грамадзкай арганізацыі і валодае мэтодыкамі эфэктыўнай передачы спэцыяльных ведаў і досьведу.

2. Безумоўна, адказнасьць за вынікі навучаньня нясе трэнэр. Калі чалавек праводзіць трэнінгі толькі для "добрай групы", яго нельга назваць трэнэрам. Трэнэр мусіць умець працаваць і дабівацца станоўчага выніку ад любой аўдыторыі.

3. Падчас навучаньня трэнэр павінен адчуваць узровень сваіх кліентаў і адаптаваць пад гэты ўзровень сваю праграму.

**Ірына Ґудкоўская,**
**старшыня Гарадзкой арганізацыі працоўных жанчынаў г. Слуцку**

1. Трэнэр у маім разуменьні — гэта ня проста чалавек, які дае нейкія веды аўдыторыі, даводзіць ёй нейкую інфармацыю. Я трэнэра называю "гульцом", бо ён знаходзіцца ў працэсе, ён жыве ў працэсе.

2. Адказнасьць за вынікі навучаньня нясуць абодва бакі: трэнэр — за дакладнасьць ведаў, іх адпаведнасьць рэчаіснасьці, а ўдзельнікі-кліенты — за сам вынік. Ад іх залежыць, ці прыменяць яны атрыманыя веды на практыцы, ці якасна яны гэта зробяць. Скажам, калі тэма трэнінгу "Арганізацыя круглага стала", то ўжо праведзены ўдзельнікам трэнінгу круглы стол будзе вынікам, ён пакажа якасьць засваеньня ведаў.

3. Безумоўна, трэнэр мусіць арыентавацца на аўдыторыю. Ён павінен яе адчуваць і выкладвацца для яе. Прынамсі, ён мусіць сачыць за тым, ці ня сьпіць аўдыторыя.

**Іна Кулей,**
**старшыня Фонду "Наша Вежа"**

1. Трэнэр — спэцыяліст па адукацыі дарослых. Гэта асоба, якая дапамагае працэсу абмену досьведам паміж удзельнікамі і мэтанакіравана падводзіць аўдыторыю да заплянаванага выніку. Ведае матэрыял, асноўныя дэфініцыі, але не "трансьлюе" веды, а "выцягвае" з удзельнікаў.

2. Абодва бакі. Трэнэр — за папярэдні аналіз аўдыторыі, асабістую падрыхтоўку, уздельнікі — за матывацыю. Нельга даць таму, хто ня хоча ўзяць.

3. Безумоўна, трэнэр. На тое ён і спэцыяліст, каб прагназаваць станоўчы вынік.

**Зьміцер Ґубарэвіч,**
**старшыня праўленьня Сацыяльна-пэдагагічнага грамадзкага аб'яднаньня "Чаэнія"**

1. Існуе шмат падыходаў да вызначэньня таго, хто такі трэнэр. Я хачу спыніцца на двух:

— Трэнэрам можа быць любы чалавек. У пэўных формах адукацыйнага працэсу гэта дапушчальна і прыносіць плён. Напрыклад, ролю лідэра ў адукацыйных гуртках Швэцыі могуць адыгрываць людзі, якія маюць мінімальную пэдагагічную і трэнэрскую падрыхтоўку. У нас таксама ёсьць трэнэры, трэнэрская падрыхтоўка якіх зводзіцца да ўдзелу ў некалькіх сэмінарах.

— Трэнэр — гэта прафэсіянал у сфэры адукацыі (грамадзянскай, дадатковай, бізнэс-адукацыі). Ён мае пэдагагічную (псыхалягічную) адукацыю, мае досьвед сыстэматычнага навучаньня, зьяўляецца экспэртам у пэўнай галіне (а не праводзіць любыя сэмінары па любых тэмах). Ён ня толькі знаёмы з пэўным зьместам, але і бачыць яго абмежаванасьць і дыскусійныя кропкі, ён ня толькі ведае розныя мэтады, але ведае іх магчымасьці і межы, разумее тыя задачы, якія дапамагаюць дасягнуць гэтыя мэтады, умее ня толькі наладжваць камунікацыю паміж сабой і ўдзельнікамі, але выкарыстоўвае камунікацыю для канструяваньня ведаў самімі ўдзельнікамі. Зразумела, што гэта няпоўны партрэт трэнэра, але гэтага дастаткова, каб убачыць розьніцу зь першым.

І адзін і другі трэнэр мае права на існаваньне. А рознасьць паміж імі павінна заключацца ня толькі ва ўзроўні заробку (цікава, а ў Беларусі сапраўды можна пабачыць розьніцу ў заробках трэнэраў у залежнасьці ад іх узроўню кампэтэнтнасьці?), але і ў тых адукацыйных задачах, якія яны вырашаюць на сваіх сэмінарах. І магчыма тады сэмінары ня будуць падобныя да дрэнных тэатральных пастановак студэнтаў-першакурсьнікаў, якія так не спадабаліся вядомаму беларускаму барду. Толькі як у Беларусі вызначаць прафэсіяналізм трэнэра?

2. Мне падаецца, што адказнасьць за вынікі навучаньня нясуць і трэнэр, і ўдзельнік. Але пытаньне не такое простае, якім здаецца на першы погляд, асабліва калі гаворка пачынае весьціся ў тэрмінах рынку паслугаў.

Хто вызначае гэтую адказнасьць? А ці ёсьць у Беларусі канвэнцыянальныя нормы працы трэнэра? А адказнасьць удзельніка за вынікі навучаньня можа разьвівацца толькі з дапамогай арганізацыйных унёскаў? І як быць з прафэсіяй "удзельнік сэмінараў"? Я пакуль ня маю дакладных адказаў на ўсе пытаньні, але яны могуць быць выкарыстаныя падчас дыскусіяў пра фэномэн грамадзянскай адукацыі. На мой погляд, практыка адукацыйных сэмінараў у нашай краіне павінна зьмяніцца, каб сапраўды ўзьнікла адказнасьць бакоў (суб'ектаў) за працэс і вынікі навучаньня.

У чым гэта можа праявіцца? Спынюся ўсяго на двух пунктах:

а. Трэба зьмяніць практыку падрыхтоўкі сэмінараў. У бізнэс-трэнінгах вядзецца вялікая папярэдняя праца з удзельнікамі (прыкладна палова гадзінаў працы трэнэра, за якія яму пла-

цяць грошы, прыпадае на папярэднюю працу з удзельнікамі). Навошта? Каб зразумець, хто такія ўдзельнікі і на якія патрэбы неабходна працаваць. Для сфэры грамадзянскай адукацыі гэта азначае, што такая праца патрэбная ня толькі для знаёмства з удзельнікамі, але і для таго, каб стаць інструмэнтам, які можа дапамагчы ўдзельніку стаць адказным за праграму сэмінару, працэс і вынікі свайго навучаньня. А як гэта зрабіць? Пэўныя напрацоўкі ўжо ёсьць, дзякуючы, напрыклад, "Школе трэнэраў".

б. Трэба дакладна разумець і шчыра казаць удзельнікам, якія мэты ставяцца перад сэмінарам, і ў гэтым будзе частка адказнасьці трэнэра. Несыстэматычнае навучаньне даўно крытыкуецца за невыразныя вынікі, а мы працягваем лічыць, што падчас трохдзённых сэмінараў здольныя зрабіць шмат чаго, а потым зьдзіўляемся, чаму мала што мяняецца, і просім грошы на новыя сэмінары.

3. Нельга ставіць так пытаньне — ніякага супярэчаньня тут няма.

Для мяне аксіёма любой пэдагагічнай дзейнасьці — пэдагог мусіць арыентавацца на ўзровень удзельніка, бо менавіта ўдзельнік стаіць у цэнтры адукацыйнага працэсу. А вось што азначае "ўдзельнік-кліент арыентуецца на ўзровень трэнэра", становіцца цікавым для размовы, праўда, не зусім добра зразумела, што азначае слова "арыентуецца" ў гэтым выпадку. Калі ідзе гаворка пра выбар трэнэра згодна з адукацыйнымі патрэбамі і магчымасьцямі (у тым ліку і фінансавымі) удзельніка, дык трэба абмяркоўваць сытуацыю на рынку адукацыйных паслугаў Беларусі. Я як кліент жадаю набыць якасную паслугу за тыя магчымасьці, якімі валодаю. Я магу і павінен выбіраць.

На маю думку, пэўныя ўмовы стварэньня рынку адукацыйных паслугаў у нашай краіне ўжо ёсьць. Але трэба рабіць наступныя крокі, сярод якіх могуць быць і такія:

— пашырыць кола кліентаў, а разам з тым дапоўніць тэматыку і зьмест адукацыйных праграмаў. На "трэці сэктар" неабходна працаваць, але ці толькі на яго і на набліжаных да яго?

— зрабіць інфармацыю пра сэмінары, трэнэраў і магчымасьці ўдзелу адкрытай і даступнай для грамадзянаў, а ня толькі для НДА;

— пачынаць рабіць крокі па пераадоленьні залежнасьці ад грантаў і прапаноўваць адукацыйныя праграмы насельніцтву, наколькі дазваляюць зьнешнія ўмовы гаспадарчай дзейнасьці.

Усё больш зьяўляецца маладых і матываваных кліентаў. Яны з жаданьнем і хутка вучацца, імкнуцца прымяняць веды на практыцы. Але ў іх арганізацыях гэта не знаходзіць падтрымкі. Больш за тое, іх прымушаюць прытрымлівацца старога стылю працы.

І адзін і другі трэнэр мае права на існаваньне. А рознасьць паміж імі павінна заключацца ня толькі ва ўзроўні заробку (цікава, а ў Беларусі сапраўды можна пабачыць розьніцу ў заробках трэнэраў у залежнасьці ад іх узроўню кампэтэнтнасьці?), але і ў тых адукацыйных задачах, якія яны вырашаюць на сваіх сэмінарах. І магчыма тады сэмінары ня будуць падобныя да дрэнных тэатральных пастановак студэнтаў-першакурсьнікаў, якія так не спадабаліся вядомаму беларускаму барду. Толькі як у Беларусі вызначаць прафэсіяналізм трэнэра?

Хто вызначае гэтую адказнасьць? А ці ёсьць у Беларусі канвэнцыянальныя нормы працы трэнэра? А адказнасьць удзельніка за вынікі навучаньня можа разьвівацца толькі з дапамогай арганізацыйных унёскаў? І як быць з прафэсіяй "удзельнік сэмінараў"?

*Ірына Дунаева:*

# ЭГУ адрозьніваецца ад іншых

**“Зьбег абставінаў” — наўрад ці такое словазлучэньне можна прымяніць да зьяўленьня гэтага інтэрвію. Дзейнасьць Цэнтру грамадзянскай адукацыі пры Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце сапраўды вартая інфармацыйных нагодаў, асабліва што да тэмы гэтага нумару. Магістратура па адміністраваньні грамадзкіх арганізацыяў, дзейнасьць у сфэры адукацыі настаўнікаў і актывістаў НДА, праекты па жаночым лідэрстве — пагадзіцеся, дастаткова матэрыялу для аднаго, не такога багатага на падзеі беларускага “трэцяга сэктару”.**

Другой, ня менш значнай, але бадай што больш “праблемнай” нагодай для размовы сталі вельмі рэзкія ацэнкі, якія прагучалі ў матэрыяле “Поле, беларускае поле. Аналітыкі” (гл. “Бюлетэнь” за студзень 2003), у тым ліку ў адносінах да выпускнікоў ЭГУ. Такім чынам, тыя абставіны сталі добрай нагодай для знаёмства і, у пэўным сэнсе, для спробы “высьвятленьня адносінаў” (на жаль, некаторыя вострыя моманты, якія былі закранутыя ў адзначаным вышэй матэрыяле, да канца так і не былі прагавораныя).

**Нашым суразмоўцам стала спн. Ірына ДУНАЕВА, дырэктар Цэнтру грамадзянскай адукацыі ЭГУ.**

— Цэнтар узьнік шэсьць год таму. Ён быў створаны як структура, якая займаецца дасьледчай дзейнасьцю і распрацоўкай праграмаў у галіне грамадзянскай адукацыі (ГА). Першая нашая праца была зьвязаная з падрыхтоўкай зборніка “Гражданское образование. Зарубежный опыт, проблемы развития”, дзе мы паспрабавалі раскрыць, што такое ГА, якія пэрспэктывы яго разьвіцьця і патрэба ў ім беларускай школы.

Мы зыходзілі з таго, што грамадзянская адукацыя — гэта навучаньне дэмакратыі ў самым шырокім сэнсе слова, навучаньне працэдурным пытаньням, дэмакратычным каштоўнасьцям. Таму калі не лічыць ГА нейкім вузкім прадметам у школе, як гэта часам здараецца, то пад ёй можна разумець дзейнасьць любога віду, скіраваную на тое, каб людзі ведалі пра дэмакратыю, падзялялі яе каштоўнасьці і адпаведным чынам паводзілі сябе ў жыцьці.

Наступная значная вяха ў нашай працы — распрацоўка непасрэдна навучальных дапаможнікаў па ГА. Мы выбралі міждысцыплінарную плыню ГА, бо намагаліся “нагрузіць” шэраг школьных дысцыплінаў зьместам такой адукацыі (што, дарэчы, не патрабуе дадатковых акадэмічных гадзінаў). Першай была ангельская мова. Мы падрыхтавалі дапаможнік “Гражданское образование в изучении английского языка”. У ім зьмешчаныя тэксты ў дапамогу настаўнікам ангельскай мовы — граматыка, сынтакс і тэмы па новых панятках, якія і дазвалялі “ўвесьці” вучняў у тэму ГА. Мы зрабілі дапаможнік часткова як краязнаўчы, часткова — як агульнапаліталягічны. Далей мы плянуем падрыхтаваць навучальныя дапаможнікі па іншых прадметах.

Цэнтар арганізоўваў летнюю школу для настаўнікаў ангельскай мовы, дзе навучалі, што такое ГА. Мы ня толькі інфармавалі настаўнікаў, але і вучылі, “як трэба вучыць ГА школьнікаў і студэнтаў”, карыстаючыся нашым мэтадычным дапаможнікам.

ГА — гэта тое, што рэалізуецца празь любыя формы дзейнасьці, якія трансьлююць узоры дэмакратычных каштоўнасьцяў, таму іншыя формы нашай актыўнасьці накіраваныя не на школы, а на такія групы, як, напрыклад, грамадзкія арганізацыі гуманітарнага профілю.

**— Адкуль зьявілася ідэя стварэньня магістратуры для НДА?**

— Ідэя была распрацаваная сумесна з нашымі амэрыканскімі партнэрамі з унівэрсытэту Джэксан (штат Місісіпі) у рамках праграмы міжунівэрсытэцкага супрацоўніцтва. Мы адштурхоўваліся ад праграмы гэтай ВНУ па Public Administration, якая ў перакладзе на нашыя рэаліі аказалася праграмай па падрыхтоўцы лідэраў грамадзянскіх ініцыятываў у галіне гу-

даведка

## што вывучаюць у магістратуры

— Месца НКА ў палітычнай структуры грамадзтва

— Сацыяльная работа і абарона грамадзкіх інтарэсаў

— Сацыялёгія арганізацыяў

— Прававое рэгуляваньне дзейнасьці НКА

— Сацыяльная псыхалёгія

— Практычныя пытаньні фінансавага мэнэджмэнту НКА

— Асновы фінансавага мэнэджмэнту НКА

— Маркетынг НКА

— Кіраваньне чалавечымі рэсурсамі:
Канфліктaлёгія
Праца з пэрсаналам
Праца з валянтэрамі

— Адносіны з грамадзкасьцю

— Праблемы лідэрства ў гендэрным кантэксьце

— Разьвіцьцё фінансавых рэсурсаў арганізацыі

манітарнай дзейнасьці. Праграма закліканая дапамагчы тым, хто мае досьвед працы па арганізацыі грамадзкіх гуманітарных арганізацыяў, хто хоча атрымаць прафэсійныя навыкі ў сфэры мэнэджмэнту, але ня бізнэсу, а сацыяльнага кіраваньня. Адукацыю мы зрабілі па спэцыяльнасьці "Паліталёгія".

Праграма рэалізоўвалася на розных узроўнях глыбіні: я ўзгадала магістратуру — гэта найбольш акадэмічная і салідная праграма (год вучобы, абарона магістарскай дысэртацыі, дыплём дзяржаўнага ўзору "Магістар гуманітарных навук па спэцыяльнасьці "Паліталёгія"), а таксама двухтыднёвая праграма навучаньня для супрацоўнікаў грамадзкіх арганізацыяў гуманітарнага профілю. Па апошняй праграме для ўдзельнікаў ня ставіўся цэнз "толькі з наяўнасьцю вышэйшай адукацыі", як гэта патрабуецца ў магістратуры.

Па магістарскай у нас 13 выпускнікоў, па двухтыднёвай праграме прайшлі навучаньне каля 60 чалавек.

Мы прапануем як тэарэтычныя курсы (паліталёгія, кіраваньне сацыяльнымі працэсамі, сучасныя філязофскія канцэпцыі ўлады і інш.), так і практычныя дысцыпліны (фінансавы мэнэджмэнт, прававое рэгуляваньне дзейнасьці НДА, маркетынг НДА, тэхналёгіі і нарматыўная база сацыяльнай работы). Мы вучым тэхнікам камунікацыяў, PR, пабудове ўзаемаадносінаў — ва ўсіх сваіх праграмах вялікую ўвагу мы скіроўваем на камунікацыю: стараемся прышчапляць уменьне негвалтоўна, бесканфліктна дабівацца пастаўленых мэтаў, уменьне ўзаемадзейнічаць з самымі рознымі людзьмі — напэўна, гэта і ёсьць тая прывязка і адаптацыя замежнага досьведу да нашых рэаліяў. Уменьне камунікаваць зь іншымі людзьмі, часам адрозных поглядаў — адна з умоваў пабудовы пасьпяховай дэмакратыі.



**— У сакавіку пачне навучаньне другая група магістратуры. Наколькі я ведаю, перад тым як пачуць канчатковы вэрдыкт — "прыняты ці не прыняты" — абітурыент мусіць прайсьці сумоўе. Як Вы ацэньваеце ўзровень падрыхтаванасьці кандыдатаў у магістратуру?**

— Мы мусім памятаць, каму наша праграма адрасаваная, а зь іншага боку — мы ня можам сабе дазволіць дэвальваваць дыплём магістра. Таму запабягальнікі ў нас здаюць іспыты па паліталёгіі, па замежнай мове. Тут вельмі розны ўзровень — дыяпазон адзнакаў ад дзясяткі да чацьверкі.

Сумоўе скіраванае на тое, каб высьветліць, наколькі чалавек матываваны і наколькі ён адпавядае мэтавай групе праграмы, наколькі ён актыўны ў грамадзкай арганізацыі. Мы просім рэкамэндацыі ад іншых арганізацыяў. Як правіла, прыходзяць людзі ня з вуліцы, большасьць зь іх добра вядомыя ў "трэцім сэктары". Мінулую магістратуру ў нас скончылі, напрыклад, Уладзімер Корж, Ірына Сухій, Элеанора Гвазьдзёва.

**— Як бачна па сьпісе вашых леташніх выпускнікоў і сёлетніх паступіўшых, вы прымаеце ў магістратуру людзей, якія ўжо склаліся як актыўныя лідэры, удалыя мэнэджэры НДА. Вы ня думаеце, што якраз ім магістратура патрэбная менш за ўсё?**

— Абітурыенты самі вырашаюць, ці патрэбнае ім навучаньне — гэта іх выбар. Проста калі людзі колькі год таму атрымлівалі адукацыю па матэматыцы, біялёгіі, зараз яны адчуваюць недахоп ведаў па тэарэтычных праблемах. Разавыя сэмінары, праграмы, несыстэматызаваныя веды не даюць поўнага ўяўленьня пра тое, чым яны займаюцца.

Я не кажу пра тое, што наша праграма беззаганная, бяз хібаў — не. Мы ўвесь час працуем над ёй — перапрацоўваем, спрабуем паляпшаць.

**— Як пры складаньні праграмаў для магістратуры вядзецца аналіз беларускай НДА-сытуацыі?**

— Абсалютна традыцыйнымі спосабамі — сацыялягічныя апытаньні, экспэртныя ацэнкі. Падругое, тое мноства кантактаў, якое мы маем праз нашыя навучальныя праграмы: сэлекцыя ўдзельнікаў праводзіцца вельмі пільна, у нас складаецца досыць поўная карціна. Зараз мы плянуем ладзіць новыя сацыялягічныя апытаньні і фокус-групы.

**— Пры вызначэньні прыярытэтаў для сацыялягічных дасьледаваньняў вы арыентуецеся на замовы звонку, ад НДА-актывістаў, ці на ўласныя назіраньні?**

— Мы карыстаемся ўсімі крыніцамі, у тым ліку вынікамі ўласных дасьледаваньняў. Напрыклад, адукацыйныя праграмы мы будавалі з улікам таго, як яны запатрабаваныя ў "трэцім сэктары". Мы зрабілі маркетынгавае дасьледаваньне, у якім высьвятлялі інтарэсы і магчымасьці (у тым ліку і фінансавыя) тых, каго мы зьбіраліся навучаць.

**— Адсюль і рашэньне плаціць магістрантам стыпэнды?**

— Так. Тыя, хто працуе ў НДА, папросту ня могуць плаціць за навучаньне. Апрача таго, гэта тая адукацыя, якая потым не прынясе ім вялікіх заробкаў. Гэта сапраўды nonprofit, у тым ліку і для людзей. Хаця таксама праблема — актыўнасьць у НДА ператвараецца ў спэцыяльнасьць. З аднаго боку, някепска, але як гэта зьвязана з матывацыяй — асобнае пытаньне.

**— Хто і якім чынам складае праграму, па якой адбываецца навучаньне ў магістратуры?**

— Беларускія выкладчыкі, унівэрсытэцкія катэдры распрацоўвалі гэтую праграму сумесна з амэрыканскімі партнэрамі. Гэта вызначае выкладчыцкі і студэнцкі абмен — праграма рэалізуецца ня толькі ў Менску, але і ў Джэксане.

Мы запрашаем спэцыялістаў, якія добра ведаюць і "трэці сэктар", і дысцыпліны, якім навучаюць. Яны гуманітарыі, але гэта ня значыць адарваныя ад жыцьця і рэальнасьці людзі.

**— Часта ад незалежных назіральнікаў, а таксама ад саміх студэнтаў даводзілася чуць: тое, што ім выкладаюць, збольшага адарвана ад беларускай сытуацыі — ім рэтрансьлюецца ці заходні, ці ўсходні (расейскі), але не айчынны досьвед.**

— Унівэрсытэт скіраваны на перадачу агульнаэўрапейскай спадчыны і асэнсаваньне беларускай сытуацыі ў кантэксьце эўрапейскіх інтэграцыйных працэсаў. Гэтая арыентацыя вызначае і асаблівую атмасфэру. Ці адчуваеце вы гэта, ці не, але звычайна ўсе, хто да нас прыходзіць, адзначаюць, што тут ніхто нікога не праганяе, вы можаце прыйсьці ў аддзел, і вам ня будуць груба адказваць. Гэты ўнівэрсытэт сапраўды адрозьніваецца ад многіх іншых арганізацыяў. Мы цэнім асаблівасьці ЭГУ, вучымся адзін у аднаго. Магчыма, размовы аб адарванасьці адсюль?

**— На Ваш погляд, што зараз уяўляе сабой беларускі "трэці сэктар"?**

"Трэці сэктар" — гэта яшчэ і рэлігійныя аб'яднаньні, і прафсаюзы. Калі мы называем некамэрцыйныя арганізацыі "трэцім сэктарам", то не зусім дакладна. Я хачу падкрэсьліць — мы працуем зь некамэрцыйнымі арганізацыямі гуманітарнага профілю.

Увогуле НДА вельмі палітызаваныя і прытым досыць замкнёныя на сабе, многія арганізацыі перажываюць вялікія ўнутраныя праблемы (гэта тычыцца псыхалягічнага клімату ў калектыве). На гэта ёсьць свае тлумачэньні, шмат у чым фінансавага характару (залежнасьць ад замежных грантадаўцаў, неразьвітасьць сацыяльнага прадпрымальніцтва, адсутнасьць у Беларусі заканадаўчай базы для дабрачыннасьці), але тлумачэньні не вырашаюць саміх праблемаў.

**— Беларускі "трэці сэктар" адбыўся?**

— Ён ёсьць такім, якім мог зьявіцца ў сучаснай сытуацыі.

"Трэці сэктар" прыцягвае магчымасьцю выразіць сябе, магчымасьцю рабіць тое, што ён ня мог рабіць раней. Гэта магчымасьць паказаць сябе зь іншага боку, калі ён ёсьць. Людзі нетрывіяльныя, незвычайныя. Актывісты НДА нашмат больш ініцыятыўныя, чым сярэднестатыстычныя грамадзяне. Вельмі яркія.

**— Вам не здаецца, што гэтая "нетрывіяльнасьць" часам не дазваляе, перашкаджае лідэрам і актывістам "трэцяга сэктару" быць адэкватнымі тым працэсам, якія адбываюцца ў грамадзтве?**

— Часам лідэры НДА пераацэньваюць свой уплыў на сытуацыю, яны лічаць сябе больш значнымі, чым ёсьць насамрэч. Яны жывуць самі для сябе, для сваіх. А вось выйсьці некуды "туды" — і ўсё, нас няма.

Вельмі хочацца, каб гэта было пачуцьцё пэсыміста, але я баюся, што з-за замкнёнасьці "трэцяга сэктару" і некаторай схільнасьці да жыцьця мроямі важным застаецца пытаньне прагматычнасьці, рэалізаванасьці мараў.

Для таго, каб "трэці сэктар" больш уплываў на звычайнае паўсядзённае жыцьцё, трэба, каб ствараліся новыя арганізацыі, каб у іх дзейнасьці брала ўдзел большая колькасьць людзей. Для гэтага патрэбныя і іх жаданьне, і магчымасьць працы без аплаты. Складана прыцягнуць людзей да валянтэрскай працы.

**— Ці гэта не пытаньне прафэсіяналізму актывістаў НДА, калі яны ня здольныя актываваць валянтэраў?**

— Як можна матываваць людзей, якія, калі маюць 3-4 вольныя гадзіны, лепей пойдуць туды, дзе ім заплацяць?

**— Ці адсочваеце Вы, што пасьля заканчэньня магістратуры адбываецца з вашымі выпускнікамі, як яны выкарыстоўваюць набытыя тут веды?**

— З выпускнікамі мы падтрымліваем кантакты. Але мэтанакіраваных высілкаў па высьвятленьні гэтага мы не прадпрымалі. У гэтым годзе, калі ўдасца, мы паспрабуем зладзіць канфэрэнцыю выпускнікоў праграмаў.

**— На Ваш погляд, наколькі магістратура жыцьцяздольная?**

— Якой колькасьці людзей яна патрэбная — гэта адзін бок пытаньня, а другі — мы шукаем грошы, іх знайсьці вельмі цяжка, прыбытковымі ці самаакупнымі для ЭГУ гэтыя праграмы быць ня могуць.

**— Фактычна, калі магістратуры "адрубяць" фінансаваньне, яна перастане дзейнічаць?**

— Так.

**Размаўляў Ян Міхевіч**

даведка

## Навучэнцы магістратуры ЭГУ па адміністраваньні НДА 2003/2004

1. Ірына Белая, БСМДГА "Рада", ГА "Жаночы адказ", "Нэкст Стоп — Нью Лайф" (Менск)
2. Вячаслаў Бортнік, "Міжнародная амністыя" (Гомель)
3. Андрэй Вітушка, "Асацыяцыя беларускіх мэдыкаў" (Менск)
4. Юры Кажура, Праект Праграмы разьвіцьця ААН (Менск)
5. Іна Кулей, дабрачынны фонд рэгіянальнага разьвіцьця "Наша Вежа" (Берасьце)
6. Павал Марозаў, "Новая група" (Менск)
7. Іна Рамашэўская, Беларускі чырвоны крыж (Менск)
8. Юры Супруновіч, Прадстаўніцтва ДА "Дамы замест Чарнобыля", "Эка-Дом" (Менск)
9. Нэлі Шчасная, ГА "Маладая грамада" (Менск)
10. Настася Чэрнік-Рымашэўская, ГА "Моладзевы хрысьціянска-сацыяльны саюз" (Менск)

# 5 лепшых кніг па грамадзянскай адукацыі

Перад вамі — спроба скласьці першы рэйтынг беларускіх кніг па грамадзянскай адукацыі. У яго стварэньні бралі ўдзел спэцыялісты дадзенага профілю, якім прапаноўвалася скласьці свой (а таму вельмі суб'ектыўны) рэйтынг. Асноўнай умовай пры складаньні было ўзгадваць толькі беларускія (то бок выдадзеныя беларускімі — самастойна ці супольна з замежнымі партнэрамі — НДА).

Не беручы пад увагу розныя аб'ектыўныя і суб'ектыўныя фактары (такія як "адсутнасьць арыгінальных беларускіх матэрыялаў у кнігах дадзенай тэматыкі", "шырокая трактоўка панятку "грамадзянская адукацыя" і да т.п.), дадзены рэйтынг сапраўды адлюстроўвае густы і прыярытэты спэцыялістаў, зь якімі, магчыма, цікава будзе пазнаёміцца шырокай грамадзкасьці.

| | Назва | Аўтар(ы) | Арганізаöыя-выдавеö | Месöа выданьня | Пра што кніжка | Навошта чытаöь простаму энжэошніку |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | **Инновационные методы обучения в гражданском образовании** | **В. В. Величко, Д. В. Крапиевич, Е. Ф. Карпиевич, Л. Г. Кирилюк** | **Адукацыйны цэнтар "ПОСТ"** | **Менск, 1999** | **Пра інавацыйныя і інтэрактыўныя мэтады, стратэгію актыўнага навучаньня.** | **Паколькі мэтавая група кнігі - арганізатары адукацыйных праграмаў, людзі спэцыфічных прыхільнасьцяў і цікавасьцяў, вам яе трэба чытаць толькі ў тым выпадку, калі ве-е-ельмі цікавіцеся грамадзянскай адукацыяй.** |
| 2 | **Да дэмакратыі праз грамадзянскую супольнасьць** | **Група аўтараў** | **Фонд імя Льва Сапегі (Беларусь), Фундацыя разьвіцьця мясцовай дэмакратыі (Польшча)** | **Шчэцін, 1999** | **Фактычна, пра "трэці сэктар" наагул: што гэта такое, навошта ён існуе, як могуць узаемадзейнічаць і супрацоўнічаць сэктары. Асноўная каштоўнасьць - да кожнага разьдзелу падаюцца сцэнары правядзеньня заняткаў інтэрактыўнымі мэтадамі.** | **Хаця б для таго, каб больш-менш уцямна адказваць на пытаньні знаёмых "дзе ты працуеш?" і "чым ты займаесься на такой працы?".** |
| 3 | **Адукацыя дарослых: досьвед Германіі для Беларусі** | **Г. Верамейчык, Т. Пашавалава** | **Цэнтар сацыяльных інавацыяў** | **Менск, 1999** | **Пра адукацыю дарослых у Нямеччыне: як, што, калі і інш. Бадай, самае цікавае ў кніжцы - паралелі зь Беларусьсю.** | **Каб раз і назаўжды (ОК, на бліжэйшы час! - аўт.) разабрацца, што абазначае незразумелае "грамадзянская адукацыя" і "адукацыя для дарослых".** |
| 3 | **Межкультурное образование в школе** | **В. В. Величко, А. В. Дергай, Д. В. Карпиевич, О. М. Савчик** | **Адукацыйны цэнтар "ПОСТ"** | **Менск, 2001** | **Пра міжкультурную адукацыю ў рэжыме інтэрактыву. У кнізе знойдзеце сцэнары правядзеньня адпаведных мерапрыемстваў, складзеныя настаўнікамі са школаў Менску і вобласьці.** | **Калі вы задумалі зладзіць адукацыйную праграму і пры гэтым не пересварыць міжсобку прадстаўнікоў розных групаў (культурных, розных па гендэрным складзе і інш.).** |
| 3 | **Обучаем иначе** | **Е. К. Григальчик, Д. И. Губаревич, И. И. Губаревич, С. В. Петрусев** | **СПГА "Чазенія"** | **Менск, 2001** | **Пра тое, як актывізаваць удзельнікаў сэмінару малой крывёй (тут - апісаньне мэтадаў, вялікі тэарэтычны матэрыял і апісаньне практычнага іх прымяненьня).** | **На думку аўтараў, простаму энжэошніку чытаць яе ня мае сэнсу.** |

# Да вашай увагі — дакумэнты, прапанаваныя Выканаўчым бюро РГ і зацьверджаныя пасьля дапрацоўкі Рабочай групай Асамблеі НДА.

## РЭГЛЯМЭНТ ПРАЦЫ РАБОЧАЙ ГРУПЫ АСАМБЛЕІ НДА

1. Рабочая група (РГ) – стала дзеючы кіруючы і каардынацыйны орган Асамблеі НДА паміж Кангрэсамі, які рэалізоўвае рашэньні Кангрэсу.

2. РГ абіраецца Кангрэсам зь ліку прадстаўнікоў арганізацыяў-сябраў Асамблеі.

3. РГ абірае старшыню і намесьніка (намесьнікаў) зь ліку сябраў РГ.

4. РГ вырашае пытаньні, зьвязаныя з арганізацыяй і правядзеньнем Кангрэсу Асамблеі.

**5. Функцыямі РГ**, у адпаведнасьці з рашэньнямі Асамблеі, зьяўляюцца:

— Прадстаўленьне інтарэсаў грамадзкіх арганізацыяў-сябраў Асамблеі НДА.

— Прадстаўленьне інтарэсаў Асамблеі як формы ўзаемадзеяньня грамадзкіх арганізацыяў Беларусі.

— Каардынацыя дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў–сябраў Асамблеі па рэгіёнах і кірунках дзейнасьці.

— Абарона правоў грамадзкіх арганізацыяў.

— Прыём і выключэньне арганізацыяў у (з) Асамблеі НДА.

— Зацьвярджэньне праграмаў у межах кірункаў дзейнасьці Асамблеі.

— Інфармацыйнае забесьпячэньне арганізацыяў-сябраў Асамблеі НДА.

6. РГ разьмяркоўвае абавязкі паміж сябрамі ў межах паўнамоцтваў РГ.

7. Вядзе паседжаньне старшыня РГ (намесьнік).

8. РГ можа прымаць заявы, звароты і іншыя дакумэнты ад свайго імя.

9. Паседжаньні РГ праводзяцца не радзей аднаго разу на два месяцы. Кіраўнік Выканаўчага бюро прысутнічае на паседжаньнях з правам дарадчага голасу.

10. Паседжаньне РГ лічыцца правамоцным, калі на ім прысутнічае ня менш як палова сябраў РГ.

11. РГ прымае рашэньні простай большасьцю галасоў ад прысутных.

12. Прадстаўнікі арганізацыяў-сябраў Асамблеі і супрацоўнікі ВБ маюць права прысутнічаць на паседжаньнях з правам дарадчага голасу.

13. РГ прымае і зацьвярджае справаздачу старшыні РГ і кіраўніка ВБ.

14. РГ прызначае кіраўніка ВБ.

15. Пры неабходнасьці прыняцьця дакумэнтаў аўтары абавязаныя прадставіць праекты гэтых дакумэнтаў сябрам РГ мінімум за тры дні да вынясеньня праекту на паседжаньне.

16. РГ ухваляе праекты, якія падаюцца ад імя РГ ці ВБ, і зацьвярджае кіраўнікоў праектаў.

17. Падчас паседжаньня РГ вядзецца пратакол.

18. На кожным паседжаньні РГ вызначаецца дата, месца, час правядзеньня наступнага паседжаньня. У выпадку немагчымасьці правядзеньня паседжаньня ў прызначаны час альбо адсутнасьці кворуму, старшыня вызначае дату правядзеньня.

19. Пры ненаведваньні сябрам РГ 3-х паседжаньняў запар без паважных прычынаў яго паўнамоцтвы прыпыняюцца рашэньнем РГ.

20. У выпадку сыстэматычнай (ня менш як 4 разы запар) адсутнасьці сябра РГ на паседжаньнях РГ, РГ прапануе структуры, ад якой быў абраны прадстаўнік, замяніць свайго прадстаўніка ў РГ альбо адмовіцца ад прадстаўніцтва ў РГ.

21. Сябра РГ мае права перадаць паўнамоцтвы прадстаўніку сваёй арганізацыі ў выпадку немагчымасьці прысутнічаць асабіста.

22. РГ прымае прынцыповыя ўхвалы альбо дэкларацыі ад імя Асамблеі праз працэдуру агульнага апытаньня ў наступным парадку:

— РГ прымае праект, які даводзіцца да сябраў Асамблеі;

— ВБ пад кантролем РГ праводзіць збор і апрацоўку адказаў сябраў Асамблеі;

— Галасаваньне доўжыцца на працягу вызначанага РГ тэрміну, але ня менш за 2 тыдні;

— Вынікі апытаньня лічацца правамоцнымі, калі ў ім узялі ўдзел 50% арганізацыяў-сябраў Асамблеі НДА;

— Рашэньне прымаецца, калі 2/3 арганізацыяў-сябраў Асамблеі, якія ўзялі ўдзел у галасаваньні, прагаласавала за яго прыняцьце;

— Давядзеньне праекту і збор адказаў ажыцьцяўляюцца праз пошту, электронную пошту альбо шляхам тэлефоннага апытаньня;

— Ад імя арганізацыі мае права даваць адказ кіраўнік ці прадстаўнік арганізацыі па даручэньні кіраўніка.

23. Рашэньні, прынятыя РГ, зьяўляюцца абавязковымі для Выканаўчага бюро і маюць рэкамэндацыйны характар для арганізацыяў-сябраў Асамблеі.

**Дадатак 1 да Рэглямэнту працы РГ:**

Прыём новых арганізацыяў у склад Асамблеі НДА ажыцьцяўляецца шляхам падачы заявы на імя РГ, у якой дэкляруецца згода з каштоўнасьцямі і прынцыпамі Асамблеі НДА, і вынятку з пратаколу паседжаньня кіруючага органа арганізацыі. Дакумэнты дасылаюцца ў Выканаўчае бюро. Выканаўчае бюро рыхтуе пытаньне аб уключэньні арганізацыі ў склад Асамблеі на бліжэйшае паседжаньне РГ.

### АБАВЯЗКІ СТАРШЫНІ РАБОЧАЙ ГРУПЫ:

1. Старшыня РГ справаздачны перад РГ па рашэньні РГ.

2. Вядзе паседжаньне РГ альбо даручае вядзеньне намесьніку.

3. Вызначае парадак дня паседжаньня РГ з улікам прапановаў сябраў РГ.

4. Мае права падпісваць ад імя РГ заявы, звароты і інш. дакумэнты.

5. Справаздачны перад РГ не радзей аднаго разу на год.

6. Мае права прадстаўляць інтарэсы Асамблеі ва ўзаемадачыненьнях з органамі дзяржаўнай улады і кіраваньня, СМІ, з грамадзкімі аб'яднаньнямі.

### АБАВЯЗКІ НАМЕСЬНІКАЎ СТАРШЫНІ РГ:

1. Арганізуюць дзейнасьць па кірунках працы, вызначаных РГ.

2. Вядуць паседжаньні РГ па даручэньні старшыні РГ.

3. Удзельнічаюць у працы ВБ.

## РЭГЛЯМЭНТ ПРАЦЫ ВЫКАНАЎЧАГА БЮРО РАБОЧАЙ ГРУПЫ АСАМБЛЕІ НДА

1. Выканаўчае бюро (ВБ) – стала дзеючы выканаўчы орган Рабочай групы Асамблеі НДА.

2. ВБ забясьпечвае выкананьне рашэньняў РГ і Асамблеі НДА.

3. Кіраўнік ВБ прызначаецца РГ.

4. Кіраўнік ВБ нясе адказнасьць і распараджаецца маёмасьцю і сродкамі ў межах, якія вызначаюцца РГ.

5. Кіраўнік ВБ справаздачны перад РГ.

6. Функцыямі ВБ зьяўляюцца:

— Інфармацыйнае забесьпячэньне арганізацыяў-сябраў Асамблеі НДА: выданьне "Бюлетэня", падрыхтоўка электроннай і паштовай рассылкі, інфармаваньне замежных НДА пра дзейнасьць Асамблеі і значныя падзеі грамадзкага сэктару Беларусі.

— Аказаньне кансультацыяў і дапамогі па напісаньні праектаў, працы з грантадаўцамі для арганізацыяў-сябраў Асамблеі НДА.

— Юрыдычныя кансультацыі для арганізацыяў-сябраў Асамблеі НДА.

— Пошук партнэраў для арганізацыяў-сябраў Асамблеі НДА ў Беларусі і ў замежжы.

— Вядзеньне і абнаўленьне базы зьвестак Асамблеі пра беларускія НДА, замежныя фундацыі, пра беларускіх трэнэраў, СМІ.

— Арганізацыя і правядзеньне тэматычных круглых сталоў і сэмінараў, канфэрэнцыяў, прысьвечаных актуальным праблемам грамадзтва.

— Усталяваньне кантактаў са СМІ дзеля апэратыўнага інфармаваньня грамадзтва пра ініцыятывы і дзейнасьць Асамблеі НДА.

— Падрыхтоўка мэтадычных і даведачных матэрыялаў, адукацыйная дзейнасьць з мэтай павелічэньня эфэктыўнасьці Асамблеі.

— Тэхнічнае забесьпячэньне арганізацыі і правядзеньня паседжаньняў РГ і Кангрэсаў Асамблеі НДА.

### АБАВЯЗКІ КІРАЎНІКА ВБ:

1. Кіраўнік ВБ справаздачны перад РГ па рашэньні РГ.

2. Забясьпечвае арганізацыю працы ВБ.

3. Прымае рашэньні і дае распараджэньні па бягучых пытаньнях дзейнасьці ВБ.

4. Мае права выступаць ад імя ВБ у межах сваёй кампэтэнцыі.

5. Справаздачны перад РГ не радзей аднаго разу на год.

6. Мае права прызначаць і звальняць супрацоўнікаў ВБ са згоды РГ.

# кампутарны лікбез

## новыя магчымасьці бясплатнага навучаньня

Кампутарнае навучаньне сябраў НДА, арганізаванае Выканаўчым бюро РГ Асамблеі ў супрацоўніцтве з IATP/IREX, цягнецца са сьнежня 2002 году. За гэты час было праведзена 8 сэмінараў з удзелам каля 70 прадстаўнікоў “трэцяга сэктару”. Тыя зь іх, хто прадстаўляў нядаўна ўтвораныя альбо маленькія рэгіянальныя арганізацыі, у якіх толькі нядаўна зьявілася кампутарная тэхніка, мелі магчымасьць авалодаць асновамі карыстаньня кампутарам і інтэрнэту. Прадстаўнікі “старэйшых” буйных НДА павысілі свой прафэсійны ўзровень у гэтым кірунку, калі прайшлі навучаньне па карыстаньні спэцыялізаванымі праграмамі. Пяцёра ўдзельнікаў стварылі вэб-старонкі сваіх арганізацыяў.

Улічваючы тое, што выдаткі на праезд і пражываньне ўдзельнікаў не кампэнсуюцца, сэмінары праводзяцца ў IATP-цэнтрах у Менску, Гомелі, Магілёве, Берасьці, Віцебску, Полацку і Маладэчне.

Пасьля абмеркаваньня магчымых шляхоў удасканаленьня мэтадаў кампутарнай адукацыі прадстаўнікоў НДА Выканаўчае бюро і IATP/IREX вырашылі арганізаваць для пачаткоўцаў цыклі сэмінараў. Так, з 4 сакавіка ў Менску пачаўся шасьцітыднёвы цыкль для тых, хто жадае стварыць асабістую вэб-старонку.

Цягам першых двух тыдняў удзельнікі азнаёмяцца з асновамі працы з кампутарам і інтэрнэтам, падрыхтуюцца да стварэньня вэб-старонкі. Падчас стварэньня асабістай вэб-старонкі цягам наступных чатырох тыдняў яны навучацца працаваць з праграмай PhotoShop і азнаёмяцца з вэб-дызайнам. Вынікам гэтага цыклю сэмінараў стане створаная і разьмешчаная на сэрвэры iatp.by асабістая вэб-старонка ўдзельніка.

Наступны цыкль для пачаткоўцаў стартуе ў Менску 19 сакавіка. Ён будзе складацца з двух сэмінараў па асновах працы з кампутарам і інтэрнэтам. У Гомелі такі цыкль пачаўся 4 сакавіка, у Берасьці заплянаваны ў красавіку, у Полацку — у сакавіку.

Калі ў вашым горадзе няма IATP-цэнтру, але ёсьць дастатковая колькасьць жадаючых прайсьці навучаньне па адной з тэмаў, і ў дадатак да гэтага ёсьць офіс з чатырма-пяцьцю кампутарамі ў ім, вы можаце замовіць трэнэра зь Менску.

Мы плянуем кожны месяц праводзіць адзін ці два сэмінары па спэцыялізаваных праграмах і сэмінары па асновах працы з кампутарам і інтэрнэтам. Кожны сэмінар ідзе на працягу трох-чатырох дзён па тры гадзіны штодня.

Так, у сакавіку ў Менску пройдзе сэмінар на тэму “Папяровая вёрстка — PageMaker, QuarkXpress. Адрозьненьні і падабенства. Пераход з PageMaker на QuarkXpress. Творчая вёрстка”. У красавіку — “Спэцыялізаваныя сродкі Adobe PhotoShop: слаі, каналы, шляхі і маскі”. У траўні — “Пакет Acrobat — стварэньне і рэдагаваньне PDF-файлаў”.

Улетку ў Менску плянуюцца наступныя тэмы:

— Прафэсійная праца з Word. Вёрстка ў Word;

— Microsoft Access. Стварэньне базаў зьвестак. Формы, запыты, макрасы;

— Сканэр і сканаваньне. Тыпы сканэраў, магчымасьці. Выбар сканэраў. Задачы. Якаснае сканаваньне;

— Пытаньні бясьпекі ў інтэрнэце: антывірусныя сродкі, электронная пошта.

У сваіх зваротах да арганізатараў кампутарнага навучаньня прадстаўнікі НДА адной з асноўных мэтаў пазначаюць павышэньне свайго прафэсійнага ўзроўню для павышэньня прафэсійнага ўзроўню дзейнасьці арганізацыі. Тыя арганізацыі, якія плянуюць альбо маюць свае выданьні, хочуць пашырыць свой досьвед працы ў выдавецкіх праграмах, каб мець магчымасьць абыходзіцца без паслугаў камэрцыйных арганізацыяў пры падрыхтоўцы асабістых публікацыяў. Каб стварыць сваю вэб-старонку, арганізацыі абіраюць і дасылаюць на сэмінары такога свайго актывіста, які надалей зможа падтрымліваць і разьвіваць яе.

У сваю чаргу арганізатары зьвяртаюцца да ўдзельнікаў сэмінараў з прапановай двухбаковага супрацоўніцтва, якое дазволіць прадстаўнікам “трэцяга сэктару” з пасіўных атрымальнікаў ведаў ператварыцца ў іх актыўных праваднікоў. Таму мы прапануем вам наступныя шляхі супрацоўніцтва з праграмай IATP/IREX:

— Напісаньне артыкулаў пра тое, як кампутарнае навучаньне паўплывала на вашую дзейнасьць у арганізацыі (артыкул будзе разьмешчаны на вэб-старонцы праграмы IATP/IREX);

— Правядзеньне такіх жа сэмінараў зь сябрамі вашай альбо іншых арганізацыяў у вашай мясцовасьці;

— Правядзеньне на базе IATP-цэнтру вашага гораду сэмінараў на тэмы, па якіх вы маеце прафэсійныя веды.

Мы чакаем ад тых, хто прайшоў навучаньне, прапановаў па зручных для вас шляхах супрацоўніцтва.

**Для тых, хто жадае навучацца, мы працягваем запіс у групы на 2003 год. Вы можаце запісацца на любую колькасьць тэмаў, пазначыўшы горад, вашыя кантакты, арганізацыю, зручны для вас час дня, мэту навучаньня і шляхі вашага супрацоўніцтва з IATP.**

Вось сьпіс тэмаў, якія прапануе вам праграма IATP/IREX:

1. Асновы працы з кампутарам;
2. Асновы працы ў інтэрнэце;
3. Стварэньне асабістай вэб-старонкі;
4. Праца з праграмамі электроннай пошты;
5. Праца са спэцыялізаванымі праграмамі:

1) Вэктарная графіка — Corel, Illustrator, Xara.

Магчымасьці вэктарнай графікі, спэцыфіка і магчымасьці пакетаў, творчае заданьне. Праца з web.

2) Растравая графіка — Painter, Pixia, PhotoShop.

Адрозьненьні задачаў, пакеты для маляваньня і пакеты для рэдагаваньня.

3) PhotoShop — філязофія.

Знаёмства зь інструмэнтамі, слаямі. Карэктыроўка фатаздымкаў.

4) Папяровая вёрстка — PageMaker, QuarkXpress.

Адрозьненьні і падабенствы. Пераход з PageMaker на QuarkXpress. Творчая вёрстка. Заданьне — дзьвюхстаронкавая ўлётка.

5) Беларускі інтэрнэт для вэб-майстра.

Інфармацыйныя сайты, каталёгі, пошукавыя сыстэмы, рэйтынгі. Правілы рэгістрацыі, рэклама.

6) Пакет Acrobat.

Стварэньне і рэдагаваньне PDF-файлаў. Стварэньне спасылак, пераходаў, камэнтараў, зьместу. Вывад на друк, аптымізацыя. Зьліцьцё і падзяленьне файлаў.

7) Сканэр і сканаваньне.

Тыпы сканэраў, магчымасьці. Выбар сканэраў. Задачы. Распазнаньне тэкстаў, якаснае сканаваньне. Капіяваньне дакумэнтаў.

8) Прафэсійная праца з Word.

Вёрстка ў Word. Аўтаматычнае стварэньне зьместу, нумарацыя старонак, калянтытулы. Правілы набору тэксту.

9) Microsoft Access.

Стварэньне БД. Формы, запыты, макрасы.

10) Запіс CD, выбар рэкордэру.

Праграмы для запісу, тыпы дыскаў, стварэньне музычных дыскаў, мультысэсійныя дыскі, CD-RW, стварэньне загрузачных дыскаў, праграмы для стварэньня інтэрфэйсу.

11) Беларускія банэрныя сеткі.

12) Рэкляма ў інтэрнэце.

13) Пытаньні бясьпекі ў інтэрнэце: антывірусныя сродкі, электронная пошта.

14) Банэры: як стварыць і разьмясьціць.

15) Каскадныя табліцы стыляў (CSS).

16) Web-графіка: прынцыпы аптымізацыі.

17) Паштовая праграма TheBat.

18) Як сабраць кампутар.

19) Праграмнае забесьпячэньне для web-дызайнэра.

20) Пошукавыя рэсурсы: рэгістрацыя і прамоцыя сайтаў.

21) Дызайн: колерападзел, кампазыцыя.

22) Дызайн для web.

23) Дызайн паліграфічны.

24) Вёрстка: QuarkXpress.

25) Вэктарныя праграмы: маляваньне, вёрстка, Adobe Illustrator, CorelDraw, FreeHand.

26) Painter.

27) Асновы PhotoShop.

28) Фотамантаж у Adobe PhotoShop.

29) Фільтры і эфэкты для Adobe PhotoShop.

30) Маляваньне сродкамі Adobe PhotoShop.

31) Web-графіка і паліграфія ў Adobe PhotoShop.

32) Спэцыяльныя сродкі Adobe PhotoShop: слаі, каналы, шляхі і маскі.

Каб запісацца на сэмінар, тэлефануйце ў Выканаўчае бюро РГ Асамблеі:

**206-59-09, 225-51-10,**

альбо дасылайце заяўку на:

**ngo@user.unibel.by** (Натальлі Казлоўскай).

Пазначце, калі ласка, **абраныя тэмы, горад, у якім вы жадаеце прайсьці навучаньне, вашыя кантакты, арганізацыю, зручны для вас час, мэту навучаньня і шляхі вашага супрацоўніцтва з IATP.**

# Агляд-кроніка парушэньняў правоў чалавека ў Беларусі ў 2002 годзе

**Менск, 2003**

Штогадовыя агляды парушэньняў правоў чалавека, якія выдае ГА "Праваабарончы цэнтар "Вясна" — ужо зьява на праваабарончым ляндшафце нашай краіны. Гэты том — пяты са шматгадовай эпапеі.



Часьцей за ўсё ў падобных аглядах па Беларусі (падрыхтаваных БХК ці Хартыяй-97) акцэнт робіцца не на фактычных матэрыялах, а на агульным аналізе сытуацыі. Лічыцца, што згаданыя ў падобных працах факты зьяўляюцца агульнавядомымі (адлюстраванымі ў іншых крыніцах) і гавораць самі за сябе. Ясна, што нельга "Вясноўскую" кроніку параўнаць і з афіцыйнымі справаздачамі РБ.

Акрамя грунтоўнага аналітычнага фрагмэнту агляд — гэта перш за ўсё кроніка: пасьлядоўны, добра структураваны, насычаны пералікам падзеяў, што адбыліся ў дадзенай сфэры за справаздачны год. Гаворка вядзецца ня толькі пра звальненьні і зьбіцьцё журналістаў, перасьлед апазыцыйных палітыкаў, няўрадавых арганізацыяў, катаваньні і арышты. У поле зроку чытача трапляюць і зьмены заканадаўства, якія не адпавядаюць сусьветным стандартам у галіне правоў чалавека і пагаршаюць становішча людзей, парлямэнцкія слуханьні па такіх праблемах, як сьмяротнае пакараньне, грамадзкія кампаніі супраць перасьледу веруючых і па пошуку асобаў, зьніклых бязь вестак...

"Для беларускай дзяржавы правы чалавека па-ранейшаму не зьяўляюцца непарушным прынцыпам, які мусіць дамінаваць ва ўсіх праявах дзяржаўнай палітыкі", — адзначаецца ў аглядзе-кроніцы за мінулы год. Экспэрты "Вясны" прыйшлі да высновы, што ў 2002 годзе ў агульным становішчы з захаваньнем правоў чалавека ў Беларусі зрухаў да лепшага не адбылося. Сытуацыя ня проста па-ранейшаму кепская, але характарызуецца стабільна адмоўнай дынамікай. Палітыка ўладаў па-ранейшаму суправаджаецца парушэньнем міжнародных стандартаў у галіне правоў чалавека і нацыянальнага заканадаўства. Найбольш істотнае пагаршэньне сытуацыі было зафіксаванае ў галіне свабоды слова і свабоды веравызнаньня.

Агляд, натуральна, ня можа ахопліваць усіх парушэньняў правоў чалавека ў нашай краіне. Большасьць інфармацыі для новага зборніка сабраная сябрамі "Вясны" зь 17-ці аддзяленьняў па ўсёй краіне. Таксама выкарыстана шмат зьвестак, сабраных іншымі праваабарончымі структурамі, якія распаўсюджваліся праз айчынныя і замежныя СМІ.

# Правовые основы избирательного процесса в Беларуси.

## Выборы в местные Советы депутатов

**Менск, 2003**

Напярэдадні і падчас выбарчых кампаніяў 2000 і 2001 гадоў НДА і грамадзянскія ініцыятывы Беларусі падрыхтавалі і выпусьцілі ў сьвет шэраг выданьняў, прысьвечаных розным аспэктам назіраньня за выбарчым працэсам. Гэтыя кнігі і брашуры (колькасьць іх вымяраецца дзясяткамі) ахоплівалі самую разнастайную праблематыку ў межах дадзенай тэмы: ад тэарэтычных пытаньняў, цікавых хіба што для вузкага кола юрыстаў, да простых практычных дапаможнікаў, якія ў даступнай форме тлумачылі працэдуру назіраньня за выбарчым працэсам незаангажаванаму чытачу.



На жаль, напярэдадні сакавіцкіх выбараў у мясцовыя саветы такіх выданьняў не было заўважана. Напэўна, адзіным выключэньнем ёсьць дадзеная брашура, падрыхтаваная і выдадзеная ГА "Прававая дапамога насельніцтву". Верагодна, з-за сваёй унікальнасьці яна мусіла спалучыць у сабе досыць разнародныя матэрыялы, датычныя як тэарэтычных, так і практычных пытаньняў. Чытачы (а гэта пераважна фармальныя і нефармальныя давераныя асобы кандыдатаў) знойдуць тут артыкулы, прысьвечаныя прынцыпам назіраньня за ходам выбараў, прававому статусу назіральніка і выбарчых камісіяў, прававому рэгуляваньню розных этапаў выбарчага працэсу (ад абвяшчэньня выбарчай кампаніі і папярэдняга назіраньня да парадку галасаваньня і падліку галасоў). Вельмі карысная часткай дапаможніка зьяўляюцца практычныя парады назіральнікам, якія суправаджаюць асноўны матэрыял.

У якасьці дадатку зьмешчаны кодэкс паводзінаў грамадзкага назіральніка і ўзоры лістоў назіраньня, скаргаў і актаў аб парушэньні нормаў выбарчага заканадаўства.

Натуральна, такі дапаможнік ня мог застацца без увагі — наклад быў распаўсюджаны імгненна. Той, хто хоча азнаёміцца з кнігай, можа зьвярнуцца ў Выканаўчае бюро РГ Асамблеі — мы маем магчымасьць выслаць вам электронны варыянт тэксту.

## ГРАНТЫ

### GLOBAL FUND FOR WOMEN

абвяшчае конкурс на атрыманьне грантаў, накіраваных на паляпшэньне правоў жанчынаў. Сума гранту — ад $500 да $15 000. Фонд падтрымлівае арганізацыі, што выступаюць за роўнасьць правоў жанчынаў, праца ў якіх ажыцьцяўляецца самімі жанчынамі. Жаночыя групы могуць падаць заяўку на грант, прачытаўшы інфармацыю пра асноўныя крытэрыі атрыманьня грантаў і адказаўшы на пастаўленыя пытаньні, ці даслаўшы ліст, які ўтрымлівае інфармацыю пра групу, яе працу, фінансавыя рэсурсы і патрэбы, а таксама пра мэту, на ажыцьцяўленьне якой патрабуецца грант.

Больш падрабязная інфармацыя зьмешчаная на сайце **www.globalfundforwomen.org**

## СТЫПЭНДЫ

### МАГЧЫМАСЬЦІ АТРЫМАНЬНЯ СТЫПЭНДЫЯЎ ДЛЯ СТУДЭНТАЎ ЗЬ БЕЛАРУСІ І МАЛДОВЫ

Міністэрства замежных справаў Швэцыі абвяшчае конкурс на атрыманьне ступені магістра ў межах праграмы Кансорцыюму эканамічнай адукацыі і дасьледаваньняў на 2003-2004 і 2004-2005 гг. Навучаньне бясплатнае, студэнтам будзе прадастаўлены пакой у інтэрнаце, падручнікі з Заходняй Эўропы і вольны доступ да інтэрнэту. Пасьля заканчэньня студэнтам будзе прадастаўленая магчымасьць атрыманьня доктарскай ступені за мяжой, а таксама магчымасьць працаўладкаваньня ў іх роднай краіне.

Навучаньне адбываецца на ангельскай мове. Для выкладаньня запрошаныя прафэсары з Эўропы, Паўночнай Амэрыкі і іншых краінаў. Будуць запрошаныя таксама выкладчыкі з Украіны, якія прайшлі курс заходнеэўрапейскіх трэнінгаў.

Заяўку на ўдзел у конкурсе можа падаваць любы жадаючы, які:

- мае дыплём ці ступень бакалаўра па спэцыяльнасьці да моманту паступленьня;
- добра валодае ангельскай мовай;
- мае добрыя матэматычныя здольнасьці.

Папярэдняя эканамічная адукацыя пажаданая, але не зьяўляецца асноўным фактарам пры адборы прэтэндэнтаў.

**Апошні тэрмін падачы заяўкі — 1 ліпеня 2003 году.** Больш падрабязную інфармацыю і форму заяўкі шукайце:

**тэл.: (38-044) 239-2494, www.eerc.kiev.ua, eerc@eerc.kiev.ua**

## ІНФАРМАЦЫЯ ПА ФОНДАХ

### GERMAN FOUNDATION FOR WORLD POPULATION (НЯМЕЧЧЫНА)

**Дата заснаваньня:** 1991 г.

**Місія:** фонд накіроўвае сваю дзейнасьць на ўмацаваньне ўстойлівага разьвіцьця, аддаючы асаблівую перавагу індывідуальным асобам.

**Прыдатнасьць:** зазвычай, фонд распаўсюджвае свае дзеяньні на ўсе краіны, але прыярытэтнымі зьяўляюцца краіны з эканомікай, якая разьвіваецца, а таксама індустрыялізаваныя краіны.

**Грантавыя праграмы:**

- абсталяваньне;
- агульная падтрымка;
- праграмнае разьвіцьцё;
- дасьледаваньні.

**Адрас:**

Göttinger Chaussee 115
30459 Hannover
Germany
**Tel.: +49.0511.943.730, fax: +49.0511.234.5051**
**E-mail: info@dsw-hannover.de**
**www.dsw-online.de**

### CO-OPERATING NETHERLANDS FOUNDATIONS (CNF)

CNF займаецца праграмамі грантаў, што накіраваныя на падтрымку “трэцяга сэктару” ў краінах Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Дадзеная праграма не падтрымлівае навукова-дасьледчую дзейнасьць, экалягічныя, культурныя і рэлігійныя праекты. Больш падрабязную інфармацыю можна знайсьці на сайце:

**www.cnfcee.nl**

### HEALTH AND SOCIAL CARE PARTNERSHIPS

The Health & Social Care Partnerships scheme (HSCP) падтрымлівае грамадзкія, дабрачынныя арганізацыі, дзяржаўныя і муніцыпальныя органы, якія працуюць у сфэры аховы здароўя і сацыяльнай абароны ў Беларусі, Малдове, Расеі і на Ўкраіне. Асноўная мэта — абмен досьведам шляхам усталяваньня партнэрскіх адносінаў з падобнымі арганізацыямі ў Вялікабрытаніі. Больш падрабязная інфармацыя зьмешчаная на сайце арганізацыі:

**www.hlsp.org/partnerships/**

### EU PRAXIS

EU Praxis мае на мэце дапамогу грамадзкім арганізацыям у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе ў распрацоўцы сумесных праектаў з эўрапейскімі партнэрамі і пошук фінансаваньня для гэтых праектаў. На сайце вы зможаце бясплатна падпісацца на рассылку, у якой будзеце атрымліваць самую апошнюю інфармацыю пра магчымасьці атрыманьня грантаў. Акрамя таго, зможаце бясплатна

выкарыстоўваць шэраг іншых паслугаў, уключаючы парады і дапамогу экспэртаў па пытаньнях фінансаваньня праектаў.

**www.eupraxis.com**

### POLISH-AMERICAN FREEDOM FOUNDATION

The Polish-American Freedom Foundation (PAFF) садзейнічае разьвіцьцю дэмакратыі, грамадзянскай супольнасьці, разьвіцьцю эканомікі і роўных магчымасьцяў у Польшчы і краінах Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы шляхам прадастаўленьня грантаў і іншай дапамогі грамадзкім арганізацыям і ініцыятыўным групам на лякальным узроўні. Больш падрабязную інфармацыю вы знойдзеце на сайце на польскай і ангельскай мовах.

**www.pafw.pl**

### CARPATHIAN FOUNDATION

The Carpathian Foundation зьяўляецца рэгіянальным фондам, які прадастаўляе гранты і тэхнічную дапамогу грамадзкім арганізацыям і мясцовым органам улады з мэтай стварэньня сацыяльнай стабільнасьці і эканамічнага разьвіцьця ў краінах, якія мяжуюцца з Вэнгрыяй, Польшчай, Румыніяй, Славакіяй, Украінай.

**www.carpathianfoundation.org**

### GERMAN MARSHALL FUND

The German Marshall Fund прапаноўвае спэцыяльныя праграмы, якія падтрымліваюць разьвіцьцё грамадзянскай супольнасьці ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе. Больш падрабязная інфармацыя зьмешчаная на сайце:

**www.gmfus.org**

## ДАВЕДНІК ДОНАРСКІХ АРГАНІЗАЦЫЯЎ ЭЎРОПЫ

Выйшла чацьвертае дапоўненае выданьне “Даведніка донарскіх арганізацыяў Эўропы” (Guide to European Population Assistance).

Даведнік можа быць карысны для арганізацыяў, якія працуюць у сацыяльнай сфэры, напрыклад, займаюцца праблемамі СНІДу, плянаваньня сям’і і г.д.

Выданьне ўтрымлівае інфармацыю пра мэханізмы працы эўрапейскіх донарскіх арганізацыяў, праграмы фінансаваньня (кантакты фондаў, іх прыярытэты, працэс падачы заявак, умовы атрыманьня грантаў).

Пры дапамозе пошуку можна знайсьці пералік донарскіх арганізацыяў, якія падтрымліваюць вызначаныя віды дзейнасьці, працуюць у вызначаных рэгёнах ці выдаюць вызначаныя тыпы грантаў.

Бясплатны асобнік даведніка можна знайсьці ў інтэрнэце па адрасе www.euroresources.org/sample.htm. Для поўнага доступу да рэсурсаў неабходна мець пароль, які можна набыць за 10 эўра (для недзяржаўных арганізацыяў краінаў, якія разьвіваюцца).

Дадатковую інфармацыю пра даведнік ці ўмовы набыцьця паролю можна знайсьці на старонцы **www.euroresources.org**

**КАНТАКТЫ:**
**Ms. Alexandra Mueller**
**German Foundation for World Population (DSW)**
**alexandra.mueller@dsw-hannover.de**
**www.euroresources.org**

## КАНФЭРЭНЦЫІ

### МІЖНАРОДНАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ ПА МОЛАДЗЕВЫМ ЛІДЭРСТВЕ

**20-25 ліпеня, 27 ліпеня — 1 жніўня, 2003. Прага**

Тэрмін падачы заяўкі — як мага хутчэй.

На канфэрэнцыю запрашаюцца студэнты ад 18 да 24 гадоў. Заяўка на ўдзел падаецца ў рэжыме online. Больш падрабязная інфармацыя: **www.czechleadership.com**

**applications@czechleadership.com**

## УЗНАГАРОДЫ

### ПРЭМІЯ HUMAN RIGHTS AWARD

**Арганізацыя**: Reebok

**Сфэра:** правы чалавека

Сябры міжнароднай супольнасьці па правах чалавека і недзяржаўныя арганізацыі могуць высунуць кандыдатаў — маладых актывістаў ва ўзросьце да 30 гадоў, якія праявілі мужнасьць у барацьбе за правы чалавека. Пол, этнічная, нацыянальная і рэлігійная прыналежнасьць значэньня ня маюць.

**Узнагарода**: $50 000 ад Фонду Reebok па правах чалавека.

**Патрабаваньні**: Намінанты не павінны прапагандаваць гвалт. Прынцыпы іх працы мусяць адпавядаць Дэклярацыі па правах чалавека, прынятай ААН.

**Тэрмін падачы заяўкі**: не пазьней за 31 траўня 2003 году.

Заяўкі будуць разгледжаны да 1 сьнежня 2003 году.

**Дадатковая інфармацыя:**
**www.reebok.com/humanrights**
**rhraward@reebok.com**



рэгіён

# Ля стра́ды

## апынаюцца больш як 2 тысячы беларусак

**“Мара пра нармальнае жыцьцё на Захадзе — аб’ява кшталту “праца за мяжой” у мясцовай газэце — шчасьлівы выезд “за кардон” — нязбытная мроя пра вяртаньне на радзіму любым чынам”. Гэта самы спрошчаны ланцужок, беларускі варыянт дзевяці колаў пекла, што знаёмы тысячам беларусак, якія трапілі ў рабства за мяжой. Яны едуць на Захад працаваць швачкамі, афіцыянткамі, танцоркамі, а аказваюцца ў публічных дамах. Ці бяруцца шлюбам з замежнікам, які, карыстаючыся недасьведчанасьцю, не дае сваёй беларускай жонцы разводу. Прыклады можна працягваць. Праблема бясьпечнага выезду за мяжу набыла сур’ёзнае грамадзкае гучаньне. Беларуская асацыяцыя маладых хрысьціянскіх жанчынаў стала адной з арганізацыяў, якая скіравала сваю дзейнасьць супраць гвалтоўных выездаў безь вяртаньня. Сёньня мы размаўляем са старшынёй Віцебскага аддзяленьня згаданай арганізацыі Сьвятланай Уткінай.**

— Нашая арганізацыя ня першы год займаецца пытаньнем бясьпечнага выезду суграмадзянак за мяжу. Мы працуем па праграме “Ля Страда”, якая прадугледжвае комплекс захадаў, каб прадухіліць небясьпеку для здароўя і жыцьця беларусак, што хочуць трапіць за мяжу.

У сваёй працы мы выкарыстоўваем досьвед і дапамогу суседніх краінаў, і ў першую чаргу Польшчы. Там нашмат раней сутыкнуліся з гэтай праблемай і асэнсавалі яе маштаб: напачатку 1990-х тысячы маладых палячак выехалі за мяжу ў пошуках лепшай долі. Многія зь іх сутыкнуліся з тым, што замежнікі выкарыстоўваюць іх як танную працоўную сілу, прымушаюць займацца прастытуцыяй.

Дарэчы, польскія жаночыя арганізацыі першыя ва Ўсходняй Эўропе ініцыявалі працу па праграме “Ля Страда”. Яна створаная дзеля прадухіленьня незаконнага вывазу жанчынаў для продажу і эксплёатацыі. У Польшчы ладзяцца інфармацыйныя кампаніі па гэтай тэме. Напрыклад, выпушчаная спэцыяльная відэакасэта, якая папярэджвае маладых дзяўчат і жанчынаў, каб тыя не рабілі рызыкоўных крокаў. У Варшаве дзейнічае “гарачая лінія” для жанчынаў, якія зьбіраюцца выехаць у замежжа.

**— А што ўяўляе сабой беларуская “Ля Страда”?**

— Галоўная мэта нашай працы — інфармаваньне грамадзкасьці Беларусі пра небясьпеку гандлю жанчынамі за мяжой. У рамках праекту са студзеня 2001 году ў Менску дзейнічае інфалінія, апэратары якой адказваюць на пытаньні жанчынаў з усёй Беларусі. Асацыяцыя таксама друкуе разнастайныя кнігі, брашуры, улёткі па гэтым пытаньні. Ладзяцца шматлікія сэмінары.

“Ля Страда” ня толькі дае прэвэнтыўныя кансультацыі, але і дапамагае жанчынам, што пацярпелі ў выніку гандлю людзьмі. Летась БАМХЖ атрымала 34 заявы ад пацярпелых і іх сваякоў — у кожным з выпадкаў аказаная адпаведная дапамога. За 24 месяцы працы — са студзеня 2001 году па сьнежань 2002 — было атрымана больш як 2 тысячы тэлефанаваньняў па нашай інфалініі. У сярэднім на працягу аднаго дня паступала 10 зваротаў.

**— Што найбольш цікавіць жанчынаў?**

— Часьцей за ўсё іх цікавяць пытаньні працаўладкаваньня. Гэта прыблізна 56% ад усіх званкоў. Шмат хто тэлефануе, каб даведацца, як брацьці скасоўваць шлюб з замежнікам. Тут задаецца шмат пытаньняў пра тое, якія правы ёсьць у жонак і дзяцей у інтэрнацыянальных шлюбах. Нягледзячы на тое, што “Ля Страда” не аказвае паслугаў па пошуку працы і спадарожніка жыцьця, былі звароты і на гэты конт. Шмат жанчынаў спрабавалі з дапамогай “Ля Страды” ўладкавацца на працу ці знайсьці сужэнца за мяжой. Натуральна, што інфалінія тут нічым не дапамагла.

**— Якія краіны становяцца аб’ектамі мараў беларусак?**

— Для тых жанчынаў, што зьвярнуліся на інфалінію, найбольш папулярнымі зьяўляюцца г.зв. разьвітыя краіны. Напрыклад, Нямеччына (каля 20%), Кіпр і ЗША (прыблізна па 9 адсоткаў), Італія (крыху болей за 7 адсоткаў), Францыя (больш за 5%), Ірляндыя (5%). Зразумела, геаграфія выезду не абмяжоўваецца — усяго запыталіся пра 46 краінаў. Сярод іх ёсьць даволі далёкія і экзатычныя: Емэн, Буркіна-Фасо, Малі, Бахрэйн, Пэру, Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка.

**— Хто перш за ўсё імкнецца за мяжу?**

— У патэнцыйную групу рызыкі ўваходзяць жанчыны ад 21 да 30 год, якія ў большасьці выпадкаў мараць стварыць за мяжой сям’ю, а таксама жанчыны 31-40 гадоў. Яны ў большай ступені жадаюць выехаць на працу, каб матэрыяльна забясьпечыць сваіх дзяцей.

**— Якія парады вы даяце сваім кліентам, гатовым ехаць за мяжу, у першую чаргу?**

— Праца павінна быць легальнай. Гэта аснова. Адсюль і трэба зыходзіць, калі падпісваеце кантракт. Беларуская фірма-пасярэднік мусіць быць зарэгістраваная і мець дзяржаўную ліцэнзію. Працоўная дамова павінна складацца на мове, зразумелай для жанчыны. Перад выездам трэба праверыць, ці сапраўды існуе замежная фірма-наймальнік. Неабходна, каб на руках была працоўная віза. Толькі яна дазваляе законна зарабляць у чужой краіне.

Для выезду замуж жанчына павінна сабраць як мага больш інфармацыі пра свайго абраньніка: ведаць яго дакладны адрас, тэлефон, ці мае ён працу, ці быў жанаты і колькі разоў, ці скасаваны апошні шлюб афіцыйна. Трэба не забыць пакінуць яго каардынаты сваякам.

Неабходна даведацца пра шлюбнае заканадаўства краіны жаніха, аб правах жонкі і агульных дзяцей, аб правілах разводу.

Нават калі жанчына едзе на вялікі тэрмін, на ўсялякі выпадак трэба набыць квіткі туды і назад. Нельга нікому давяраць пашпарт. У ім павінна стаяць віза нявесты.

Адпраўляючыся за мяжу на працу ці замуж, трэба зрабіць ксэракопіі важных дакумэнтаў і захоўваць іх асобна ад арыгіналаў.

Варта таксама ведаць адрас і тэлефоны бліжэйшай беларускай амбасады ці консульства.

**— Відаць, гэтым не абмяжоўваюцца ўсе парады?**

— Так. Дэталёвую інфармацыю можна атрымаць, зьвярнуўшыся на інфалінію “Ля Страда”. Яе нумар — (017) 245-31-67. Інфалінія працуе штодня зь 10 да 19 гадзінаў.

**— Дзякуй за гутарку!**

**Размаўляў Юры Сьцяпанаў**

# to be or not to be

## У Гомелі разгараюцца шэксьпіраўскія жарсьці

Юлія Сівец

Моладзевы цэнтар "Гарт" адмовіўся браць удзел у першым Рэгіянальным фэсьце моладзевых і дзіцячых грамадзкіх аб'яднаньняў, зладжаным у Гомелі ў рамках "радаўскага" праекту "Стратэгія разьвіцьця моладзевых арганізацыяў у Беларусі". Прычынай байкоту стала ўступленьне Беларускага рэспубліканскага саюзу моладзі — фаварыта Адміністрацыі Лукашэнкі — у "Раду". Як паведаміла намесьніца старшыні "Гарту" Юнэля Сальнікава, "мы ня можам браць удзел у мерапрыемстве, дзе прысутнічае БРСМ. Формы і мэтады іх дзейнасьці супярэчаць самой сутнасьці НДА".

Мэтай лютаўскага Рэгіянальнага фэсту моладзевых НДА "Погляд у будучыню" было паказаць значнасьць і эфэктыўнасьць дзейнасьці моладзевых і дзіцячых НДА, прадэманстраваць іх магчымасьці па вырашэньні праблемаў дзяцей і моладзі. Арганізатарам мерапрыемства на рэгіянальным узроўні выступіла Гомельскае абласное грамадзкае аб'яднаньне "АСДЕМО" — партнэр "Рады" па рэалізацыі праекту "Стратэгія разьвіцьця моладзевых арганізацыяў у Беларусі".

Падчас фэсту, дзе прысутнічала каля 30 зарэгістраваных і незарэгістраваных арганізацыяў, адбывалася выстава НДА, праходзілі прэзэнтацыі арганізацыяў, розных моладзевых субкультураў, майстар-клясы, а таксама ладзіўся круглы стол з удзелам мясцовых уладаў.

Зразумела, што поруч зь іншымі ўдзельнікамі прэзэнтавалі сваю дзейнасьць і тыя, на каго ўлады ўсклалі ганаровую місію быць правадыром усёй беларускай моладзі. Праўда, моладзевы авангард, па словах старшыні "АСДЕМО" Ўладзімера Коўзелева, ледзь не апынуўся ў ар'ергардзе, бо выказаў жаданьне ўдзельнічаць у апошні момант. Пазыцыю арганізатараў той жа сп. Коўзелеў акрэсьліў досыць зразумела: "Няхай прысутнічаюць, спрабуюць праяўляць сябе. Іншыя ўбачаць і змогуць параўнаць, хто лепшы".

Варта адзначыць, што сяброўства БРСМ у "Радзе" стала перашкодай для знаходжаньня на фэсьце толькі для "Гарту" — многія ўдзельнікі выказалі меркаваньне, што ігнараваньнем "гартаўцы" нічога не даб'юцца.

Але і "Гарт" рэальна ацэньвае вынікі байкоту.

"Мы ведаем, што выключэньне БРСМ з "Рады" ад нас не залежыць, бо мы ня сябры гэтага саюзу. Але час расставіць усё на свае месцы. Нават адзін голас нешта дае", — кажа "гартаўка" Яўгенія Кірышчанка.

"Гарт" пакуль байкатуе "радаўскія" мерапрыемствы "сола", але прыняцьце БРСМ у якасьці сябра ў склад Беларускага саюзу моладзевых і дзіцячых грамадзкіх аб'яднаньняў не разумеюць многія. Галоўны рэдактар незарэгістраванай студэнцкай газэты "Крэатыў" Наталя Старчанка нэгатыўна ставіцца да гэтай падзеі: "Супрацоўніцтва з БРСМ — ганьба для кожнага беларуса і ўвогуле нармальнага чалавека. Мне падабаецца, што "гартаўцы" байкатавалі фэст. На іх месцы я зрабіла б тое ж самае".

Дарэчы, на Рэспубліканскім фэсьце "Гарт" удзельнічаў — на той час БРСМ не ўваходзіў у "Раду".



# гей-парад у гомелі

## ружовая мара

Юлія Сівец

**У Гомелі няма мясцовай грамадзкай арганізацыі па абароне сэксуальных меншасьцяў, і ствараць яе ніхто не зьбіраецца. Гэта высьветлілася падчас сустрэчы “Ружовы трохкутнік”, арганізаванай мясцовай групай “Міжнародная амністыя” для гомельскіх геяў і лесьбіянак у Дзень закаханых.**

14 лютага, вядомы сярод гетэрасэксуалаў як Дзень сьв. Валянтына, для геяў і лесьбіянак, а таксама для праваабаронцаў ва ўсім сьвеце стаў Днём барацьбы за ахову правоў сэксуальных меншасьцяў. Ружовы трохкутнік, які нацысты нашывалі гомасэксуалістам у канцэнтрацыйных лягерах, у сямідзясятыя гады мінулага стагодзьдзя стаў сымбалем супраціву ўціску геяў. Для беларускіх гомасэксуалістаў парушэньне іх правоў — справа ня новая, таму мэтай гомельскай сустрэчы, па словах каардынатара “Міжнароднай амністыі” Вячаслава Бортніка, было прыцягнуць увагу як мага большай колькасьці людзей да пытаньня парушэньня правоў сэксуальных меншасьцяў.

Уражаньні ад прагляду відэафільму пра парушэньне гома-правоў у іншых краінах наўрад ці можна параўнаць з эмацыйным узрушэньнем ад апатэозу сустрэчы — вясельля двух мужчынаў. Цырымонія была сымбалічнай, бо ў Беларусі геям і лесьбіянкам ня тое што заканадаўча аформіць аднаполы шлюб, але адстаяць звычайныя грамадзянскія правы амаль немагчыма. “У геяў няма тых правоў, што ёсьць у “нармальных” людзей,” — кажа Вячаслаў Бортнік. Нягледзячы на тое, што ў 1994 годзе ў Беларусі адмянілі крымінальнае пакараньне за гомасэксуалізм, грамадзтва рэагуе на яго адназначна: прызнаньне ў сваіх аднаполых схільнасьцях гарантавана паўплывае на адносіны з натураламі. Як мінімум крыж на кар’еры можна будзе паставіць.

Зрэшты, ствараць мясцовую праваабарончую арганізацыю гомасэксуалісты Гомеля не зьбіраюцца і пакуль цалкам задаволеныя наяўнасьцю агульнанацыянальных незарэгістраваных ініцыятываў “Сустрэча”, Беларускай лігі свабоды сэксуальных меншасьцяў “Лямбда” і інш. “Лямбда” — самая буйная і актыўная — была заснаваная ў 1998 годзе з мэтай садзейнічаньня ў пераадоленьні стэрэатыпаў у грамадзтве адносна геяў. Асноўных вэрсіяў, чаму гэтая ініцыятыва дагэтуль незарэгістраваная, дзьве. Адны лічаць, што “Лямбдзе” папросту не хапала сябраў для легалізацыі, іншыя тлумачаць усё прынцыповасьцю старшыні Лігі Эдзіка Тарлецкага, маўляў, “навошта прытрымлівацца заканадаўчых тонкасьцяў, калі арганізацыя і так існуе”.

Гамяльчук Сьвятаслаў Семянцоў паабяцаў да канца лета стварыць у Гомелі філію “Лямбды”. “Мы будзем займацца арганізацыяй вольнага часу геяў і лесьбіянак, а таксама аховай правоў на мясцовым узроўні”, — паведаміў сп. Семянцоў. Менавіта культурны адпачынак гомасэксуалістаў Гомеля застаецца адной з самых актуальных праблемаў. Зьбіраюцца ўсе нефармальна, стварыць жа гееўскі клюб — гэта ружовая мара. Так і жывуць: употайкі — у рэальнасьці, і больш-менш адкрыта — у інтэрнэце на сайце “Гей-Гомель”.

Больш актыўныя ў Гомелі прыхільнікі Лігі. Што да “Сустрэчы” і іншых чатырох арганізацыяў беларускіх гомасэксуалістаў — яны тут амаль адсутнічаюць. У мінулым годзе ў Лігі была ідэя аб’яднаць усе арганізацыі і стварыць сетку, якая б дазволіла згуртаваць гей-супольнасьць Беларусі. Але ідэя так і засталася ідэяй. Адно што праваахоўныя органы ня сьпяць у шапку і самастойна арганізуюць гомельскіх гомасэксуалістаў, каб стварыць адмысловую базу зьвестак. На думку Вячаслава Бортніка, менавіта з гэтай мэтай колькі часу таму мясцовыя “вартаўнікі парадку” затрымалі групу геяў.

Пра буйнамаштабныя парушэньні правоў ніхто ня кажа — вядома ж, Гомель не Бэрлін, дзе мэр адкрыта заяўляе пра свае сэксуальныя схільнасьці, але і Беларусь не Ірак, дзе дзяржава пагражае татальным вынішчэньнем гей-супольнасьці.

# любоў да нда — гэта ўзроставае

**Увосень 2002 году Міжнародны рэспубліканскі інстытут (International Republican Institute, USA) ладзіў у Беларусі маштабнае сацыялягічнае апытаньне, вынікі якога былі прэзэнтаваныя напачатку 2003 году. Паміж бясконцых радкоў справаздачы па дасьледаваньні, што збольшага датычылася высьвятленьня стаўленьня беларусаў да сацыяльна-палітычных працэсаў у краіне, вока НДА-актывіста літаральна рэжа адзін. Ён тычыцца вынікаў замеру сярод рэспандэнтаў рэакцыі на абрэвіятуру "НДА", а таксама стаўленьня да шэрагу грамадзкіх арганізацыяў Беларусі.**

## Называйцеся прасьцей, і да вас пацягнуцца людзі

Жэня Місілевіч,
**сацыёляг Экспэртнай групы пры Выканаўчым бюро Асамблеі НДА**

### ХТО І ЯК

Дасьледаваньне IRI уяўляе сабой 7 апытаньняў — адпаведна колькасьці абласьцей і сталіцы. У кожным рэгіёне было апытана як мінімум 400 чалавек. У некаторых абласьцях было праведзена дадатковае апытаньне з мэтай стварэньня збалянсаванага прадстаўленьня краіны. Статыстычныя рамкі памылкі складаюць у кожнай вобласьці 3,5%, а цалкам па краіне — 2,5%, і гэта трэба ўлічваць пры знаёмстве з вынікамі. Апытаньне праводзілася мэтадам інтэрвію. Кожнаму рэспандэнту прапаноўвалася самому абраць мову апытаньня.

### РЭАКЦЫЯ НАСЕЛЬНІЦТВА НА АБРЭВІЯТУРУ "НДА"

Перад тым як прадставіць лічбы, зьвернемся да тэхналёгіяў.

Пытаньне ставілася наступным чынам: інтэрвіюэр казаў: "Зараз я зачытаю сьпіс словаў, а Вы будзеце казаць, якую першую рэакцыю яны ў Вас выклікаюць — станоўчую, хутчэй станоўчую, хутчэй адмоўную, адмоўную", — і пачынаў пералічваць. "Кааліцыя, апазыцыя, дэмакратыя, рынкавая эканоміка, рэформы, крызыс, НДА, прыватызацыя"... і яшчэ дзесяць розных словаў. Пасьля кожнага слова чакалася і фіксавалася рэакцыя рэспандэнта.

На жаль, невядома, ці меў інтэрвіюэр інструкцыю тлумачыць сэнс абрэвіятуры "НДА", таму цяжка ацэньваць, адносіцца зафіксаваная рэакцыя рэспандэнтаў да зьявы ці толькі да слова, да словаў "недзяржаўныя арганізацыі" ці да слова "НДА".

| | | | Пол | | Узрост | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Муж | Жан | 18-30 | 31-49 | 50-65 | 66+ |
| Q37.7 Ваша рэакцыя, калі Вы чуеце слова "НДА"? | Няма адказу | Колькасьць | 80 | 125 | 41 | 78 | 44 | 42 |
| | | % | **6,10%** | **8,10%** | **5,40%** | **7,50%** | **7,00%** | **9,80%** |
| | Вельмі станоўчая | Колькасьць | 71 | 67 | 50 | 44 | 30 | 14 |
| | | % | **5,40%** | **4,30%** | **6,40%** | **4,30%** | **4,80%** | **3,30%** |
| | Станоўчая | Колькасьць | 505 | 549 | 304 | 397 | 221 | 131 |
| | | % | **38,20%** | **35,50%** | **39,40%** | **38,00%** | **35,60%** | **30,70%** |
| | Адмоўная | Колькасьць | 490 | 583 | 281 | 387 | 238 | 167 |
| | | % | **37,10%** | **37,80%** | **36,40%** | **37,10%** | **38,20%** | **39,00%** |
| | Вельмі адмоўная | Колькасьць | 175 | 221 | 96 | 137 | 90 | 74 |
| | | % | **13,30%** | **14,30%** | **12,40%** | **13,10%** | **14,40%** | **17,30%** |
| Разам | Колькасьць | | 1322 | 1544 | 773 | 1043 | 622 | 428 |
| | % | | **46,12%** | **53,87%** | **27,00%** | **36,40%** | **21,70%** | **14,90%** |

Аналізуючы гэтыя дадзеныя, трэба адзначыць: тых, хто рэагуе на абрэвіятуру "НДА" больш-менш адмоўна, на 10% болей, чым тых, хто рэагуе больш-менш станоўча. Тэндэнцыя тым больш яскравая, што адсоткі набіраюцца зь ліку тых, хто ставіцца *вельмі* адмоўна — гэта сьведчыць аб перакананасьці і ўпэўненасьці ў сваіх поглядах. Лічба даволі значная: "прыватызацыя", для параўнаньня, набрала па гэтай пазыцыі 9,4%, "кааліцыя" — 10,7% . Затое "апазыцыя" — 17,6%, "нацыяналіст" — 33,2%, "крызыс" — 63% — калі гэта сапраўды можна разглядаць у якасьці "суцяшэньня".

| | | | АДУКАЦЫЯ | | | | | Праца | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Пачат-ковая | Няскон-чаная сярэдн. | Сярэдн. | Сярэдн. тэхніч. | Вышэйш | Беспра-цоўныя | Прыв. сэктар | Дзярж. сэктар |
| Q37.7 Ваша рэакцыя, калі Вы чуеце слова “НДА”? | Няма адказу | Коль-касьць | 28 | 27 | 44 | 57 | 51 | 86 | 19 | 91 |
| | | % | **14,00%** | **5,90%** | **4,40%** | **7,40%** | **11,10%** | **7,90%** | **5,80%** | **6,40%** |
| | Вельмі станоў-чая | Коль-касьць | 4 | 14 | 52 | 38 | 30 | 53 | 21 | 62 |
| | | % | **2,00%** | **3,00%** | **5,30%** | **4,90%** | **6,60%** | **4,90%** | **6,60%** | **4,40%** |
| | Станоў-чая | Коль-касьць | 66 | 153 | 378 | 282 | 175 | 393 | 131 | 527 |
| | | % | **33,60%** | **33,30%** | **38,10%** | **37,00%** | **38,20%** | **36,00%** | **40,40%** | **37,00%** |
| | Адмоў-ная | Коль-касьць | 68 | 190 | 383 | 280 | 151 | 402 | 115 | 548 |
| | | % | **34,70%** | **41,50%** | **38,70%** | **36,70%** | **33,10%** | **36,80%** | **35,40%** | **38,40%** |
| | Вельмі адмоў-ная | Коль-касьць | 31 | 75 | 134 | 106 | 50 | 157 | 38 | 197 |
| | | % | **15,70%** | **16,30%** | **13,50%** | **13,90%** | **11,00%** | **14,40%** | **11,80%** | **13,80%** |
| Разам | Колькасьць | | 197 | 458 | 991 | 763 | 458 | 1091 | 323 | 1426 |
| | % | | **6,90%** | **16,00%** | **34,60%** | **26,60%** | **16,00%** | **38,10%** | **11,30%** | **49,80%** |

Па прыведзеных тут табліцах можна адсачыць, як зьмяняюцца адсоткі ў залежнасьці ад полу, узросту і іншых паказьнікаў. Узьдзеяньне згаданых чыньнікаў досыць парадаксальнае: з ростам адукацыі, прыбыткаў, сацыяльнага статусу крыху расьце і сымпатыя да НДА. З узростам яна падае.

Жанчыны настроеныя крыху менш прыхільна за мужчынаў. Але тэндэнцыі нельга назваць яркімі: усе ваганьні адбываюцца ў межах максымум 5 (часьцей 2-3) %. Ва **ўсіх** выдзеленых групах захоўваецца ядро “заўзятых ворагаў НДА”, іх колькасьць не апускаецца ніжэй за 11%.

Усё ўказвае на тое, што не было знойдзена таго ўнікальнага чыньніку, які вырашальна ўзьдзейнічае на стаўленьне. Досьвед паказвае, што ўсе групы, дзе ў дадзеным выпадку бачны рост антыпатыі да НДА, звычайна адрозьніваюцца большай кансэрватыўнасьцю і традыцыяналізмам, коснасьцю поглядаў і імкненьнем прытрымлівацца таго, што падаецца ім “пазыцыяй большасьці”.

| | | | ВОБЛАСЬЦЬ | | | | | | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Менск | Менская вобл. | Берасьце і вобл. | Горадня і вобл. | Віцебск і вобл. | Магілёў і вобл. | Гомель і вобл. | |
| Q37.7 Ваша рэакцыя, калі Вы чуеце слова “НДА”? | Няма адказу | Колькасьць | 19 | 66 | 13 | 34 | 6 | 44 | 23 | 205 |
| | | % | **4,8%** | **16,6%** | **3,0%** | **8,2%** | **1,5%** | **11,0%** | **5,6%** | 7,2% |
| | Вельмі станоўчая | Колькасьць | 28 | 26 | 24 | 14 | 21 | 8 | 17 | 138 |
| | | % | **7,0%** | **6,5%** | **5,4%** | **3,4%** | **5,2%** | **2,0%** | **4,1%** | 4,8% |
| | Станоўчая | Колькасьць | 130 | 99 | 293 | 147 | 121 | 147 | 116 | 1054 |
| | | % | **32,5%** | **24,7%** | **66,9%** | **35,7%** | **30,2%** | **36,6%** | **28,1%** | 36,8% |
| | Адмоўная | Колькасьць | 169 | 142 | 89 | 165 | 199 | 135 | 174 | 1073 |
| | | % | **42,3%** | **35,6%** | **20,3%** | **40,0%** | **49,6%** | **33,7%** | **42,1%** | 37,4% |
| | Вельмі адмоўная | Колькасьць | 54 | 66 | 20 | 52 | 54 | 67 | 83 | 396 |
| | | % | **13,5%** | **16,6%** | **4,5%** | **12,7%** | **13,4%** | **16,8%** | **20,0%** | 13,8% |
| Разам | Колькасьць | | 400 | 399 | 439 | 413 | 401 | 401 | 414 | 2866 |
| | % у радку | | **14,0%** | **13,9%** | **15,3%** | **14,4%** | **14,0%** | **14,0%** | **14,4%** | 100,0% |
| | % | | 100,0% | 100,0% | 100,0% | 100,0% | 100,0% | 100,0% | 100,0% | 100,0% |

Прыкладна тая ж карціна назіраецца пры групаваньні па абласьцях. Але тут ёсьць нечаканасьць: у Берасьцейскай вобласьці і ў Берасьці назіраецца вялікая колькасьць тых, хто ставіцца да НДА “станоўча” — 66% на фоне 24-36% у астатніх рэгіёнах.

### СТАЎЛЕНЬНЕ НАСЕЛЬНІЦТВА ДА ШЭРАГУ НДА

Апытаньне ладзілася па падобнай схеме: інтэрвіюэр пералічваў назвы грамадзкіх арганізацыяў і прапаноўваў рэспандэнту выказаць сваё стаўленьне да кожнай зь іх: “станоўчае”, “хутчэй станоўчае”, “хутчэй адмоўнае”, “адмоўнае”.

Пры знаёмстве з вынікамі трэба памятаць пра адну недасканаласьць пры зборы гэтых дадзеных: на жаль, у пытаньні адсутнічала графа "ня ведаю такой арганізацыі". Таму тыя, каму было цяжка адказаць на пытаньне, маглі мець на ўвазе і "ня ведаю такой арганізацыі", і "ведаю такую, але ніяк не магу вырашыць, як жа да яе паставіцца", і "не мая справа судзіць, чым там людзі займаюцца", і "лянота мне думаць пра гэтую арганізацыю", і шмат чаго яшчэ.

Але ўсё ж такі малы адсотак у графе "не далі адказу" відавочна сьведчыць пра тое, што арганізацыі ўдалося прыцягнуць да сябе ўвагу шырокага кола людзей і стварыць імідж, які выклікае ўстойлівыя яркія асацыяцыі (людзі маюць свае ўражаньні наконт арганізацыі і гатовыя іх выказваць). Пра тое ж сьведчыць вялікая розьніца паміж колькасьцю тых, хто ставіцца станоўча і адмоўна (у другой табліцы), і вялікая колькасьць тых, хто паставіўся найбольш адмоўна ці найбольш станоўча з усіх магчымых. Няма розьніцы, адбылося гэта дзякуючы дзейнасьці НДА ці толькі яе назве. У любым выпадку мы ня можам ведаць, мае чалавек нейкае стаўленьне да пэўнай арганізацыі ці яму толькі так падаецца. Напрыклад, калі НДА мае тыповую назву, ці назву, падобную да нейкай раскручанай арганізацыі.

Дарэчы, тое, што рэйтынг арганізацыі, атрыманы ў гэтым апытаньні, ня надта залежыць ад яе дзейнасьці, пацьвярджаецца малымі і нелягічнымі ваганьнямі лічбаў пры групоўцы па абласьцях (арганізацыя, што працуе ў Віцебскай вобласьці, мае такія ж паказьнікі і ў Гарадзенскай).

У першай табліцы арганізацыі ранжыраваныя па слупку "не далі адказу" — чым меншая гэтая лічба, тым вышэй пастаўленая арганізацыя.

| Назва арганізацыі | Стаўленьне да гэтай арганізацыі | | | | Не далі адказу % |
|---|---|---|---|---|---|
| | Станоўчае % | Хутчэй станоўчае | Хутчэй адмоўнае% | Адмоўнае % | |
| Фонд "Дзеöям Чарнобыля" | 38,43 | 23,07 | 2,30 | 3,42 | 30,09 |
| Цэнтар па правах чалавека | 13,23 | 21,68 | 2,90 | 4,01 | 55,11 |
| БАПЖ - Беларуская арганізаöыя праöоўных жанчынаў | 8,96 | 18,49 | 4,46 | 4,71 | 60,27 |
| Таварыства беларускай мовы | 7,95 | 15,84 | 6,00 | 5,76 | 60,87 |
| Аб'яднаньне маладых навукоўöаў "ВІТ" | 7,50 | 16,81 | 4,22 | 4,57 | 63,38 |
| "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў" | 6,18 | 16,50 | 4,88 | 4,61 | 64,20 |
| Фонд імя Льва Сапегі (агульнанаöыянальны) | 6,49 | 12,04 | 5,16 | 5,51 | 67,06 |
| "Прававая ініöыятыва" | 4,95 | 13,96 | 4,95 | 4,92 | 67,17 |
| Праваабарончы öэнтар "Вясна" | 5,55 | 12,67 | 4,99 | 4,99 | 67,97 |
| "Грамадзянскія ініöыятывы" | 3,77 | 11,84 | 5,38 | 5,34 | 69,83 |
| Фонд імя Льва Сапегі (рэгіянальны) | 4,64 | 10,61 | 5,34 | 5,17 | 70,12 |
| Цэнтар рэгіянальнага супраöоўніцтва | 3,28 | 11,34 | 5,03 | 4,92 | 71,27 |
| "Воля да разьвіöьця" | 4,08 | 10,05 | 5,58 | 4,68 | 71,60 |
| "Ратуша" | 3,04 | 9,32 | 5,90 | 5,06 | 72,47 |
| "Усяслаў Чарадзей" | 3,46 | 9,35 | 5,13 | 5,45 | 72,64 |
| Фонд "Наша Вежа" | 3,35 | 7,96 | 5,93 | 5,13 | 73,45 |
| "Нэкст Стоп - Нью Лайф" | 3,39 | 6,98 | 5,97 | 5,69 | 73,58 |
| "Ветразь" | 2,93 | 8,13 | 5,86 | 4,95 | 73,83 |
| Цэнтар "Рэгіён" | 2,51 | 8,30 | 5,62 | 5,30 | 73,97 |
| "Новая зямля" | 2,58 | 7,82 | 5,41 | 5,09 | 74,11 |
| "Верас" | 2,69 | 8,16 | 4,85 | 5,51 | 74,84 |
| "Дзедзіч" | 2,55 | 7,12 | 5,62 | 5,51 | 74,88 |
| "Новая Касталія" | 2,62 | 6,00 | 5,41 | 5,55 | 75,26 |
| Цэнтар "Контур" | 2,16 | 6,04 | 6,21 | 5,58 | 75,92 |
| Цэнтар "Трэöі сэктар" | 1,92 | 5,93 | 6,39 | 5,48 | 76,10 |
| "ГАРТ" | 2,02 | 6,28 | 6,00 | 5,13 | 76,20 |
| Цэнтар імя Ф.Кміты | 1,88 | 6,28 | 5,13 | 5,72 | 76,62 |
| "РША" | 1,88 | 5,58 | 5,62 | 5,72 | 76,86 |

У другой табліцы арганізацыі расстаўленыя ў залежнасьці ад колькасьці тых, хто паставіўся да НДА станоўча, — чым лічба большая, тым вышэй арганізацыя ў табліцы.

| Назва арганізацыі | Станоўчы рэйтынг % | Адмоўны рэйтынг% | Пазнавальнасьць % | Абсалютны станоўчы рэйтынг % |
|---|---|---|---|---|
| Фонд “Дзеöям Чарнобыля” | 61,5 | 5,72 | 69,91 | 55,78 |
| Цэнтар па правах чалавека | 34,91 | 6,91 | 44,89 | 28 |
| БАПЖ - Беларуская арганізаöыя праöоўных жанчынаў | 27,45 | 9,17 | 39,73 | 18,28 |
| Аб’яднаньне маладых навукоўöаў “ВІТ” | 24,31 | 8,79 | 36,62 | 15,52 |
| Таварыства беларускай мовы | 23,79 | 11,76 | 39,13 | 12,03 |
| “Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў” | 22,68 | 9,49 | 35,8 | 13,19 |
| “Прававая ініöыятыва” | 18,91 | 9,87 | 32,83 | 9,04 |
| Фонд імя Льва Сапегі (агульнанаöыянальны) | 18,53 | 10,67 | 32,94 | 7,86 |
| Праваабарончы öэнтар “Вясна” | 18,22 | 9,98 | 32,03 | 8,24 |
| “Грамадзянскія ініöыятывы” | 15,61 | 10,72 | 30,17 | 4,89 |
| Фонд імя Льва Сапегі (рэгіянальны) | 15,25 | 10,51 | 29,88 | 4,74 |
| Цэнтар рэгіянальнага супраöоўніцтва | 14,62 | 9,95 | 28,73 | 4,67 |
| “Воля да разьвіöьöя” | 14,13 | 10,26 | 28,4 | 3,87 |
| “Усяслаў Чарадзей” | 12,81 | 10,58 | 27,36 | 2,23 |
| “Ратуша” | 12,36 | 10,96 | 27,53 | 1,4 |
| Фонд “Наша Вежа” | 11,31 | 11,06 | 26,55 | 0,25 |
| “Ветразь” | 11,06 | 10,81 | 26,17 | 0,25 |
| “Верас” | 10,85 | 10,36 | 25,16 | 0,49 |
| Цэнтар “Рэгіён” | 10,81 | 10,92 | 26,03 | -0,11 |
| “Новая зямля” | 10,4 | 10,5 | 25,89 | -0,1 |
| “Нэкст Стоп - Нью Лайф” | 10,37 | 11,66 | 26,42 | -1,29 |
| “Дзедзіч” | 9,67 | 11,13 | 25,12 | -1,46 |
| “Новая Касталія” | 8,62 | 10,96 | 24,74 | -2,34 |
| “ГАРТ” | 8,3 | 11,13 | 23,8 | -2,83 |
| Цэнтар “Контур” | 8,2 | 11,79 | 24,08 | -3,59 |
| Цэнтар імя Ф.Кміты | 8,16 | 10,85 | 23,38 | -2,69 |
| Цэнтар “Трэöі сэктар” | 7,85 | 11,87 | 23,9 | -4,02 |
| “РША” | 7,46 | 11,34 | 23,14 | -3,88 |

Хацелася б зьвярнуць увагу на тое, што арганізацыі, якія лідаруюць па асноўных “станоўчых” пазыцыях (станоўчы рэйтынг, пазнавальнасьць, абсалютны станоўчы рэйтынг) маюць вельмі “гаворачыя” назвы, якія асацыююцца з простымі знаёмымі рэчамі (Чарнобыль, жанчыны, дзеці, маладыя навукоўцы, правы чалавека) і з раскручанымі відамі дзейнасьці (дапамога ахвярам Чарнобыля, жаночы рух, нацыянальнае адраджэньне, самаарганізацыя моладзі, ахова правоў чалавека, ахова здароўя дзяцей). Дарэчы, усе гэтыя віды дзейнасьці вядомыя яшчэ з часоў СССР.

ВБ валодае інфармацыяй па рэйтынгах ужо згаданых арганізацыяў у розных групах. Але зьмясьціць яе тут, як было зроблена ў выпадку з дадзенымі па рэакцыі на слова “НДА”, мы ня маем магчымасьці (занадта ж вялікія табліцы!). Таму запрашаем усіх ахвотных зьвяртацца да нас па гэтыя дадзеныя — дашлем іх вам па электроннай пошце ці поштай звычайнай.




зробім лепш-03

# стартуем — 7 красавіка

*так вырашылі НДА падчас круглага стала*

Алёна Андрэева

**Улетку 2002 году ўпершыню ў гісторыі Беларусі прайшла шырокамаштабная агульнанацыянальная кампанія "Зробім лепш!", зладжаная 70 грамадзкімі арганізацыямі і ініцыятывамі ў больш як 20 гарадах краіны. Кампанія атрымала беспрэцэдэнтны розгалас у прэсе і грамадзтве. Актывісты НДА і простыя грамадзяне, што далучыліся да кампаніі "Зробім лепш!" летась, прагнулі лягічнага працягу кампаніі. "Працяг кампаніі будзе!" — так вырашылі прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў на круглым стале "Грамадзянскія кампаніі як эфэктыўная форма працы з насельніцтвам", які адбыўся 15 лютага ў Менску. Менавіта на ім прадстаўнікі больш як 40 арганізацыяў з усіх рэгіёнаў краіны вызначылі дату правядзеньня наступнай кампаніі "Зробім лепш!". Яна будзе прымеркаваная да Сусьветнага дня здароўя — 7 красавіка.**

Чатырохгадзінны круглы стол пачаўся з абмеркаваньня надзённых НДА-пытаньняў, прытым часта ня вельмі прыемных для прысутных. Але жанр мерапрыемства таго патрабаваў — пэрспэктыўным удзельнікам кампаніі як мінімум трэба было вызначыцца і зразумець, на якім сьвеце яны знаходзяцца.

Напачатку сустрэчы намесьніца старшыні Беларускай арганізацыі працоўных жанчынаў Ірына Жыхар падзялілася ўласным поглядам на сытуацыю ў беларускім "трэцім сэктары". Вялікую ўвагу спадарыня Жыхар надала неабходнасьці распрацоўкі місіі і бачаньня кожнай асобнай арганізацыі. На яе погляд, гэта вельмі важна ведаць і ўлічваць на этапе прыняцьця рашэньня пра ўдзел у кампаніях. На думку спн. Ірыны, дэмакратычныя няўрадавыя арганізацыі Беларусі знаходзяцца ў зародкавым стане і як фэномэн да гэтага часу не адбыліся. Іх характарызуе пасіўнасьць, аморфнасьць, нявызначанасьць ва ўласных мэтах і і місіі, слабасьць і бездапаможнасьць у адносінах да "першага сэктару". Як можна казаць пра магчымае супрацоўніцтва з уладамі, калі мы ад пачатку знаходзімся ў няроўных умовах і часьцей за ўсё выконваем ролю статыста ў добра ці кепска, але сплянаванай п'есе? Пытаньне сапраўды не такое простае, што пацьвердзіла і дыскусія пасьля выступу спадарыні.

### НАВОШТА ПАТРЭБНЫЯ КАМПАНІІ?

Алёна Валынец, старшыня Выканаўчага бюро РГ Асамблеі НДА, прысьвяціла выступ менавітай гэтай тэме — які імідж мы маем у вачах звычайных грамадзянаў?

"Гэтую праблему мы часта не заўважаем знутры грамадзкага руху, людзі ж яе таксама ня бачаць, зрэшты, як ня бачаць самога грамадзкага руху. Тым ня менш, ігнараваць праблему мы ня можам, — заўважыла Валынец. — Праблема выяўляецца ў тым, што людзі лічаць грамадзкія арганізацыі нейкай часткай палітычных партыяў і рэдка зьвяртаюцца ў НДА, каб вырашыць пэўныя праблемы, часта падазраюць НДА ў грашовай зацікаўленасьці. Гэта значыць, **блытаюць** НДА як з палітычнымі, так і з камэрцыйнымі структурамі."

Сапраўды, вынікі апытаньня, якое было праведзенае ў часе моладзевай кампаніі "Зробім лепш!" улетку мінулага году ў шэрагу гарадоў, яскрава дэманструюць: **людзі папросту не разглядаюць НДА як самастойныя структуры і ніякім чынам ня зьвязваюць з сабой. Але дзе разгадка?**

На думку спн. Валынец, **карані** праблемы палягаюць у тым, што большасьць арганізацыяў працуе **замкнёна**. Так адбываецца па многіх прычынах: арганізацыі паддаюцца страху быць рэпрэсаванымі , што выклікае боязь **выходзіць да людзей, пашыраць сваю мэтавую групу.** Арганізацыі чакаюць, але ня робяць зьменаў.

Нізкі ўзровень арганізацыйнага разьвіцьця, які відавочны для ўсё большай колькасьці людзей, адыгрывае важную ролю: НДА бачаць толькі бліжэйшыя мэты сваёй дзейнасьці, цьмяна ўяўляюць сваю мэтавую групу. І адна з самых важкіх прычынаў — адсутнасьць **веры ў свае сілы і магчымасьці.**

Тым ня менш, ніхто не аспрэчвае ісьціну: грамадзкі сэктар — той інстытут, які здольны распаўсюджваць дэмакратычныя традыцыі і веды. Ажыўленьне ж дзейнасьці дэмакратычна арыентаваных НДА, іх **выхад "да людзей"**, павышэньне іх уплыву і аўтарытэту ёсьць незаменнай часткай працэсу дэмакратызацыі Беларусі.

Як паказвае досьвед кампаніі "Зробім лепш!", якая адбылася мінулым летам, грамадзянскія кампаніі **спрыяюць усталяваньню кантактаў з грамадзтвам** праз дапамогу ў вырашэньні лякальных сацыяльных, экалягічных і інш. праблемаў і служаць добрым **інструмэнтам для стварэньня пазытыўнага іміджу НДА.**

"Цяпер, калі падведзеныя вынікі пачатку

кампаніі "Зробім лепш!", можна сказаць — рух насустрач людзям дае плён. Праз нацыянальныя акцыі такога кшталту сапраўды ўдаецца дасягнуць мэтаў, якія ставяць перад сабой грамадзкія аб'яднаньні. Для многіх арганізацыяў сам факт наладжваньня непасрэдных сувязяў з грамадзкасьцю зрабіўся важным адкрыцьцём", — адзначыла старшыня Выканаўчага бюро.

Што да аднаго з асноўных чыньнікаў любой дзейнасьці — матывацыі, — то ў выпадку з кампаніяй "Зробім лепш!", якая адной з галоўных мэтаў разглядае акумуляваньне і вырашэньне набалелых праблемаў насельніцтва, яна відавочная — у выніку дзейнасьці вырашаюцца праблемы, істотныя і для саміх НДА, і для грамадзтва.

"Грамадзянскія кампаніі, нягледзячы на тое, што яны ня ёсьць сталай дзейнасьцю НДА, апраўдваюць сябе як форма працы з насельніцтвам", — падсумавала спадарыня Валынец.

### ЧЫМ ЁСЬЦЬ ГРАМАДЗЯНСКІЯ КАМПАНІІ?

"Асноўны посьпех кампаніі ў тым, што яна называецца "Зробім лепш!", — з такіх словаў пачаў свой выступ старшыня Экспэртнай групы Выканаўчага бюро РГ Асамблеі НДА Вацлаў Арэшка. — Улетку мы паспрабавалі вырашыць тыя праблемы, якія падаюцца ўладам другаснымі, але для звычайных грамадзянаў яны важныя і актуальныя. Нашая спроба "зрабіць лепш" двары, пад'езды, пляжы, дзіцячыя пляцоўкі павысіла ўзровень вядомасьці грамадзкіх арганізацыяў і паказала простым людзям, што місія НДА — праца дзеля і на карысьць грамадзтва".

Спадар Арэшка адзначыў, што кампанія — гэта сыстэма мерапрыемстваў, якія ажыцьцяўляюцца дзеля выкананьня пэўнай грамадзка-палітычнай задачы. Найярчэйшыя прыклады — передвыбарчая непалітычная мабілізацыйная кампанія "Выбірай!" і кампанія назіраньня "Незалежнае назіраньне". Гэта, напэўна, першыя спробы аб'яднаньня розных беларускіх арганізацыяў дзеля дасягненьня адной мэты. І гэта атрымалася, таму мы можам упэўнена казаць, што кампанія ёсьць даволі эфэктыўным сродкам дасягненьня пэўнай мэты. Але што можна называць "грамадзянскай кампаніяй", якія яе прыкметы? Сп. Арэшка вылучыў наступныя:

— грамадзка значная мэта;
— вызначаная мэтавая група;
— комплекснасьць (маецца на ўвазе шэраг мерапрыемстваў з мноствам удзельнікаў);
— інфармацыйна-рэклямная актыўнасьць;
— актывізацыя дастаткова шырокіх колаў грамадзтва;
— грамадзкі рэзананс вынікаў.

Звычайна пытаньне "Чаму прысьвяціць кампанію?" вырашаецца само, таму што большасьць групаў грамадзянаў нашай краіны мае пэўныя праблемы, праз вырашэньне якіх можна заангажаваць гэтую частку грамадзтва да дзейнасьці ў НДА, дый беларуская рэчаіснасьць сама па сабе вельмі праблематычная. Таму варта толькі задацца пытаньнем "Што ж у нас кепска і ці патрабуе яно зьменаў?", і тэма кампаніі вызначыцца сама сабой.

Праўда, найбольш пэрспэктыўнымі накірункамі наладжваньня кампаніяў у Беларусі, на думку спадара Вацлава, зьяўляюцца два: 1) паводле матывацыі насельніцтва: сацыяльны і экалягічны накірунак, праца па абароне правоў чалавека; 2) паводле матывацыі ўдзельнікаў: прамоцыя дзейнасьці НДА, наладжваньне новых кантактаў.

### ЦІ ЗАКОННА?

Сапраўды, а ці законна правядзеньне грамадзянскіх кампаніяў у Беларусі, якая ў апошнія гады не вылучалася асаблівай лібэральнасьцю ў адносінах да НДА? Юрыст Выканаўчага бюро Юры Чавусаў лічыць, што хутчэй законна.

Тэрмін "грамадзянская кампанія" ("грамадзкая кампанія", "сацыяльная кампанія", "грамадзянская ініцыятыва") невядомы беларускаму заканадаўству. Добра гэта ці блага? На думку спадара Чавусава, у дадзенай сытуацыі значна больш плюсаў. Па-першае, залішняя ўрэгуляванасьць гэтага пытаньня можа толькі шкодзіць такой спантаннай і нефармальнай зьяве, як грамадзянскія кампаніі сацыяльнага кірунку, па-другое, у нашым заканадаўстве і так дастаткова нормаў, якія дазваляюць дзяржаве прававым чынам рэгуляваць тыя дзеяньні, якія ажыцьцяўляюцца пры грамадзянскіх кампаніях.

Добра вядома, што ў Беларусі ўсталяваная даволі жорсткая сыстэма кантролю за дзейнасьцю грамадзкіх аб'яднаньняў. Яна склада-



# дамова падчас кампаніі...

...можа быць заключаная як галосна, так і негалосна. Бакамі дамовы (калі яна не прадугледжвае ажыцьцяўленьне прадпрымальніцкай дзейнасьці) могуць быць і фізычныя асобы, і грамадзкія аб'яднаньні. Такая дамова дазваляе аб'ядноўваць унёскі ў выглядзе фінансавых сродкаў і іншай маёмасьці, валянтэрскай працы (што істотна для грамадзянскага сэктару), а таксама працоўнай рэпутацыі, дзелавых сувязяў і г.д. І прадпрымальнікі, і камэрцыйныя юрыдычныя асобы маюць права браць удзел у некамэрцыйных таварыствах. Але ҐА ня могуць удзельнічаць у простых таварыствах, якія ствараюцца з мэтай атрыманьня прыбытку. Таксама існуе магчымасьць заключэньня дамовы простага таварыства паміж грамадзкім аб'яднаньнем і дзяржаўнай установай ці нават дзяржаўным органам. Але ў той жа час заключэньне дамовы сумеснай дзейнасьці ня ёсьць абавязковай умовай для ажыцьцяўленьня такой дзейнасьці, у тым ліку і ў форме грамадзянскай кампаніі.

ецца з супярэчлівага парадку рэгістрацыі няўрадавых арганізацыяў, практыкі праверак і рэвізіяў, практыкі вынясеньня папярэджаньняў грамадзкім аб'яднаньням і інш.

У гэткіх абставінах паўстае патрэба ў пошуку такіх формаў дзейнасьці, якія б дазвалялі эфэктыўна ажыцьцяўляць грамадзкую дзейнасьць без утварэньня асобнага грамадзкага аб'яднаньня, але ў межах закону. Менавіта адной з такіх формаў дзейнасьці зьяўляецца правядзеньне грамадзянскіх кампаніяў.

Але грамадзянская кампанія, хоць гэта і супольнасьць людзей, аб'яднаная дзеля дасягненьня сваіх мэтаў, ажыцьцяўляецца без утварэньня юрыдычнай асобы, то бок пры гэтым адсутнічае новая асобная арганізацыя. "Зразумела, у грамадзянскай кампаніі адсутнічаюць прыкметы юрыдычнай асобы, замацаваныя ў артыкуле 44 Грамадзянскага кодэксу. У адрозьненьні ад арганізацыяў грамадзянскія ініцыятывы і кампаніі ня маюць інстытуту сяброўства, устойлівай структуры, апарату. Кампаніі можна параўнаць зь нейкай часовай, гнуткай кааліцыяй грамадзкіх аб'яднаньняў, створанай дзеля дасягненьня канкрэтных мэтаў."

Калі сама дзейнасьць у межах кампаніі не выклікае такіх вялікіх пытаньняў, то як паводзіць сябе ў дачыненьнях з прэсай? Тут таксама нібыта нічога звышнатуральнага: для нована ўтварэньня часткова здымаецца праблема распаўсюду інфармацыі ад свайго імя — зьвесткі распаўсюджваюцца пад адным ляга-

даведка

# ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ?

Паводле крытэрыяў ААН, UNICEF, Сусьветнай арганізацыі аховы здароўя, дэмаграфічныя паказьнікі фармуюцца пад уплывам біялягічных, сацыяльных, эканамічных, экалягічных фактараў і сьведчаць пра ступень эфэктыўнасьці дзяржаўнай улады і той палітыкі, якую яна праводзіць.

Нараджальнасьць традыцыйна вызначаецца паводле колькасьці жыванароджаных дзяцей на 1000 насельніцтва. Па афіцыйных дадзеных Міністэрства аховы здароўя РБ, у Беларусі ў 1986 годзе яна складала 17,1, у 1997 годзе - 8,8, у 2000 - 9,4. Дзеля забесьпячэньня натуральнага ўзнаўленьня колькасьці насельніцтва неабходна, каб кожная жанчына дзетароднага ўзросту мела ў сярэднім 2,3 дзіцяці. На жаль, пэрспэктываў зарабіць на аптымальныя ўмовы для выхаваньня хаця б аднаго дзіцяці ў большасьці беларусаў няма.

У той жа час сьмяротнасьць мае выразную тэндэнцыю да росту. Найбольшую актыўнасьць гэты працэс набыў у 1990-ых гадах. На 2000 год паказьнік сьмяротнасьці склаў 13,7 памерлых на 1000 насельніцтва супраць 8-мі ў 50-х гадах. Сярод прычынаў усё больш дамінуюць т.зв. ненатуральныя сьмерці - забойствы, самазабойствы, няшчасныя выпадкі на фоне алькагалізацыі ды інш., асабліва ва ўзросьце ад 20 да 40 гадоў.

Красамоўны факт: з 1994 году амаль у 1,5 разы вырасла сьмяротнасьць дзяцей ва ўзросьце да 1 году ад зьнешніх прычынаў (выпадковыя ўдушэньні, утапленьні, забойствы ды інш.).

Натуральны прырост насельніцтва Беларусі скончыўся яшчэ 10 гадоў таму, з 1993 году нашыя шэрагі радзеюць з хуткасьцю каля 4 чалавек на 1000 штогод. З 1993 па 2001 год мы не далічыліся 282 765 чалавек (прыблізна 2 Маладэчна).

"Здароўе беларусаў не назавеш добрым. За апошнія 10 год колькасьць жанчынаў, цяжарнасьць якіх мела ўскладненьні, вырасла ў 1,4 разы, а нармальныя роды адбываюцца ўдвая радзей, чым 20 гадоў таму, — адзначыў выканаўчы дырэктар АБМ. — Вынік: колькасьць хворых немаўлятаў павялічылася ў 2 разы, кожнае дзіця да 5-ці гадоў хварэе 2-3 разы на год, устойліва расьце колькасьць дзяцей-інвалідаў, а таксама дзяцей з парушэньнямі зроку, паставы і маўленьня".



тыпам, з адзіным лёзунгам, прэс-канфэрэнцыі ладзяцца ад імя кампаніі альбо ад імя зарэгістраванай арганізацыі ў межах кампаніі, але падчас іх падаецца інфармацыя, у тым ліку пра мерапрыемствы, што ладзяцца незарэгістраванымі арганізацыямі.

Цікава, што дзяржорганы адносна спакойна ставіліся да новых ініцыятываў падчас выбараў: за распаўсюд інфармацыі ад імя грамадзянскіх ініцыятываў "Незалежнае назіраньне" і "Выбірай", якія бесьперашкодна выступалі ў друку, СМІ не выносіліся папярэджаньні за публікацыі рэклямы і матэрыялаў непалітычных кампаніяў — ні да выбараў, ні пасьля іх. На простае пытаньне, ці забароненая дзейнасьць грамадзянскай ініцыятывы "Незалежнае назіраньне", чыноўнікі былі вымушаныя даць адмоўны адказ. Хоць на ўдзельнікаў передвыбарчых непалітычных кампаніяў — на валянтэраў і арганізацыі — аказваўся ціск, самі грамадзянскія ініцыятывы як форма дзеяньня засталіся юрыдычна непрыступнымі.

Гэта было выкарыстана і ўдзельнікамі кампаніі "Зробім лепш!".

"Тэарэтычна для правядзеньня шырокай і доўгатэрміновай грамадзянскай кампаніі мэтазгодна заключыць дамову простага таварыства (інакш называецца дамовай аб сумеснай дзейнасьці), пра якую гаворыцца ў **54-м разьдзеле Грамадзянскага кодэксу, —** адзначыў Юры Чавусаў. — Менавіта такая форма дамовы адпавядае той дзейнасьці, якая ажыцьцяўляецца падчас грамадзянскіх кампаніяў. Фактычна, вусная форма такой дамовы заключалася і падчас мінулых кампаніяў".

## ЗДАРОЎЕ – У ФАВОРЫ

Рысу перад абмеркаваньнем даты правядзеньня кампаніі "Зробім лепш!" правёў выканаўчы дырэктар Асацыяцыі беларускіх мэдыкаў, актыўна практыкуючы ўрач Андрэй Вітушка — ён давёў "мэдычны" пункт погляду на тое, чаму вясновая агульнанацыянальная кампанія "Зробім лепш'03" мусіць быць прысьвечаная тэме аховы здароўя і цяперашняму стану сыстэмы аховы здароўя Беларусі.

Асноўная сэнтэнцыя, якую даводзіць існуючы палітычны рэжым, — Беларусь — "рынкава сацыялізаваная". Што пакладзена ў падмурак такой канцэпцыі — сп.Вітушку прасьцей апэляваць да ўласнага досьведу, набытага падчас працы ў сыстэме аховы здароўя.

"Бабуля зь інфарктам мусіць ехаць у шпіталь са сваёй лыжкай, міскай, бялізнай, шпрыцамі, кропельніцамі і лекамі (нагадаем, што грамадзяне РБ паводле артыкула 5 Закону "Аб ахове здароўя" маюць права на "бясплатнае лячэньне ў дзяржаўных арганізацыях аховы здароўя").

Сучасны ўзровень мэдычных ведаў і тэхналёгіяў, што выкарыстоўваюцца ў большасьці разьвітых краінаў, дазваляе рэалізаваць жаданьне кожнай сям'і мець здаровых нашчадкаў. Але мэдыцына ўплывае на здароўе насельніцтва толькі на 10%, астатняе вызначаюць спадчыннасьць (20%), стан навакольнага асяродзьдзя (таксама каля 20%) і лад жыцьця (50%). Як бачна, 70% стану здароўя дэтэрмінуюцца фактарамі, якія патэнцыйна знаходзяцца ў сфэры ўплыву НДА.

"Калі пакінуць апісаныя вышэй тэндэнцыі без увагі, то ў хуткім часе зьнікне той народ, дзеля якога мы змагаемся за дэмакратыю, правы чалавека і рынкавую эканоміку. Парушаецца нашае галоўнае права - права на жыцьцё.

Кампанія "Зробім лепш'03" закліканая дапамагчы мэдыцыне змагацца з паступовым зьнікненьнем нацыі", — завяршыў свой выступ спадар Андрэй Вітушка.

## У ВЫНІКУ

Пасьля непрацяглага абмеркаваньня прысутныя пагадзіліся, што Сусьветны дзень здароўя сапраўды можа стаць добрай нагодай для таго, каб зьвярнуцца да грамадзтва і паспрабаваць вырашыць некаторыя яго праблемы. Падаецца, здароўе — гэта тое, што хвалюе кожнага.

Такім чынам, кампанія "Зробім лепш'03" адбудзецца 7 красавіка.

Калі вы бачыце сябе патэнцыйным удзельнікам, то можаце далучацца, зьвярнуўшыся ў Выканаўчае бюро Асамблеі.

# НІ з "нашымі", НІ з "вашымі"

## БАСР з тымі, каму патрэбная сацыяльная дапамога

Марына Куноўская

**Падзел грамадзкіх арганізацыяў на праўрадавыя і апазыцыйныя, сацыяльныя і палітызаваныя — справа штучная, патрэбная прафэсійным дэмагогам. Прынамсі, праца ГА "Беларуская асацыяцыя сацыяльных работнікаў" сьведчыць менавіта пра гэта. Арганізацыі, чый праект "Стварэньне нацыянальнай сеткі бюро сацыяльнай інфармацыі" заняў першае месца на конкурсе ідэяў на IV Кангрэсе Асамблеі і ўвайшоў у лік дзесяці лепшых праектаў беларускага грамадзкага сэктару паводле апытаньня ГА "Аб'яднаны шлях". Той арганізацыі, што брала ўдзел і ў прэзыдэнцкім "грамадзка-палітычным дыялёгу", і ў грамадзкай ініцыятыве "Дыялёг" супраць сумнавядомага Дэкрэту №8. Той, што двойчы зьбірала і прэзэнтавала грамадзкія аб'яднаньні з усёй краіны на Міжнародных кірмашах сацыяльных праектаў. Той, дзякуючы чыім намаганьням дзяржструктуры ўзялі на сябе адказнасьць за дапамогу бяздомным, пры ўдзеле якой у Менску створаны Цэнтар начнога бытаваньня для асобаў бяз пэўнага месца жыхарства. Той, што мае ўнікальны інфармацыйны прадукт — базу зьвестак "Кансультант БСІ", праваабарончы дапаможнік для грамадзянаў, рэкамэндаваны да выкарыстаньня Міністэрствам працы. Зараз БАСР стварае партнэрскую сетку НДА, першую нефармальную міжарганізацыйную структуру, якая працуе над доўгатэрміновым супольным праектам. Калі ў старшыні БАСР Марыны Нарановіч пытаюцца: "З кім вы, зь дзяржавай ці з апазыцыяй?", яна звыкла адбівае правакацыю: "З тымі, каму патрэбная сацыяльная дапамога".**



Марына Нарановіч

### ДЗІЦЁ КАНВЭРСІІ

У 1993 г. былы інжынэр абароннага НДІ, што згубіла працоўнае месца падчас канвэрсіі, прыйшла працаваць арганізатарам практыкі студэнтаў у Інстытут сучасных ведаў. Ёй давялося апекавацца з будучых сацыяльных работнікаў, што мусілі за гады вучобы даведацца пра спосабы дапамогі грамадзтва і дзяржавы сацыяльна неабароненым.

Аб'ектам увагі факультэту сталіся самыя розныя сацыяльныя агенцыі — дзяржаўныя, камэрцыйныя, грамадзкія. У першыя ж месяцы вывучэньня рынку спадарыня Нарановіч зрабіла для сябе два адкрыцьці. Першае: у "трэцім сэктары" зь інвалідамі ці беспрацоўнымі часам працуюць больш эфэктыўна, чым у дзяржаўных арганізацыях. І другое: сацыяльныя агенцыі, да якога б з трох сэктараў не належалі, страшэнна разьяднаныя. У адным будынку могуць быць тры офісы, дзе займаюцца тымі самымі праблемамі, а іх супрацоўнікі нават ня ведаюць пра існаваньне адзін аднаго. Пра "міжсэктарнае ўзаемадзеяньне" тады, напачатку 90-х, наагул не вялося.

Вывучаючы НДА як патэнцыйных партнэраў у падрыхтоўцы студэнтаў, запрашаючы лідэраў НДА на заняткі па ўводзінах у спэцыяльнасьць, Нарановіч знаёмілася і зь іх штодзённым жыцьцём, праектнымі і арганізацыйнымі магчымасьцямі. Паступова прыходзіла разуменьне: "трэці сэктар" — тая пляцоўка, дзе самастойны чалавек можа ажыцьцявіць прафэсійныя амбіцыі, не марнуючы дзесяцігодзьдзі на кар'ерны рост і не рызыкуючы згубіць сваю справу з-за простага непаразуменьня з кіраўніком. Прафэсійная мара ўжо была — пазнаёміць разьяднаныя арганізацыі паміж сабой і даць магчымасьць простым грамадзянам бяз блату і звышнатуральнай эрудыцыі абіраць памочнікаў у жыцьцёвых турботах сярод усіх наяўных варыянтаў.

У 1996 г. група навукоўцаў і выкладчыкаў вырашыла стварыць ГА "Беларускі саюз сацыяльных пэдагогаў і работнікаў" і прапанавала Марыне Нарановіч узначаліць арганізацыю. Першым праектам аб'яднаньня, прафінансаваным фондам Сораса, сталася стварэньне базы зьвестак арганізацыяў сацыяльнай сфэры Менску. Са шматлікіх праектаў арганізацыі (пасьля перарэгістрацыі яна пачала называцца "Беларуская асацыяцыя сацыяльных работнікаў")

"Бюро сацыяльнай інфармацыі" жыве і разьвіваецца дагэтуль.

### ЯК ПРАЦУЕ БСІ

Рэальна гэта выглядае проста: кампутар, базы зьвестак на кампакт-дысках, кансультант (ці нават валянтэр), які павінен уважліва выслухаць чалавека, зразумець яго праблему, знайсьці адпаведны матэрыял у электронным каталёгу і раздрукаваць адказ. Калі адказу няма — занатаваць пытаньне для дапрацоўкі базы ў РІА-цэнтры БАСР.

Базы дзьве: "Беларусь сацыяльная", што паўстала з таго сорасаўскага праекту, і "Кансультант БСІ". Першая — гэта кантакты і зьвесткі пра дзейнасьць больш як 4500 арганізацыяў усіх формаў уласнасьці, што дапамагаюць 25 катэгорыям насельніцтва. Электронны пошук наладжаны так, што можна за некалькі сэкундаў высьветліць, ці ёсьць у рэгіёне арганізацыі, якія распаўсюджваюць гуманітарную дапамогу, займаюцца рэабілітацыяй дзяцей-інвалідаў, вядуць прафэсійную перападрыхтоўку беспрацоўных.

Дарэчы, сёлета арганізацыя будзе ў другі раз прэзэнтаваць сваю інфармацыйна-пошукавую сыстэму "Беларусь сацыяльная" на Беларускім кангрэсе па тэлекамунікацыях, інфармацыйных і банкаўскіх тэхналёгіях у Нацыянальнай Акадэміі Навук у рамках выставы "ТІВО — 2003".

Другая база — тлумачэньне правоў і апісаньне альгарытму дзеяньняў у канкрэтных сытуацыях: падчас падпісаньня працоўнай дамовы, усынаўленьня, атрыманьня ільготнага рэцэпту (усяго рэкамэндацыямі зараз ахопленыя 7 сфэраў сацыяльных узаемаадносінаў, гэта больш як 1000 старонак тэксту фармату А4).

У БАСР лічаць, што актыўная грамадзянская пазыцыя пачынаецца з самастойнага вырашэньня асабістых жыцьцёвых праблемаў. Па-першае, чалавек з уладкаваным побытам мае час для таго, каб думаць пра справы супольнасьці, па-другое, калі ты зможаш на роўных дамовіцца з паліклінікай ці сабесам, пасьля табе прасьцей будзе пераадолець псыхалягічны бар'ер, фармуляваць і адстойваць свае інтарэсы ў самых разнастайных асяродках.

"З моманту стварэньня нашага інфармацыйнага прадукту (а ў падрыхтоўцы зьвестак для базы "Кансультант БСІ" бралі ўдзел больш як 30 высокакваліфікаваных экспэртаў у розных галінах сацыяльнага права) мы назіраем рэальную зацікаўленасьць дзяржструктураў у супрацоўніцтве з арганізацыяй, — кажа Марына Нарановіч. — Шмат хто са службоўцаў сыстэмы Міністэрства працы і сацыяльнай абароны хоча карыстацца нашым прадуктам — болей ні ў каго такіх даведнікаў няма. Асабліва востра гэтая праблема тычыцца рэгіянальных сацыяльных цэнтраў. Але мы свой дыск не распаўсюджваем шырока, атрымаць нашу інфармацыю можна толькі праз грамадзкія бюро сацыяльнай інфармацыі. І ў некаторых рэгіёнах мясцовыя ўлады гатовыя нават бясплатна прадастаўляць памяшканьне пад бюро, каб і самім карыстацца яго паслугамі, і накіроўваць туды сваіх наведнікаў.

Па-другое, Нацыянальны цэнтар законапраектнай дзейнасьці не аднойчы выказваў зацікаўленасьць у зваротнай сувязі па рэальным увасабленьні прававых нормаў. А нашыя бюро — інструмэнт для арганізацыі гэтай сувязі. Статыстычная інфармацыя, якая назапашваецца ў базе зьвестак для рэгістрацыі запытаў у БСІ, можа быць выкарыстаная для распрацовак у сацыяльнай палітыцы".

Менскае бюро сацыяльнай інфармацыі БАСР працуе для жыхароў гораду з 1997 году. Яго ўлёткі не аднойчы зьяўляліся ў вагонах мэтро, менскіх аўтобусах і тралейбусах. Зараз, апрача "жывых" кансультацыяў, бюро прапануе зьвяртацца па інфармацыю праз пісьмовыя запыты.

Для наведнікаў паслугі заўсёды былі бясплатныя. Зь першых дзён бюро ня толькі пры-

даведка

# Удзельнікі сеткі БСІ

— Ганцавіцкая гарадзкая арганізацыя працоўных жанчынаў
— Верхнядзьвінская раённая арганізацыя працоўных жанчынаў
— ГА "Віцебскі жаночы клюб"
— Гомельскае гарадзкое грамадзкае аб'яднаньне сацыяльна-псыхалягічнай падтрымкі "Гармонія"
— МГА "Рэальны сьвет" (Сьветлагорск)
— Гарадзенскае ГА "Цэнтар міласэрнасьці "Сям'я"
— Смаргонскае грамадзкае аб'яднаньне шматдзетных бацькоў
— ГА "Беларуская асацыяцыя сацыяльных работнікаў" (Менск)
— МГА "Новая Касталія"(Жодзіна)
— Пухавіцкая асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам
— ГА "Рэгіянальны асьветніцкі цэнтар "Вытокі" (Слуцак)
— Магілёўскае абласное аддзяленьне ГА "Беларускі фонд міласэрнасьці і здароўя"
— Асіповіцкая асацыяцыя дапамогі дзецям-інвалідам і маладым інвалідам

Менскае БСІ БАСР працуе з панядзелка па пятніцу зь 9.00 да 17.00.
вул. Чычэрына, 21 — 514, для пошты — 220123, а/с 179,
тэл./факс 239 47 92
basw-bsi@nsys.by
http://basw.unibel.by

мала запыты грамадзянаў і давала адказы, але і вяло маніторынг сваёй працы, зьбіраючы статыстыку па зваротах. "Прыемна, што апошнім часам устойліва расьце колькасьць кліентаў, якія даведаліся пра нас ад сваіх знаёмых, — кажа спадарыня Нарановіч. — Гэта значыць, нас памятаюць многія менчукі".

У 2001 годзе арганізацыя ўпершыню паспрабавала пашырыць досьвед працы бюро за межы сталіцы. У апрабацыі інфармацыйных тэхналёгіяў БАСР удзельнічала шэсьць НДА. Дзьве зь іх працягваюць працу ў сёньняшняй сетцы. На досьведзе астатніх арганізатары таксама нешта зразумелі, здолелі павысіць патрабаваньні да арганізацыяў, што жадаюць стварыць бюро.

Апрача выкананьня сваёй асноўнай функцыі, бюро працуе і ў "іміджавай рэкляме". Калі "актывісты" тлумачаць, што рабіць у складанай жыцьцёвай сытуацыі, больш зразумела, чым платныя юрысты і супрацоўнікі дзяржаўных сацыяльных службаў — відаць, нешта істотнае для простага чалавека ёсьць у гэтым "трэцім сэктары". Калі ж бюро працуе невядома калі, а кансультант сам не разумее, як знайсьці адказ на пытаньне — "трэці сэктар" успрымаюць як кампанію абібокаў.

На сёньня мінімальны стандарт рэгіянальных бюро — восем працоўных гадзінаў на тыдзень па дакладным раскладзе, абсталяванае працоўнае месца кансультанта і ўласна кансультант, які прайшоў адпаведную падрыхтоўку ў РІА-цэнтры.

### ЧАМУ СЕТКА?

Невыпадкова сеткавыя праекты сталі папулярнымі сярод беларускіх НДА толькі ў апошнія два гады: раней грамадзкія арганізацыі яшчэ не ўсьведамлялі неабходнасьці супольнай працы на нацыянальным узроўні. Аднак створаныя сеткі (ініцыятыва "Дыялёг", экалягічныя кампаніі і інш.) звычайна мелі характар часовых кааліцыяў для дасягненьня лякальнай мэты. А вось шчыльнае партнэрскае ўзаемадзеяньне НДА ў доўгатэрміновым праекце — гэта нешта новае.

"Сетка для нас — творчая майстэрня для абмеркаваньня і рэалізацыі праектаў, лякальны эфэкт ад якіх можа быць узмоцнены пры аб'яднаньні магчымасьцяў партнэраў, — тлумачыць Марына Нарановіч. — Прызначэньне сеткі НДА — фармаваньне і ўстойлівая падтрымка агульнага рэсурсу, большага за мэханічную суму рэсурсаў удзельнікаў. Посьпех сеткі вызначаецца тым, як гэты рэсурс працуе для грамадзтва, як ацэньваецца зьнешнімі спажыўцамі, які сацыяльны эфэкт дазваляе атрымаць. Мне здаецца, што партнэрская сетка можа рабіць яшчэ адну доўгатэрміновую рэч.

У беларускім "трэцім сэктары" вельмі моцная канкурэнцыя, часам трохі хваравітая. Мала хто гатовы дапамагчы калегам, нават тымі рэсурсамі, якія сам выкарыстаць ня можа. Падчас працы над праектам мы пачынаем разумець, што посьпех калегі — не пагроза для астатніх, а наадварот, дадатковы рэсурс для ўсіх удзельнікаў".

У сетку БСІ аб'ядналіся 14 арганізацыяў — ад "сацыяльнага" Цэнтру міласэрнасьці "Сям'я" да "палітызаванай" Беларускай арганізацыі працоўных жанчынаў. Кожная падтрымлівае сваё бюро ўласнымі арганізацыйнымі і інфармацыйнымі рэсурсамі, сама шукае сродкі для яго існаваньня. За РІА-цэнтрам БАСР — каардынацыя працы, навучаньне, аднаўленьне інфармацыйнага прадукту. Па-першае, база "Беларусь сацыяльная" будзе дапаўняцца зьвесткамі пра рэгіянальную сацыяльную інфраструктуру, што зьбяруць удзельнікі. Па-другое, будуць стварацца новыя тэксты і для базы кансультацыяў — як па актуальных нарматыўных актах, так і ў адказ на запыты наведнікаў. Адказ на пытаньне, што было пастаўленае ў Гародні, атрымаюць і ў Смаргоні, і ў Сьветлагорску.

Узорам для сеткі БСІ сталася Асацыяцыя бюро грамадзянскіх саветаў Вялікабрытаніі, якая за год апрацоўвае каля 7 млн. запытаў грамадзянаў і бярэ чынны ўдзел у вырашэньні агульнанацыянальных праблемаў. 2000 офісаў па ўсёй краіне інфармуюць пра пытаньні наведнікаў Дэпартамэнт сацыяльнай палітыкі Асацыяцыі, потым у сыстэматызаваным выглядзе інфармацыя трапляе да парлямэнтарыяў. Такім чынам заканадаўца даведваецца, якія праблемы ёсьць у сацыяльнай сфэры, як іх можна вырашыць з дапамогай наяўнай прававой базы, якія законы патрабуюць дапрацоўкі.

"Нам казаць пра лябіяваньне яшчэ рана, — лічыць спадарыня Нарановіч. — Спачатку трэба адпрацаваць прафэсійныя стандарты ў самой сетцы.

Увесь 2003 год будзе прысьвечаны гэтаму. Мы хочам высьветліць, якое навучаньне павінен прайсьці кансультант і мэнэджэр бюро, выпрацаваць нешта кшталту этычнага кодэксу працы з кліентамі і між сабой, зразумець, што яшчэ, апрача статыстыкі наведваньняў, можа вызначаць якасьць працы бюро, які ўзаемны кантроль магчымы ў сетцы пры тым, што ніхто тут нікому не кіраўнік. Гэта ўсё пытаньні для большасьці беларускіх арганізацыяў нязвыклыя. Ёсьць аб'яднаньні, што працуюць вельмі прафэсійна, ёсьць тыя, што пра якасьць паслугаў нават не пачыналі думаць, але, наколькі я ведаю, ніхто ня мае відавочных для любога назіральніка крытэрыяў ацэнкі сваёй працы. Калі ж мы хочам, каб з НДА лічыліся і грамадзяне, і ўлады, каб нас успрымалі ўсур'ёз, перш за ўсё мы самі павінны працаваць прафэсійна.

# НАШЧАДКІ МАТРОСАВА?

## НДА ўзяліся зьмяняць беларускае заканадаўства

Алена Кравец

**Падаецца, пэрыяд ціхуткага, за офіснай кавай шкадаваньня пра недасканаласьць законаў дзяржавы, у якой жывем і якія (законы) яна панапрыдумляла, паціху заканчваецца. Сэрыя цэларухаў, за якімі мы маглі паназіраць у лютым, падштурхнула да думкі, што некаторыя актывісты беларускага "трэцяга сэктару" нейкім чынам паднялі свой маральна-палітычны дух і зараз сасьпяваюць да таго, каб у апраўданьне пачэснага званьня "актывіст" рынуцца ў бой за адстойваньне сваіх (дакладней, нашых агульных) правоў. Не бяда, што адсутнічаюць элемэнтарныя ўменьні і навыкі вядзеньня баявых дзеяньняў на тэрыторыі ворага. Як той казаў, галоўнае — заваліць, а там нагамі затопчам.**

Беларускія НДА адчуваюць сябе ў айчынным заканадаўстве як на варожай тэрыторыі — усё тут адбываецца па чужых, незразумелых для большасьці энжэошнікаў законах (sic!). Правілы гульні, замацаваныя ў Законе аб грамадзкіх аб'яднаньнях, расплывістыя, і ў іх канкрэтызацыі ўлады ня бачаць неабходнасьці, што ў дадзенай палітычнай сытуацыі лягічна: добры стратэг пакідае сабе поле для вялікіх манэўраў. Для "трэцяга сэктару" застаецца варыянт альбо ціхенька сысьці з думкай "ня лезь, а то заб'е" (што пасьпяхова і робіць большасьць), альбо кідацца на амбразуру, паўтараючы подзьвіг Матросава — эфэктна і запамінальна. Шкада, што малавынікова і што аптымістычны фінал не гарантаваны.

### ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ

Ініцыятыва Беларускага саюзу моладзевых і дзіцячых грамадзкіх аб'яднаньняў "РАДА" па зьменах у беларускім заканадаўстве бліжэй да другога варыянту — гэта як мінімум спроба пераламіць сытуацыю, але наколькі эфэктыўная?

Ідэя "Трэба нешта рабіць з гэтым заканадаўствам" яўна ня новая, іншая справа, хто і якімі шляхамі да яе даходзіць і што зьбіраецца рабіць. "Рада" прыйшла да згаданай ідэі ў выніку збору базы зьвестак па ўзаемадзеяньні 42 моладзевых арганізацыяў з усёй краіны зь дзяржаўнымі структурамі, пачынаючы ад сакавіка 2001 да сьнежня 2002. Цікава, што са 191 адлюстраванага базай факту адмоўны досьвед складае 9,9 % — гэта пры бясконцых скаргах на немагчымасьць супрацоўніцтва. Тым ня менш, нават малы адсотак стаўся штуршком да таго, каб задацца сакрамэнтальным "трэба" і ў рамках праекту "Стратэгія разьвіцьця моладзевых НДА ў Беларусі" правесьці дыскусію "Прапановы па ўнясеньні зьменаў у заканадаўства".

У ліку запрошаных на дыскусію былі прадстаўнікі 14 рэспубліканскіх і 6 лякальных арганізацыяў, экспэрты каардынацыйнага бюро TACIS, спэцыялісты Міністэрства юстыцыі, Нацыянальнага цэнтру законапраектнай дзейнасьці пры Прэзыдэнце РБ, Дэпартамэнту па справах моладзі Міністэрства адукацыі РБ, Цэнтру падтрымкі студэнцкіх ініцыятываў Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту. Грамадзкасьць замерла ў чаканьні — "нешта будзе". Тое "нешта" ўяўляла сабой два раўнды сустрэчаў, падчас якіх запрошаныя арганізацыі агучвалі свае прапановы па зьменах беларускага заканадаўства, самі заканадаўцы і набліжаныя да іх чыноўнікі, якія падчас сустрэчы настойліва прасілі грамадзкіх актывістаў не чапаць іх, ласкава знаёмілі прысутных са сваім поглядам на сытуацыю. Па выніках такога пікаваньня быў складзены амаль "чортаў тузін" праблемаў, зь якімі найбольш часта сутыкаюцца ў сваёй дзейнасьці грамадзкія арганізацыі і якія, на погляд "ахвяраў", можна вырашыць шляхам унясеньня зьменаў у заканадаўства. Былі таксама вызначаныя і некаторыя шляхі рашэньня дадзеных праблемаў.

Праблемы праблемамі, але, як высьветлілася падчас працы, самы складаны этап "барацьбы за свае правы" — сам працэс.

Прапісаныя мэханізмы ўнясеньня зьменаў, пра якія гаварылася на дзьвюх сустрэчах, папросту адсутнічаюць, прынамсі, на сустрэчы "Рады" іх ніхто не прапаноўваў: ці то ўсе саромеліся сказаць уголас, ці што? Зразумела, што сэмінарамі і круглымі сталамі з уладай нічога ня вырашыш, бясконцыя ліставаньні з патрабаваньнямі — адно што лішні прыбытак для "Белпошты". Гамон?

Варта прызнаць, што рашэньні па некаторых праблемах усё ж такі былі прапанаваныя. Напрыклад, праблему адсутнасьці прапісанага мэханізму прадастаўленьня ільготаў па арэндзе памяшканьняў і камунальных плацяжах для моладзевых і дзіцячых аб'яднаньняў прапанавана вырашаць наступнымі шляхамі:

— Устанавіць парадак і крытэрыі прадастаўленьня ільготаў моладзевым і дзіцячым грамадзкім аб'яднаньням па арэндзе і камунальных плацяжах за памяшканьні, якія яны займаюць (Указ Прэзыдэнта і Пастанова Савету Міністраў);

— Устанавіць мэтавыя адлічэньні ад сродкаў, што паступаюць ад здачы ў арэнду плошчаў камэрцыйным структурам, на кампэнсацыю ільготаў па арэндзе і камунальных плацяжах для грамадзкіх арганізацыяў;

— Унесьці ў Грамадзянскі і Жыльлёвы кодэксы Рэспублікі Беларусь, Дэкрэт Прэзыдэнта № 2 праўкі, што дазваляюць рэгістрацыю гра-

мадзкага аб'яднаньня па месцы жыхарства кіраўніка.

Тое, што раптам "знайшлося" рашэньне для абмежаванага кола праблемаў, зьвязаных зь дзейнасьцю "Рады" — ня больш і ня менш, але дало нагоду казаць некаторым скептыкам пра тое, што арганізацыя папросту вырашае свае цяжкасьці за чужы кошт, выкарыстоўваючы іншыя арганізацыі, запрошаныя на сустрэчу са сваімі канкрэтнымі і сапраўды набалелымі праблемамі, у якасьці масоўкі ці бэк-вакалу. Толькі пры гэтым арганізатары забыліся папярэдзіць, што мікрафоны адключаныя.

Пакінем такія выпады на сумленьні саміх скептыкаў, але сапраўды выглядае незразумелым, як у канчатковым дакумэнце зьявіліся сьцьверджаньні пра тое, што некаторыя з прапісаных праблемаў нават не былі канчаткова прааналізаваныя, бо законы і заканадаўчыя акты патрабуюць падрабязнага азнаямленьня. "А хто яго будзе рабіць?" — узьнікае лягічнае пытаньне.

Хочацца верыць, што апантаныя ідэяй зьмяненьня заканадаўства знойдуць патрэбных і здольных на гэта юрыстаў. Але зноў-ткі — дзе? Калі гэтага не зрабілі ў Менску, наўрад ці гэта магчыма ў якой-небудзь Шаркаўшчыне ці Бабруйску, фінансава і ідэалягічна залежных ад сталіцы.

Пакуль жа сама "Рада" сьціпла ўзяла пад патранаж рашэньне дзьвюх праблемаў: наяўнасьць колькаснага крытэрыю сябраў арганізацыі для ўключэньня ў Рэестар моладзевых і дзіцячых аб'яднаньняў, якія карыстаюцца дзяржаўнай падтрымкай, а таксама міжсэктаральнае ўзаемадзеяньне ў сфэры моладзевай палітыкі, адсутнасьць грамадзка-ўладных кансультацыйных структураў. Да ўдзелу ў кампаніі па прасоўваньні зьменаў у дзеючае заканадаўства вырашылі далучыцца такія арганізацыі, як РМГА "Нэкст Стоп — Нью Лайф", БМГА "Новыя твары", МГА "Гісторыка", БМГА "Розныя — Роўныя", МЭКК "Скрыжаваньне", МГА "БАСА", ГА "Барэтра". Плян дзеяньняў пакуль не агалошваецца. Надзеі на зьмяненьне сытуацыі грамадзкасьць не пакідаюць.

### ДРУГІ БЕЛАРУСКІ

Ці варта класьціся на амбразуру, калі можна сфармуляваць свае прапановы і перадаць "трэцяй асобе", якая на роўных размаўляе з кулямётчыкам? Пытаньне рытарычнае. Але і сытуацыя гэтая, як высьвятляецца, не такая фантастычная.

Сусьветны банк узяўся выступіць тым трэцім, незаангажаваным бокам паміж матросавымі-НДА і кулямётчыкам-дзяржавай. Шлях — геніяльна просты: з аднаго боку, банк размаўляе зь беларускай дзяржавай на зразумелай усім мове грошай, чым робіць свае аргумэнты надзвычай даходлівымі, зь іншага боку — ён актыўна працуе зь беларускім "трэцім сэктарам", прыцягваючы да рэалізацыі пэўных праектаў. Ясна, каб тыя пасьпяхова рэалізоўваліся, патрэбны нармальны юрыдычны фон для дзейнасьці.

Такім чынам, яшчэ ў лістападзе 2002 г. была створаная Рабочая група зь беларускіх НДА па пытаньнях узаемадзеяньня з Сусьветным банкам. Тады група вызначыла шэраг кірункаў, па якіх грамадзкія арганізацыі маглі б атрымаць



IREX/ProMedia

падтрымку ў Банку. Як і варта было чакаць, вялікая доля іх тычылася праблемаў узаемадзеяньня НДА і дзяржавы.

У працэсе працы былі вызначаныя 4 прыярытэтныя кірункі дзейнасьці Рабочай групы, створаныя дзьве працоўныя групы, якія пастаянна зьбіраюцца і вядуць працу па тэмах "Інфармаваньне грамадзкасьці пра дзейнасьць НДА і стварэньне іх станоўчага іміджу", а таксама "Ўзаемадзеяньне НДА і дзяржавы".

У склад апошняй спачатку ўваходзіла 6 чалавек — прадстаўнікоў нацыянальных і лякальных НДА. Як ні дзіўна, пэрспэктыўныя ахвяры шквальнага амбразурнага агню адразу ацанілі свае сьціплыя магчымасьці і прыйшлі да высновы, што на дапамогу трэба прыцягваць іншых.

Да працы былі запрошаныя юрысты арганіза-

цыяў, якія маюць досьвед працы зь дзяржавай, дзеля таго каб стварыць Экспэртную групу. Тая магла б плянаваць кампаніі па наладжваньні прадуктыўнага дыялёгу зь дзяржавай па праблемах існаваньня беларускага "трэцяга сэктару", у якіх узяла б удзел як мага большая колькасьць НДА. Да дыялёгу былі б запрошаныя ня толькі традыцыйна "пакрыўджаныя" ці "нелюбімыя" дзяржавай, а больш шырокае, прадстаўнічае і адэкватнае сытуацыі кола.

На сёньня сабраная група юрыстаў — сябраў разнаплянавых паводле дзейнасьці арганізацыяў: "Прававая ініцыятыва", "Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў", "Рада", "Экадом", "Адраджэньне Айчыны", "Фонд сацыяльнай падтрымкі вайскоўцаў" і г.д.

Першае, з чаго пачала група, — анкетаваньне беларускіх НДА на тэму ўзаемадзеяньня з уладнымі структурамі.

"Мы хочам убачыць, ці правільна разумеем самі беларускія НДА, іх праблемы, а пасьля канчаткова вызначыць тэму, вакол якой будзе пабудаваная праца," — кажа старшыня рады дырэктараў Цэнтру сацыяльных інавацыяў Таццяна Пашавалава.

Самыя галоўныя праблемы — недасканаласьць і неўпарадкаванасьць дзеючага заканадаўства, якое тычыцца НДА, яго прымяненьне. Дадзеныя праблемы актуалізавалі яшчэ адну — праблему выбару: ці варта прыдумляць новыя законы, калі можна памяняць старыя?

Экспэртная група схіляецца да таго, што варыянт шырокага фронту, калі кожная арганізацыя будзе лябіяваць агульныя інтарэсы беларускіх НДА перад дзяржструктурамі, — найбольш эфэктыўны. Адно што трэба самім зразумець, чаго хочам, і прапанаваць правілы чыноўнікам. На цяперашні момант пытаньне стаіць толькі ў вызначэньні стратэгіі дзеяньня на бліжэйшыя некалькі месяцаў.

"На Інавацыйных днях Сусьветнага банку, што пройдуць у Менску ў траўні, наша сэкцыя "Ўмовы эфэктыўнасьці рэалізацыі сацыяльных праектаў" будзе тэматычна зьвязаная са зьнешнімі ўмовамі рэалізацыі праектаў. На форум будуць запрошаныя прадстаўнікі як НДА, так і дзяржструктураў. Нашая мэта — пабудаваць зь імі канструктыўны дыялёг. І мы спадзяемся на тое, што разам у нас гэта атрымаецца", — пракамэнтавала сытуацыю Таццяна Пашавалава.

Магчыма, менавіта Сусьветны банк выступіць гарантам таго, што зьмены павінны адбыцца і будуць праводзіцца.



# Амаль "чортаў тузін" праблемаў беларускіх НДА (вэрсія "Рады"):

1. Наяўнасьць колькаснага крытэрыю (50 чалавек для мясцовых арганізацыяў, 300 для рэспубліканскай) для ўключэньня ў Рэестар моладзевых і дзіцячых аб'яднаньняў, якія карыстаюцца дзяржаўнай падтрымкай.

2. Адсутнасьць прапісанага мэханізму прадастаўленьня ільготаў па арэндзе памяшканьняў і камунальных плацяжах для моладзевых і дзіцячых аб'яднаньняў.

3. Забароны на правядзеньне мерапрыемстваў моладзевых і дзіцячых грамадзкіх аб'яднаньняў.

4. Бюракратычная цяганіна пры разглядзе пытаньняў аб правядзеньні мерапрыемстваў моладзевых і дзіцячых грамадзкіх аб'яднаньняў, спасылкі на неабходнасьць узгадненьня з вышэйстаячымі органамі.

5. Міжсэктаральнае ўзаемадзеяньне ў сфэры моладзевай палітыкі: адсутнасьць грамадзкаўладных кансультацыйных структураў.

6. Неабходнасьць наяўнасьці юрыдычнага адрасу для пастаноўкі на ўлік арганізацыйных структураў без правоў юрыдычнай асобы.

7. Цяганіна ў працы Дэпартамэнту па гуманітарнай дзейнасьці, спасылкі на неабходнасьць узгадненьня зь іншымі ведамствамі.

8. Цяжкія для выкананьня ўмовы рэгістрацыі друкаваных выданьняў, якія засноўваюць моладзевыя і дзіцячыя грамадзкія арганізацыі.

9. Адсутнасьць падатковых ільготаў для спонсараў моладзевых і дзіцячых грамадзкіх аб'яднаньняў.

10. Калізіі нормаў заканадаўства, што рэгулююць дзейнасьць моладзевых і дзіцячых грамадзкіх арганізацыяў.

11. Абмежаваньні на вытворча-гаспадарчую дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў.

12. Забарона на сяброўства юрыдычных асобаў у грамадзкіх аб'яднаньнях.

# косткі бязь мяса

## супавы набор нда-дасьледаваньняў



**Агульны стан дасьледаваньняў беларускай сыстэмы НДА знаходзіцца ня ў самым лепшым выглядзе. Па розных прычынах тут значна прасьцей займацца дасьледаваньнем “трэцяга сэктару” “ўвогуле” ці грамадзянскіх супольнасьцяў якой Нямеччыны, ЗША, Італіі. Для аналітыкаў рабіць так прасьцей і больш карысна (з улікам тых жа пэрспэктываў навучальнага і навуковага кар’ернага росту), чым займацца дасьледаваньнем беларускай рэальнасьці. Сыстэма НДА дагэтуль застаецца чорнай скрыняй зь невялікімі белымі плямамі.**

Андрэй Казакевіч

У тэкстах, якія прысьвечаныя НДА, звычайна дамінуюць дзьве тэмы:

— апісаньне ідэалягічных і тэарэтычных канцэптаў: “Чым ёсьць НДА ўвогуле і як выглядае іх ідэальная сацыяльная функцыя”;

— эмпірычныя сацыялягічныя дасьледаваньні.

Паспрабуем апісаць іх больш падрабязна.

### ТЭАРЭТЫЧНЫЯ І ІДЭАЛЯГІЧНЫЯ КАНЦЭПТЫ

Main stream тут, вядома ж, — апісаньне ролі і месца НДА ў дэмакратычных грамадзтвах. Такіх выданьняў шмат, тыповы прыклад — *“Да дэмакратыі праз грамадзянскую супольнасьць” (Шчэцін, 1999).* Асноўную частку тут займаюць разважаньні пра “НДА ўвогуле” з прывязданьнем некалькіх адчужаных тэарэтычных схемаў, якія ня маюць ніякага дачыненьня да рэальнасьці.

### САЦЫЯЛЁГІЯ

Сацыялягічныя дасьледаваньні цікавяць перш за ўсё замоўцу. Для Беларусі такія дасьледаваньні замаўляюць міжнародныя арганізацыі, фонды і г.д., якіх цікавіць пераважна “агульны стан” па краіне. Натуральна, гэта не спрыяе пасьлядоўным дасьледаваньням ляндшафту НДА.

Сярод эмпірычных дасьледаваньняў НДА дамінуюць дзьве праграмы: апытаньне сябраў арганізацыяў для вызначэньня іх сацыяльнага складу (студэнты, рабочыя, беспрацоўныя і г.д. — гл. у якасьці прыкладу дасьледаваньне моладзевых рухаў “Новости НИСЭПИ” №3 1999) і выяўленьне меркаваньняў лідэраў (ці “экспэртаў”) пра стан у “трэцім сэктары” ці па іншай праблеме (як прыклад — “Аналитический бюллетень БФМ” № 2 (13) 2001).

Складанасьць беларускай сытуацыі, натуральна, палягае ня ў якасьці сацыялёгіі, але ў яе выключна дамінуючай пазыцыі эмпірычных і прыкладных дасьледаваньняў НДА, якія сутнасна, без “case studies” і дасьледаваньня структураў — ня больш як сыравіна.

Звычайна дасьледаваньне НДА ўяўляе сабой апісаньне “пажаданага стану” і збор асобных колькасных зьвестак. Калі пачынаюцца спробы апісаньня канкрэтных структураў і іх генэалёгіі, то дасьледаваньне зводзіцца да вельмі кароткіх і малаінфарматыўных паведамленьняў.

Тыповы прыклад — кніга *“Беларуская палітычная сыстэма і прэзыдэнцкія выбары 2001 г.”*. Сама кніга пакідае някепскае ўражаньне і зьяўляецца ці не адзіным больш-менш сыстэмным апісаньнем эвалюцыі беларускай палітычнай сыстэмы. Але калі размова ў ёй заходзіць пра НДА, узровень інфарматыўнасьці рэзка зьніжаецца: разьвіцьцё грамадзкага сэктару падчас крызысу 1996 году зводзіцца да стварэньня БПСМ і Асамблеі, а роля НДА ў палітычнай кампаніі 2001 году наагул выкладзеная несыстэмна.

З агульнай праблемы дамінаваньня тэарэтычных і эмпірычных сацыялягічных дасьледаваньняў паўстае праблема “стыляў”, якіх прытрымліваюцца розныя дасьледчыя інстытуцыі.

### ТЭАРЭТЫЧНЫЯ ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ ПА ДРУГАСНЫХ КРЫНІЦАХ

Гэтая навуковая праграма характэрная для большасьці “інстытуцыялізаваных” навучальных і дасьледчых установаў краіны, моцна зьвязаных з савецкімі традыцыямі і канонамі дасьледаваньняў — яскравым прыкладам тут можа выступаць БДУ.

Калі каротка вызначыць тэхніку тэарэтычнага дасьледаваньня па другасных крыніцах, то гэта — археалёгія (дасьледаваньне post factum) зь вялікім уплывам тэарэтычных канструкцыяў. Звычайна дасьледчык знаходзіцца вельмі далёка ад непасрэднага аб’екта (гэтае правіла амаль без выключэньняў). Галоўным сродкам “легітымізацыі” дасьледаваньняў выступае

апісаньне тэорыі сучаснай дэмакратыі і цытаваньне “новых аўтарытэтаў”: Роўлза, Даль, Рорці — у лепшым выпадку. У горшым усё абмяжоўваецца “айчыннай” (чытай расейскай) літаратурай і якімі-кольвек Вальтэрам з Мантэск’ё. Такая структура дасьледаваньняў цалкам натуральная, яна — канон дысцыплінарнасьці, але вельмі рэдка схемы, прапанаваныя ў тэарэтычных развагах, ужываюцца для апісаньня і інтэрпрэтаваньня беларускай рэальнасьці.

Другую частку дасьледаваньняў звычайна складае інфармацыя з другасных крыніцаў. Дасьледчыя традыцыі прапануюць выкарыстоўваць манаграфіі, артыкулы ў рэцэнзаваных выданьнях, і толькі пасьля шукаць дадатковыя зьвесткі. Зрэдку і фрагмэнтарна дасьледчык вымушаны шукаць інфармацыю ў СМІ, зьвязвацца са структурамі (партыямі, НДА), але такія крыніцы інфармацыі заўсёды маюць толькі дадатковае (sic!) значэньне. Дамінаваньне другасных крыніцаў лічыцца нармальным і цалкам дастатковым для атрыманьня навучальнага (навуковага) посьпеху.

У выніку ў Беларусі, якой бракуе паўнавартаснай інфармацыйнай інфраструктуры палітычных дасьледаваньняў, зьяўляюцца выдатныя тэксты мясцовых навукоўцаў пра “трэці сэктар” Нямеччыны, Англіі ці Расеі, але ніяк не пра тутэйшы.

Апісаныя вышэй “стылі” ўтвараюць такі main stream у галіне дасьледаваньняў НДА, але яны, натуральна, ня ёсьць адзінымі ў беларускай навуковай і папулярнай літаратуры.

### ІДЭАЛЯГІЧНЫЯ ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ ПА ДРУГАСНЫХ КРЫНІЦАХ

Збольшага гэты “стыль” нагадвае тэарэтычныя дасьледаваньні, але ён спалучаецца з навязлівым імкненьнем дастасаваць атрыманыя схемы з пэўнымі ідэалягічнымі канцэптамі. Галоўным вытворцам такога “стылю” выступае Інстытут сацыяльна-палітычных дасьледаваньняў пры Адміністрацыі Прэзыдэнта (ІСПД).

Ідэя “славянскай цывілізацыі”, “славянскіх каштоўнасьцяў” для пэўнага кола супрацоўнікаў — ідэя фікс. Гэтым абумоўлена настойлівае імкненьне ўключыць названую ідэю ў кантэкст рэальных палітычных і сацыялягічных дасьледаваньняў, што звычайна выглядае недарэчна. Паказальны прыклад такой “гібрыдызацыі” — *Молодежь Беларуси: социальная политика и условия самореализации. Мн., 2000.*

### *AD HOC* ТЭКСТЫ, ЗАСНАВАНЫЯ ВЫКЛЮЧНА НА ЎЛАСНЫМ ДОСЬВЕДЗЕ

Прыкладам такіх тэкстаў зьяўляецца часткова аналітыка часопіса Arche, тэксты У.Мацкевіча (Мацкевич В. Белорусская демократия вопреки очевидности. Мн., 1996), успаміны палітычных асобаў (Грыб, Шушкевіч і г.д.). Такія тэксты звычайна ўтрымліваюць цікавыя (часам эксцэнтрычныя) думкі, але ім, натуральна, бракуе сыстэмнасьці выкладаньня.

### НА ЗАКАНЧЭНЬНЕ

Паспрабуем прывесьці асноўныя рысы сучаснага стану дасьледаваньняў НДА:

— да гэтага часу не існуе ніводнага комплекснага дасьледаваньня сыстэмы беларускіх НДА з апісаньнем яе эвалюцыі, функцыяў у сучасным грамадзтве і тэндэнцыяў разьвіцьця;

— галоўная ўвага надаецца апісаньню тэарэтычных схемаў дзейнасьці НДА;

— нешматлікія беларускія НДА маюць агістарычны характар;

— як аб’ект дасьледаваньня ігнаруецца рэальны палітычны і культурны досьвед сыстэмы НДА;

— выкарыстаньне пераважна другасных крыніцаў, адсутнасьць сыстэмы збору інфармацыі пра НДА, абмежаваная камунікацыя з аб’ектам дасьледаваньня.

# калі вы вырашылі
## *распрацаваць адукацыйную праграму для НДА*

Ала Кос,
**кансультант ABA/CEELI па пытаньнях разьвіцьця арганізацыяў**




**Прафэсійная падрыхтоўка кадраў для “трэцяга сэктару” мае на ўвазе перш за ўсё навучаньне ў галіне арганізацыйнага разьвіцьця і кіраваньня НДА. Такім чынам, вы вырашылі распрацаваць адукацыйную праграму. Што вам трэба абавязкова ведаць, каб дабіцца станоўчых вынікаў?[1]**

### АСНОЎНЫЯ ЭТАПЫ РАСПРАЦОЎКІ НАВУЧАНЬНЯ

Складаючы навучальны курс, памятайце пра 5 асноўных этапаў распрацоўкі навучаньня:

*1. Аналіз патрэбаў навучэнцаў*

Якая інфармацыя ці навыкі зьяўляюцца для іх найбольш важнымі? Пры наяўнасьці абмежаванага часу і шырокай тэмы, якія веды найбольш патрэбныя ўдзельнікам навучаньня?

*2. Распрацоўка мэтаў і задачаў навучаньня*

Што навучэнцы павінны зразумець, запомніць, даведацца ці быць у стане выканаць у выніку заканчэньня курсу?

*3. Распрацоўка структуры і зьместу курсу*

Сабраць і арганізаваць інфармацыю, якая будзе прадстаўленая на курсе, у форме лекцыяў і пісьмовых матэрыялаў.

*4. Распрацоўка і падрыхтоўка інтэрактыўных мэтадаў навучаньня*

Якія формы навучаньня дапамогуць навучэнцам больш актыўна працаваць зь інфармацыяй? Якая наглядная падтрымка можа спатрэбіцца?

*5. Распрацоўка стратэгіі ацэнкі*

Як мы зможам даведацца, што новыя веды атрыманыя, што ўдзельнікі разумеюць новы матэрыял? (Кіраўнік праграмы звычайна бярэ на сябе адказнасьць за правядзеньне ацэнкі і атрыманьне водгукаў пасьля завяршэньня праграмы. Але з дапамогай інтэрактыўных мэтадаў навучаньня можна правесьці частковую ацэнку навучаньня падчас яго правядзеньня).

У любым працэсе плянаваньня навучаньня першым крокам заўсёды павінен быць аналіз патрэбаў. У большасьці адукацыйных праграмаў іх аналіз уяўляе сабой камбінацыю двух фактараў:

1. Што навучэнцы хочуць атрымаць ад навучаньня?

2. Што, па меркаваньні трэнэра і арганізацыі, навучэнцы павінны атрымаць ад навучаньня?

Вельмі важна, каб вашыя ўяўленьні пра патрэбы навучэнцаў сапраўды супадалі зь іх рэальнымі патрэбамі, а таму ня варта абапірацца толькі на ўласнае меркаваньне і ўвесь час правяраць гэтую інфармацыю.

На падставе чаго можна вызначыць патрэбы навучэнцаў? Вось толькі некалькі магчымых крыніцаў інфармацыі:

*1. Мэты, місія, задача арганізацыі ці прафэсіі*

— Што сыстэма чакае ад навучэнцаў?

— Перш за ўсё, чаму праводзіцца навучаньне?

*2. Досьвед людзей у групе навучаньня*

— Інструктар выконвае аналягічную працу, выкарыстоўваючы ўласны досьвед

— Інструктар робіць акцэнт і надае ўвагу патрэбам навучэнцаў у інфармацыі, навыках

*3. Размовы зь некаторымі навучэнцамі да пачатку плянаваньня курсу*

— Неафіцыйныя размовы, штодзённыя зносіны

— Афіцыйныя, комплексныя сумоўі

*4. Назіраньне за працай навучэнцаў*

— Аналіз папярэдніх зносінаў з навучэнцамі

— Правядзеньне афіцыйнага назіраньня і аналізу, запіс паводзінаў і ацэнка атрыманых дадзеных

*5. Заўвагі спэцыяліста, прафэсіяналаў з блізкіх па дзейнасьці галінаў*

— Людзі, якія могуць падзяліцца асаблівым меркаваньнем наконт таго, што навучэнцы павінны ведаць і павінны ўмець рабіць

— Людзі, якія маюць уласны досьвед зносінаў з навучэнцамі

*6. Незаплянаваная адаптацыя падчас навучаньня*

— Адказы на заўвагі і пытаньні навучэнцаў

— Комплексная зваротная сувязь напачатку навучаньня

*7. Выкарыстаньне ацэнкі папярэдніх праграмаў навучаньня ў якасьці інструкцыі для будучых*

### РАСПРАЦОЎКА МЭТАЎ І ПАСТАНОЎКА ЗАДАЧАЎ/ ТРЭНІНГ І НАВУЧАНЬНЕ

Чаму неабходна распрацоўваць Мэты і Задачы навучаньня? Як мы іх фармулюем? Што неабходна ўлічваць пры навучаньні дарослых?

Дарослым слухачам навучаньне неабходнае для паляпшэньня працоўнай дзейнасьці. Навучаньне дапамагае ім у гэтым шляхам назапашваньня ведаў, разьвіцьця ўменьняў і зьменаў сваіх адносінаў (установак) асобна ці ў комплексе. Гэтыя паняткі зьяўляюцца падмуркам для фармуляваньня задачаў навучаньня.

Веды маюць адносіны да кагнітыўных аспэктаў разуменьня, якія ўключаюць у сябе набыцьцё і засваеньне інфармацыі. Ва ўсім сьвеце сыстэма фармальнага і нефармальнага навучаньня робіць акцэнт на набыцьці ведаў, пачынаючы з элемэнтарнай арытмэтыкі і заканчваючы складанымі структурамі і тэорыямі. Набыцьцё і павышэньне ўзроўню ведаў зьяўляецца важнай прыступкай у працэсе навучаньня, аднак толькі адной з многіх. Навучэнцы павінны набыць навыкі па выкарыстаньні гэтых ведаў, каб у далейшым эфэктыўна прымяняць атрыманыя веды ў сваёй працы.

Да навыкаў адносяцца некаторыя разумовыя і фізычныя здольнасьці, якія могуць быць неабходныя для эфэктыўнага выкананьня абавязкаў на працоўным месцы. Навучэнцы могуць набыць навыкі ў наступных трох катэгорыях:

— Навыкі аналізу, сынтэзу і ацэнкі

— Фізычныя, рухальныя і мэханічныя навыкі

— Міжасобасныя навыкі

Установкі апісваюць тое, што мы адчуваем ці думаем, зыходзячы са свайго характару, абапіраючыся на свае меркаваньні, каштоўнасьці і іншыя фактары. Нашыя ўстаноўкі і каштоўнасьці фармуюцца на працягу ўсяго нашага жыцьця пад зьнешнім узьдзеяньнем у залежнасьці ад ступені прыманьня іх намі. Нашыя паводзіны зьяўляюцца зьнешняй праявай нашых псыхалягічных установак і каштоўнасьцяў, адлюстраваньнем нашай асобы ці мерай навыкаў, якія мы набылі незалежна ад нашых установак і характару.

Ці ёсьць адрозьненьні ў панятках “трэнінг” і “навучаньне”? Паміж гэтымі паняткамі няма выразнай мяжы, але тым ня менш ёсьць істотныя адрозьненьні. Навучаньне ў асноўным арыентавана на набыцьцё новых ведаў. Трэнінг жа арыентаваны на зьмены паводзінаў індывідаў шляхам разьвіцьця навыкаў. Перадумовай пасьпяховага трэнінгу зьяўляецца жаданьне навучэнца вучыцца. У выніку ён павінен умець рабіць ці разумець рэчы, якія да гэтага ня мог рабіць і ня ведаў. Іншымі словамі, яго паводзіны пасьля навучаньня будуць адрозьнівацца ад тых, якімі яны былі раней.

### ШТО ТАКОЕ МЭТЫ І ЗАДАЧЫ І ЯКАЯ ПАМІЖ ІМІ РОЗЬНІЦА?

Мэты - гэта найбольш агульныя сьцьверджаньні. Мэты накіраваныя на дасягненьне канчатковага выніку. Іх галоўнае прызначэньне - паказаць тып патрэбаў, на задавальненьне якіх накіраваная праграма навучаньня. Тым самым мэты адрозьніваюцца ад задачаў. Задача навучаньня - гэта пісьмовая фармулёўка дакладнымі і недвухсэнсоўнымі словамі таго, што будзе ўмець навучэнец пасьля наведваньня заняткаў.

Для гэтага сфармуляваныя задачы павінны адпавядаць некаторым крытэрыям. Іх часта называюць “крытэрыі SMART” (у перакладзе з ангельскай smart - разумны).

А зараз некалькі прыкладаў фармуляваньня мэтаў і задачаў. Размова ідзе пра сэрыю з трох трэнінгаў і аб адным канкрэтным трэнінгу. Мэта сфармуляваная, зыходзячы з патрэбаў арганізацыі ў аказаньні якасных паслугаў.

Фармуляваньне мэтаў і задачаў навучаньня забясьпечвае мэтанакіраванасьць навучаньня і гарантуе яго эканамічнасьць і эфэктыўнасьць. Вы не губляеце час і іншыя рэсурсы, самі разумееце, чаго неабходна дасягнуць, і сваіх слухачоў ведзяце да дасягненьня мэтаў шляхам выкананьня канкрэтных задачаў. Такім чынам, асноўнае прызначэньне фармуляваньня задачаў заключаецца ў наступным:

— устанавіць парамэтры выніку, якога неабходна дасягнуць пасьля праходжаньня трэнінгу;

— стварыць стандарт выкананьня дзеяньняў, на разьвіцьцё якіх накіраванае навучаньне (каб мы маглі праверыць, ці дасягнуты вынік).

І ўдзельнікі, і арганізатары навучаньня павінны мець добрае ўяўленьне аб выніках, якія чакаюцца пасьля правядзеньня навучальнага мерапрыемства. Удзельнікі хочуць ведаць, якім чынам навучаньне ўмацуе ці палепшыць іх веды, навыкі і ўстаноўкі. Арганізатары навучаньня выкарыстоўваюць мэты і задачы навучаньня для прыняцьця важных для распрацоўкі навучаньня рашэньняў, уключаючы:

— Колькі часу неабходна для разгляду дадзенага пытаньня;

— Якія мэтады навучаньня падыходзяць для яго вывучэньня;

— Якія рэсурсы неабходныя для гэтага;

— Якія крытэрыі ацэнкі выкарыстоўваць.

Пажадана аддаваць перавагу выкарыстаньню дзеясловаў і пры распрацоўцы мэтаў, і пры пастаноўцы задачаў. Асабліва гэта важна пры фармуляваньні задачаў. Спосаб пастаноўкі задачаў па мадэлі “да канца трэнінгу ўдзельнікі змогуць” дазваляе адразу ўбачыць вынікі, якія чакаюцца. Гэтыя вынікі таксама можна лёгка ўбачыць і ў прыкладзе 1, таму што задачы сфармуляваныя дастаткова канкрэтна, яны вымяральныя. Але вынікі, якія чакаюцца, можна фармуляваць і асобна, калі вы выкарыстоўваеце мадэль “мэта-задачы- вынікі, якія чакаюцца”.

### СТРУКТУРА І ЗЬМЕСТ НАВУЧАЛЬНАЙ СЭСІІ

Можаце паспрабаваць выкарыстоўваць наступныя схемы пры распрацоўцы структуры і зьместу сэсіі:

Схема 1 (Структура сэсіі):

Задачы навучаньня

У выніку гэтай сэсіі ўдзельнікі змогуць:

Мэтады навучаньня

— Агляд (10%) ці ўступ (15%)

| Час | Задачы навучаньня | Веды, навыкі, устаноўкі | Мэтады | Матэрыялы і нагляднасьць |
|---|---|---|---|---|
| | **Знаёмства** | | | |
| | **Сэсія №1** | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | **Сэсія №2** | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | **Сэсія №3** | | | |
| | | | | |
| | | | | |

— Прэзэнтацыя (25%)
— Інтэрактыўныя мэтады (40%)
— Падвядзеньне вынікаў (10%)
Навучальныя матэрыялы
Раздаткі
Наглядныя сродкі

### ІНТЭРАКТЫЎНЫЯ МЭТАДЫ НАВУЧАНЬНЯ/АЦЭНКА НАВУЧАНЬНЯ

Шматгадовай практыкай даказана, што для навучаньня дарослых інтэрактыўнае навучаньне і навучаньне праз досьвед у форме трэнінгаў і сэмінараў значна больш эфэктыўнае, чым акадэмічны падыход да навучаньня мэтадам лекцыяў і выстаўленьня адзнакаў за выкананьне хатніх заданьняў. Менавіта трэнінгі і інтэрактыўныя сэмінары зьяўляюцца папулярнай формай навучаньня супрацоўнікаў і добраахвотнікаў, якія працуюць у некамэрцыйным сэктары.

Аднак, нягледзячы на ўпэўненасьць трэнэраў у эфэктыўнасьці ўзьдзеяньня інтэрактыўнага навучаньня, навучальныя (трэнінгавыя) курсы, як правіла, не ацэньваюцца ці ацэньваюцца, але толькі на ўзроўні вокамгненнай рэакцыі ўдзельніка на структуру і зьмест толькі што пройдзенага трэнінгу. Абмежаваны фокус ацэнкі навучаньня абазначае, што ў вядучых трэнінгаў няма канкрэтных адказаў на два ключавыя практычныя пытаньні: 1) як праходжаньне трэнінгу ўплывае на прафэсійную дзейнасьць супрацоўнікаў НДА і 2) як вымяраецца дзейнасьць НДА пасьля навучаньня супрацоўнікаў на трэнінгах?

Але ацэнка навучальных праграмаў па кіраваньні і арганізацыйным разьвіцьці НДА - гэта тэма асобнай размовы.

### У ЗАКЛЮЧЭНЬНЕ

Яшчэ адно важнае пытаньне, зьвязанае з навучаньнем у "трэцім сэктары", - гэта баланс паміж рэальнымі патрэбамі НДА ў навучаньні і прыярытэтамі іх донараў. Калі донар вам прапаноўвае навучаньне пэрсаналу за кошт сродкаў гранту - ніколі не адмаўляйцеся. Навучаныя супрацоўнікі - гэта вашая будучыня і дадатковы прыток рэсурсаў у арганізацыю. Важна не навучаць пэрсанал усяму без разбору! Неабходна вызначыцца са спэцыялізацыяй кожнага з супрацоўнікаў (як аплачваемых, так і добраахвотнікаў) і выбіраць толькі падыходзячыя тэмы, ацэньваючы, што зьменіцца ці зьявіцца ў арганізацыі ў выніку набыцьця супрацоўнікам новых навыкаў.

Калі ў вас ёсьць доступ да інтэрнэту, лепш за ўсё даручыць аднаму з супрацоўнікаў ці добраахвотнікаў рабіць рэгулярны штомесячны агляд магчымасьцяў навучаньня, а пасьля абмяркоўваць іх сумесна з пэрсаналам і выбіраць самае карыснае і неабходнае ў адпаведнасьці з вашымі рэсурсамі. Вось некалькі адрасоў сайтаў, якія публікуюць рэгулярную інфармацыю пра навучаньне:

http://www.trainet.org/ - віртуальны рэсурсны цэнтар;

http://www.ngo.org.ru/ngoss/ru/deep/deed12780/ThemePage.html - разьдзел "Навучаньне" на сайце Цэнтру падтрымкі НКА (Масква);

http://infohome.alt.ru/events-ngo/ - разьдзел "Падзеі" на сайце "Інфа-дом Алтай".

Таксама можна шукаць падобнага роду інфармацыю на сайтах грантадаўцаў.

Посьпехаў у прафэсійнай падрыхтоўцы кадраў для вашых НДА!

[1] Пры падрыхтоўцы гэтага артыкула выкарыстоўваліся матэрыялы, распрацаваныя ў межах Рэгіянальнай праграмы ABA/CEELI па разьвіцьці арганізацыяў у краінах СНД і сумесна з трэнэрамі Луганскай абласной групы мэдыяцыі.

# ПРАВЕРКА ПАДАТКОВАЙ ІНСПЭКЦЫІ НЯ ЧАС СПАЦЬ СПАКОЙНА

Вольга Смалянка,
**ГА “Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў”**
**islr@infonet.by**

**У адпаведнасьці з арт. 25 Закону “Аб грамадзкіх аб’яднаньнях” кантроль за фінансавай дзейнасьцю ГА, у тым ліку за крыніцамі іх прыбыткаў, за памерамі атрыманых імі сродкаў і выплатай падаткаў ладзяць дзяржаўныя падатковыя органы. У сувязі з унясеньнем зьменаў і дапаўненьняў у Палажэньне аб парадку арганізацыі і правядзеньні праверак падатковымі органамі, зацьв. Загадам Дзяржаўнага падатковага камітэту РБ ад 30.12.1999 № 326[1] хацелася б зьвярнуць увагу зарэгістраваных ГА на парадак правядзеньня праверак падатковымі органамі. Элемэнтарныя веды пра кампэтэнцыю кантралюючых органаў, парадак правядзеньня праверак і парадак абскарджаньня вынікаў праверак дапаможа вам правільна сябе паводзіць як у час, так і пасьля іх заканчэньня.**

### ПРАВЫ СЛУЖБОВЫХ АСОБАЎ

падатковых органаў (правяраючых) пры правядзеньні праверкі.[2]

Яны — даволі шырокія — дакладна вызначаныя ў адпаведных нарматыўных актах, а менавіта:

— Праверка грашовых дакумэнтаў, бухгальтарскіх кніг, справаздачаў, каштарысаў, дэклярацыяў і іншых дакумэнтаў, зьвязаных з вылічэньнем і выплатай падаткаў, атрыманьне неабходных тлумачэньняў, даведак і зьвестак па пытаньнях, датычных іх кампэтэнцыі;

— Атрыманьне ад юрыдычных і фізычных асобаў неабходных зьвестак, даведак, дакумэнтаў (копіяў зь іх) аб гаспадарчай дзейнасьці суб’ектаў гаспадараньня і фізычных асобаў, якія правяраюцца, а таксама праверка наяўных грошай у касе і ў падсправаздачных асобаў, каштоўных папераў, матэрыяльных каштоўнасьцяў і іншай маёмасьці;

— Праверка ў межах сваёй кампэтэнцыі дакладных дадзеных, пазначаных у дэклярацыях, што прад’яўляюцца ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку;

— Патрабаваньне пісьмовых тлумачэньняў ад службовых асобаў і іншых асобаў, якія працуюць па працоўных дамовах і (ці) грамадзянскаправавых дамовах, што заключаныя з плацельшчыкамі, якія правяраюцца; іншых фізычных асобаў па пытаньнях, што паўстаюць падчас падатковай праверкі;

— Пры выкананьні службовых абавязкаў і прад’яўленьні службовага пасьведчаньня вольны ўваход і правядзеньне з удзелам уласьніка (яго прад’яўляльніка ці ўпаўнаважанай ім асобы) у адпаведнасьці з заканадаўствам дасьледаваньня прыналежных юрыдычным і фізычным асобам любых вытворчых, складавых, гандлёвых і іншых памяшканьняў, якія выкарыстоўваюцца ці могуць выкарыстоўвацца для атрыманьня прыбытку ад прадпрымальніцкай дзейнасьці;

— Правядзеньне з выкананьнем заканадаўства асабовага агляду парушальнікаў заканадаўства аб падатках і прадпрымальніцтве, а таксама агляду рэчаў, дакумэнтаў, каштоўнасьцяў і транспартных сродкаў, якія пры іх знаходзяцца;

— Знаёмства ва ўстаноўленым парадку ва ўстановах банкаў з сапраўднымі дакумэнтамі і рахункамі, у тым ліку валютнымі, а таксама атрыманьне ў неабходных выпадках зьвестак, даведак і копіяў дакумэнтаў, зьвязаных з апэрацыямі падаткаплацельшчыкаў, якія правяраюцца, аб стане рахункаў і абароту па іх, аб стане адкрытых імі крэдытаў і па іншых пытаньнях, што паўстаюць падчас праверкі;

— Атрыманьне ад падаткаплацельшчыкаў даведак і копіяў дакумэнтаў па апэрацыях і разьліках з суб’ектам, які правяраецца, правядзеньне сустрэчных праверак шляхам азнаямленьня з сапраўднымі дакумэнтальнымі запісамі ў рэгістрах уліку і атрыманьне тлумачэньняў ад службовых асобаў і іншых працаўнікоў, а таксама фізычных асобаў;

— Прыцягненьне спэцыялістаў для вызначэньня колькасьці і якасьці сыравіны, матэрыялаў, паўфабрыкатаў і гатовай прадукцыі, аказаных паслугаў і выкананых работаў, для праверкі фактычных затратаў сыравіны і матэрыялаў, стану будынкаў і збудаваньняў, для кантрольных абмераў аб’ёмаў рамонтна-будаўнічых работаў і вызначэньня іх якасьці, а таксама ў іншых неабходных выпадках;

— У выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, апячатаньне касы і касавых памяшканьняў, складоў, архіваў і іншых месцаў захоўваньня каштоўнасьцяў, фінансавых дакумэнтаў і каштоўных папераў, за выключэньнем касаў і сховішчаў установаў банкаў, правядзеньне праверкі фактычнай наяўнасьці каштоўнасьцяў у іх, прызначэньне іх інвэнтарызацыі, а таксама праверкі правільнасьці яе правядзеньня;

— У выпадках, прадугледжаных заканадаўствам, канфіскацыя дакумэнтаў, у тым ліку электронных на машыначытальных носьбітах (сыстэмны блёк кампутара, дыскеты, CD, магнітааптычныя дыскі і інш.), што сьведчаць пра скрыцьцё (заніжэньне) прыбытку (даходу) ці іншых аб’ектаў ад падаткаабкладаньня, ліцэнзіі для перадачы іх у органы, якія выдалі гэтыя дакумэнты, з паведамленьнем аб парушэньні падатковага заканадаўства;

— Накладаньне ў адпаведнасьці з закана-

даўствам на маёмасьць падаткаплацельшчыкаў-парушальнікаў падатковага заканадаўства арышту, які заключаецца ў правядзеньні вопісу маёмасьці і аб'яўленьні забароны распараджацца гэтай маёмасьцю; перадача апісанай маёмасьці па акце передачы на захоўваньне нядоімшчыку ці яго прадстаўніку, іншай асобе з папярэджаньнем апошніх аб крымінальнай адказнасьці за захаванасьць апісанай маёмасьці ці правядзеньне канфіскацыі апісанай маёмасьці для забесьпячэньня прымусовага спагнаньня ў бюджэт нядоімак па падатках і эканамічных санкцыях шляхам абарачэньня спагнаньня на апісаную маёмасьць;

— Канфіскацыя ў правапарушальнікаў рэчаў і таварна-матэрыяльных каштоўнасьцяў (неапрыходаваных тавараў, узораў сыравіны, паўфабрыкатаў, гатовай прадукцыі, грашовай выручкі), якія зьяўляюцца аб'ектамі парушэньня заканадаўства аб падатках і прадпрымальніцтве ці рэчавымі доказамі па гэтых справах;

— Унясеньне ва ўстаноўленым парадку прапановы падаткаплацельшчыкам, якія правяраюцца, аб выплаце падаткаў і сумаў, што спагаяюцца ў парадку прымяненьня эканамічных санкцыяў;

— Унясеньне прапановы кіраўніцтву падатковага органа (яго намесьніку) прыпыніць цалкам або часткова апэрацыі падаткаплацельшчыка па яго рахунках і ўнёсках у банк, а таксама прыняцьце іншых мераў па забесьпячэньні спагнаньня даперавлічаных сумаў падаткаў і прад'яўляемых эканамічных санкцыях, інфармаваньні вышэйшага органа дзяржаўнага кіраваньня, уласьніка (упаўнаважанай ім асобы), а ва ўстаноўленых заканадаўствам выпадках і органа, які зьдзяйсьняе дзяржаўную рэгістрацыю праверанага падаткаплацельшчыка, аб выяўленых фактах парушэньняў заканадаўства і прычынах узьнікненьня з рэкамэндацыямі па іх ліквідацыі і папярэджаньні;

— Перадача ва ўстаноўленым парадку па ўзгадненьні з асобай, што прызначыла праверку, матэрыялаў у праваахоўныя органы, прыманьне мераў па пакрыцьці стратаў, учыненых дзяржаве, прыцягненьні да адказнасьці асобаў, дзеяньні (бязьдзеяньні) якіх пацягнулі за сабой парушэньні суб'ектам прадпрымальніцкай дзейнасьці заканадаўства аб падатках і прадпрымальніцтве;

— Унясеньне прапановы МПЗ і інспэкцыям МПЗ па абласьцях і г. Менску па ўдасканаленьні падатковага заканадаўства і арганізацыі працы дзяржаўных падатковых органаў у мэтах павышэньня эфэктыўнасьці эканамічнай дзейнасьці падаткаплацельшчыка і павелічэньня паступленьняў падаткаў у бюджэт.

### ВІДЫ ПАДАТКОВЫХ ПРАВЕРАК

Праверкі, што праводзяць падатковыя органы, падзяляюцца на камэральныя і выязныя. Апошнія на падставе прызначэньня падзяляюцца на плянавыя і пазаплянавыя, а па відах на комплексныя, мэтавыя, рэйдавыя і сустрэчныя.

*Камэральная падатковая праверка*

Камэральная падатковая праверка праводзіцца падатковым органам па месцы свайго знаходжаньня на падставе дадзеных падатковых разьлікаў, дэклярацыяў, бухгальтарскай справаздачнасьці і тлумачальных запісак да яе, іншых дакумэнтаў, зьвязаных з вылічэньнем і выплатай падаткаў, прадстаўленых падаткаплацельшчыкам, а таксама тлумачэньняў, прадстаўленых падаткаплацельшчыкам ці яго прадстаўнікамі, і тых дакумэнтаў і зьвестак, што ёсьць у падатковых органах. Камэральная праверка праводзіцца бяз выдачы прадпісаньня на яе правядзеньне, а таксама без паведамленьня падаткаплацельшчыку аб пачатку яе правядзеньня. У выпадку знаходжаньня парушэньняў заканадаўства аб падатках вынікі ка-




мэральнай праверкі афармляюцца актам праверкі. Не патрабуецца афармленьня акту камэральнай праверкі пры спагнаньні пені за несвоечасовую выплату падаткаў.

*Выязная падатковая праверка*

Выязная падатковая праверка праводзіцца па месцы жыхарства падаткаплацельшчыка ці ў памяшканьні інспэкцыі МПЗ (у выпадку несупадзеньня рэжыму працы ГА з рэжымам працы падатковага органа ці адсутнасьці ў ГА памяшканьняў і (ці) умоваў для разьмяшчэньня правяраючых).

Калі ў вас праводзіцца выязная падатковая праверка, ведайце:

**1.** Выязная падатковая праверка (акрамя сустрэчнай выязной праверкі ці выязной падатковай праверкі, што праводзіцца па прызначэньні вышэйстаячага падатковага органа ці па пастанове праваахоўных і судовых органаў) праводзіцца правяраючымі інспэкцыі МПЗ, на ўліку якой знаходзіцца падаткаплацельшчык, і (ці) службовымі асобамі МПЗ, інспэкцыяй МПЗ па абласьцях (горадзе Менску), інспэкцыяй МПЗ па гарадах, якія маюць раённае аддзяленьне.

**2.** Плянавая выязная падатковая праверка праводзіцца на падставе графіку праверак, які

зацьвярджаецца кіраўніком падатковага органа ў тэрмін не пазьней за 40 каляндарных дзён да пачатку наступнага паўгодзьдзя.

Графікі праверак — не дакумэнт для службовага карыстаньня і даводзяцца да падаткаплацельшчыкаў шляхам іх зьмяшчэньня на інфармацыйных стэндах, абсталяваных у памяшканьнях інспэкцыяў МПЗ. Плянавыя выязныя падатковыя праверкі плацельшчыкаў, якія праводзіць МПЗ ці інспэкцыі МПЗ па абласьцях і Менску, уключаюцца ў працоўныя пляны гэтых органаў, што складаюцца раз на квартал, зь пісьмовым паведамленьнем падаткаплацельшчыка і інспэкцыі МПЗ, на ўліку якой знаходзіцца дадзены падаткаплацельшчык, якое накіроўваецца за 15 дзён да пачатку праверкі. Пры звароце падаткаплацельшчыка ці яго прадстаўнікоў пра наяўнасьць у плацельшчыка ўважлівых прычынаў (адсутнасьць па хваробе ці знаходжаньне ў чарговым адпачынку (у камандыроўцы) адказнай службовай асобы, правядзеньне праверкі аўдытарскай арганізацыяй і інш.) плянавая выязная падатковая праверка можа быць перанесеная кіраўніком падатковага органа на больш позьні пэрыяд.

**3.** Плянавыя падатковыя праверкі аднаго і таго ж падаткаплацельшчыка праводзяцца ня больш як адзін раз на год, г.зн. чарговая плянавая праверка павінна прызначацца не раней як праз 12 месяцаў з даты ўручэньня акту праверкі па папярэдняй выязной праверцы, за выключэньнем выпадку, калі ГА прыняло рашэньне аб ліквідацыі (спыненьні дзейнасьці).

**4.** Пазаплянавая выязная падатковая праверка аднаго і таго ж ГА праводзіцца толькі па даручэньні Прэзыдэнта, Савету Міністраў, Камітэту дзяржаўнага кантролю, Савету па каардынацыі кантрольнай дзейнасьці ў Рэспубліцы Беларусь, праваахоўных, судовых і падатковых органаў. Абгрунтаванасьць прызначэньня падатковай праверкі, за выключэньнем той, што праводзіцца па даручэньні Прэзыдэнта, Савету Міністраў, Камітэту дзяржаўнага кантролю, можа быць абскарджаная ў вышэйстаячых падатковых органах, а таксама ў адпаведным Савеце па каардынацыі кантрольнай дзейнасьці ў вобласьці ці ў Савеце па каардынацыі кантрольнай дзейнасьці Рэспублікі Беларусь.

Падача скаргі не прыпыняе правядзеньне выязной падатковай праверкі.

**5.** Тэрмін правядзеньня праверкі не павінен перавышаць 30 працоўных дзён. Пры наяўнасьці аб'ектыўных прычынаў, якія не дазваляюць завяршыць праверку на працягу 30 працоўных дзён, тэрмін дзеяньня раней выдадзенага прадпісаньня можа быць працягнуты кіраўніком падатковага органа на падставе службовай запіскі правяраючага. У 30-дзённы тэрмін не ўваходзіць час, неабходны для правядзеньня падрыхтоўчай працы, а таксама для напісаньня акту праверкі.

**6.** У дзень пачатку выязной падатковай праверкі правяраючыя абавязаныя прадставіцца кіраўніку, галоўнаму бухгальтару ГА, а пры іх адсутнасьці — упаўнаважаным намесьнікам ці іншым упаўнаважаным прадстаўнікам, прад'явіць службовыя пасьведчаньні, інфармаваць аб пачатку выязной падатковай праверкі і ўручыць пазначаным асобам прадпісаньне на правядзеньне праверкі для азнаямленьня зь ім пад росьпіс. Адначасова правяраючыя ўзгадняюць парадак і месца правядзеньня праверкі, рэжым працы і іншыя пытаньні, зьвязаныя з забесьпячэньнем належных умоваў для правядзеньня праверкі. Па просьбе прадстаўнікоў падаткаплацельшчыка ім прадастаўляецца магчымасьць скапіяваць прадпісаньне. Дата ўручэньня прадпісаньня для азнаямленьня падаткаплацельшчыку зьяўляецца датай пачатку праверкі. Правяраючы пасьля азнаямленьня ГА з прадпісаньнем абавязаны зрабіць запіс у кнізе ўліку праверак (рэвізіяў).

**7.** У выпадку правядзеньня выязной падатковай праверкі ў службовым памяшканьні падатковага органа прыём і вяртаньне дакумэнтаў, прадстаўленых ГА для праверкі, ажыцьцяўляецца толькі ў сыстэматызаваным выглядзе ў тэчках, пранумараваных па лістах. Факт прыёму дакумэнтаў на праверку афармляецца шляхам складаньня акту прыёму-вяртаньня дакумэнтаў, у якім пазначаецца: кім і ад каго прынятыя дакумэнты, назвы прынятых тэчак з дакумэнтамі з пазнакай колькасьці лістоў дакумэнтаў, якія ўтрымліваюцца ў кожнай тэчцы. Вяртаньне дакумэнтаў ГА праводзіцца толькі пасьля праверкі апошнім захаванасьці дакумэнтаў. Пры атрыманьні дакумэнтаў плацельшчык на першым асобніку акту прыёму-вяртаньня павінен зрабіць запіс аб наяўнасьці (адсутнасьці) прэтэнзіяў па захаванасьці прадстаўленых для праверкі дакумэнтаў. Акт прыёму-вяртаньня замацоўваецца подпісам плацельшчыка і правяраючага. Акт прыёму-вяртаньня не складаецца ў тым выпадку, калі праверка праводзіцца ў інспэкцыі МПЗ у прысутнасьці плацельшчыка і завяршаецца на працягу аднаго працоўнага дня.

**8.** Падчас праверкі ГА можа сутыкнуцца з такім момантам, як канфіскацыя дакумэнтаў. Тут важна пракантраляваць правільнасьць правядзеньня і афармленьня канфіскацыі, а менавіта: у выпадку прыняцьця рашэньня аб канфіскацыі дакумэнтаў, якія сьведчаць пра заніжэньне (утойваньне) ГА аб'ектаў падаткаабкладаньня, складаецца вопіс канфіскацыі дакумэнтаў. У абавязковым парадку падатковы орган, службовыя асобы якога правялі канфіскацыю, абавязаны прадаставіць магчымасьць плацельшчыку зрабіць ксэракопію канфіскаваных дакумэнтаў, якія павінны быць зьмешчаныя ў справы замест канфіскаваных арыгіналаў, аб чым робіцца пазнака ў вопісе канфіскацыі. Вопісы канфіскацыі дакумэнтаў складаюцца ў двух асобніках і падпісваюцца асобай, што праводзіла канфіскацыю, і кіраўніком (іншай службовай асобай) ГА, якое правяраецца.

**9.** Па выніках выязной праверкі ГА, падчас якой выяўленыя парушэньні заканадаўства аб падатках і прадпрымальніцтве, складаецца акт. Калі падчас праверкі ГА ня выяўлена парушэньняў заканадаўства аб падатках і прадпрымальніцтве, складаецца даведка. У выпадках, калі выяўленае парушэньне можа быць утоенае ці па выяўленых фактах неабходна прыняць тэрміновыя меры для іх зьнішчэньня і прыцягненьня да адказнасьці вінаватых службовых асобаў, да завяршэньня праверкі складаецца асобны (прамежкавы) акт па выяўленых парушэньнях.

### АКТ ПА ВЫНІКАХ ПРАВЕРКІ

Акт праверкі (рэвізіі) павінен утрымліваць устаноўленыя нарматыўнымі актамі зьвесткі. У

актах павінны быць выкладзеныя толькі факты парушэньняў з указаньнем пункту і артыкула нарматыўных прававых актаў, якія былі парушаныя. Уключэньне ў акт праверкі (рэвізіі) зьвестак, не пацьверджаных дакумэнтальна, забароненае. Да акту праверкі таксама могуць быць прыкладзеныя копіі ці вытрымкі з розных дакумэнтаў, а таксама даведкі і разьлікі, складзеныя на падставе правераных дакумэнтаў, засьведчаных ва ўстаноўленым парадку.

Днём складаньня акту праверкі лічыцца дзень падпісаньня акту правяраючымі і падаткаплацельшчыкам пры ўмове, што падаткаплацельшчык ці яго прадстаўнікі не ўхіляліся ад падпісаньня акту праверкі ці ўручэньня (накіраваньня заказной поштай з паведамленьнем) акту праверкі падаткаплацельшчыку (яго прадстаўнікам) для азнаямленьня і падпісаньня, пра што робіцца адпаведны запіс на першым асобніку акту. Акт выязной падатковай праверкі павінен быць складзены правяраючымі не пазьней за 5 працоўных дзён з даты завяршэньня праверкі. Акты падпісваюцца правяраючымі і ГА (яго прадстаўніком у асобе кіраўніка (іншай упаўнаважанай асобы) і галоўнага бухгальтара). Падпісаньне акту праверкі адбываецца ў памяшканьні падатковага органа, службовыя асобы якога праводзілі праверку.

Кіраўнікі ГА часта задаюць пытаньне, ці трэба падпісваць акт праверкі. Нарматыўнымі актамі ўстаноўлена, што пры адмове кіраўніка, іншай упаўнаважанай асобы ГА ад падпісаньня акту ў ім робіцца адпаведны запіс. Дадзеная асоба можа таксама пісьмова выкласьці матывы адмовы ад падпісаньня акту. Аднак за адмову падпісаць акт праверкі падаткаплацельшчык ці яго прадстаўнік можа быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасьці за невыкананьне патрабаваньняў службовых асобаў падатковых органаў[3].

### ПЯРЭЧАНЬНІ ПА АКЦЕ ПРАВЕРКІ

Пры наяўнасьці пярэчаньняў па акце праверкі падпісваючыя яго службовыя асобы ГА, якое правяраецца, робяць пра гэта запіс перад сваім подпісам і не пазьней за 5 працоўных дзён з дня падпісаньня акту прадастаўляюць у пісьмовым выглядзе пярэчаньні па яго зьмесьце ў падатковую інспэкцыю, што прызначыла праверку. Па заканчэньні 5-дзённага тэрміну пярэчаньні да разгляду не прымаюцца.

### АБСКАРДЖАНЬНЕ ДЗЕЯНЬНЯЎ СЛУЖБОВЫХ АСОБАЎ ПАДАТКОВЫХ ОРГАНАЎ

ГА можа абскардзіць дзеяньні правяраючых на любой стадыі падатковай праверкі. Скаргі на дзеяньні службовых асобаў інспэкцыі МПЗ, акрамя скаргаў на адміністрацыйныя спагнаньні, падаюцца на працягу месяца ў тыя інспэкцыі МПЗ, якім яны непасрэдна падпарадкоўваюцца. Скаргі разглядаюцца і рашэньні па іх прымаюцца не пазьней за месяц з моманту паступленьня скаргі. Пазначаныя рашэньні могуць быць абскарджаныя на працягу месяца ў вышэйстаячай інспэкцыі МПЗ ці ў гаспадарчым судзе.

### ПРЫНЯЦЦЕ ПАДАТКОВЫМІ ОРГАНАМІ РАШЭНЬНЯЎ АБ ПРЫМЯНЕНЬНІ ЭКАНАМІЧНЫХ САНКЦЫЯЎ[4]

Па заканчэньні 5 працоўных дзён з дня складаньня акту падатковай праверкі і пры адсутнасьці пісьмовых пярэчаньняў ГА, якое правяраецца, у яго зьмесьце кіраўніку падатковага органа ўносіцца праект рашэньня аб прымяненьні эканамічных санкцыяў. Пярэчаньні ГА на высновы па выніках праверкі, якія паступілі цягам 5 працоўных дзён, разглядаюцца ў інспэкцыі МПЗ, якая праводзіла праверку аб'яднаньня, у тэрмін ня больш за 15 працоўных дзён з дня іх паступленьня.

Па выніках разгляду пярэчаньняў правяраючы складае заключэньне, зь якім пад подпіс знаёмяцца ўпаўнаважаныя прадстаўнікі ГА. У выпадку адпаведнасьці высноваў па выніках праверкі патрабаваньням дзеючага заканадаўства складаецца праект рашэньня аб прымяненьні эканамічных санкцыяў па акце праверкі. Рашэньне аб прымяненьні эканамічных санкцыяў — адначасовы адказ на пярэчаньні, якія паступілі. Калі па выніках разгляду пярэчаньняў плацельшчыка ў акт праверкі будуць унесеныя зьмены, у сувязі зь якімі адпадуць падста-

заўвагі

[1] Пастанова Міністэрства па падатках і зборах РБ (далей МПЗ) ад 29.07.2002 № 79 “Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у Палажэньне аб парадку арганізацыі і правядзеньні праверак падатковымі органамі”, зацьв. Загадам Дзяржаўнага падатковага камітэту РБ ад 30 сьнежня 1999 г. № 326” (зарэгістравана ў Нацыянальным рэестры нарматыўных актаў РБ 24.12.2002).

[2] Кампэтэнцыя, правы службовых асобаў падатковых органаў (правяраючых) пры правядзеньні праверак вызначаюцца Законам “Аб дзяржаўнай падатковай інспэкцыі Рэспублікі Беларусь” ад 2.02.1994 №2737-XII (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 9.07.1997) і Палажэньнем аб парадку арганізацыі і правядзеньні праверак падатковымі органамі, зацьв. Загадам Дзяржаўнага падатковага камітэту РБ ад 30.12.1999 № 326 (у рэдакцыі ад 29.07.2002).

[3] Зьвярніце, калі ласка, сваю ўвагу на дадзенае палажэньне. Раней у заканадаўстве адсутнічала магчымасьць прыцягненьня да адміністрацыйнай адказнасьці за непадпісаньне акту праверкі.

[4] Эканамічная санкцыя — устаноўленая актамі заканадаўства мера дзяржаўнага прымусу, якая мае характар маёмаснага і (ці) немаёмаснага ўзьдзеяньня і прымяняецца да суб'екта прадпрымальніцкай дзейнасьці за зьдзяйсьненьне эканамічных правапарушэньняў.

вы для прыцягненьня ГА да эканамічнай адказнасьці, пра вынікі разгляду пярэчаньняў падатковы орган інфармуе аб'яднаньне лістом.

Пры наяўнасьці фактаў парушэньняў ГА канкрэтных прадпісаньняў актаў заканадаўства, якія рэгулююць эканамічныя адносіны ў Рэспубліцы Беларусь і (ці) прадугледжваюць эканамічную адказнасьць за дадзены від правапарушэньня, кіраўнік падатковага органа ад імя інспэкцыі МПЗ не пазьней за 30 дзён з дня складаньня акту праверкі выносіць рашэньне аб прымяненьні да плацельшчыка эканамічных санкцыяў.

Да ГА ня могуць быць прыменены эканамічныя санкцыі, калі сышлі наступныя тэрміны:

— два гады з дня зьдзяйсьненьня правапарушэньня;

— тры месяцы з дня выяўленьня правапарушэньня.

Рашэньне інспэкцыі МПЗ аб прымяненьні эканамічных санкцыяў па акце падатковай праверкі на працягу 5 дзён з дня яго прыняцьця ўручаецца асабіста пад подпіс прадстаўнікам ГА ці перадаецца іншым спосабам, які дазваляе ўстанавіць дату яго атрыманьня падаткаплацельшчыкам. Не падлягае выкананьню рашэньне падатковага органа аб прымяненьні да плацельшчыка эканамічных санкцыяў, калі яно не было ва ўстаноўленым парадку накіраванае плацельшчыку (уручана прадстаўнікам плацельшчыка) цягам 3 месяцаў з дня яго вынясеньня, за выключэньнем выпадкаў рэгістрацыі ГА па фіктыўных дакумэнтах, ці пры немагчымасьці ўстанаўленьня месцазнаходжаньня прадстаўнікоў аб'яднаньня.

### АБСКАРДЖАНЬНЕ РАШЭНЬНЯЎ ПАДАТКОВЫХ ОРГАНАЎ

Рашэньне аб прымяненьні эканамічных санкцыяў можа быць абскарджана плацельшчыкам у вышэйстаячым падатковым органе на працягу 5 працоўных дзён з дня яго атрыманьня (дасудовы парадак урэгуляваньня спрэчкі). Рашэньні інспэкцыі МПЗ па абласьцях і Менску, прынятыя па выніках праведзеных праверак службовымі асобамі гэтых інспэкцыяў, абскарджваюцца ў МПЗ, а рашэньні службовай асобы МПЗ накіроўваюцца самому міністру.

Падача скаргі ва ўстаноўлены тэрмін прыпыняе выкананьне рашэньня. У выпадку падачы скаргі зь перавышэньнем устаноўленага тэрміну яна можа быць прынятая да разгляду без прыпыненьня выкананьня рашэньня.

Вышэйстаячы падатковы орган абавязаны разгледзець скаргу цягам 30 дзён з дня яе паступленьня і прыняць адно з наступных рашэньняў:

— пакінуць рашэньне бязь зьменаў, а скаргу — без задавальненьня;

— адмяніць рашэньне поўнасьцю ці часткова;

— адмяніць рашэньне і прызначыць правядзеньне дадатковай праверкі.

Паўторныя скаргі на адной і той жа падставе, па якой атрыманы адказ і не існуе ізноў адкрытых абставінаў, не разглядаюцца.

У выпадку нязгоды з прынятым вышэйстаячым падатковым органам рашэньнем па скарзе ГА можа зьвярнуцца з адпаведнай іскавай заявай у гаспадарчы суд на працягу аднаго году з дня вынясеньня рашэньня аб прымяненьні эканамічных санкцыяў.

ГА-правапарушальнік абавязанае на падставе рашэньня інспэкцыі МПЗ зрабіць выплату эканамічных санкцыяў на працягу 15 каляндарных дзён з дня атрыманьня ім рашэньня, а ў выпадку абскарджаньня рашэньня — на працягу 15 каляндарных дзён з дня паведамленьня аб пакіданьні скаргі без задавальненьня ці з дня вынясеньня судом рашэньня аб пакіданьні ў сіле (поўнасьцю ці часткова) рашэньня інспэкцыі МПЗ.